Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№7 (4551) 19 лютага 2010 г.

## У нумары:





Пачаўся Год Івана Хруцкага, чый сёлетні юбілей уключаны ў каляндар памятных дат ЮНЕСКА. Дзень яго хрышчэння, які прынята лічыць і днём нараджэння мастака, для культурнай грамадскасці нашай краіны атрымаўся святочным. Апоўдні ў будынку галоўнага паштамта сталіцы адбылося прэзентацыя паштовага блока з дзвюх марак “200 гадоў з дня нараджэння І. Ф. Хруцкага” ды памятнага канверта “Першы дзень” і спецыяльнае іх гашэнне. Праз некалькі гадзін гасцей прымаў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, у залах якога размясцілася некалькі экспазіцый, прымеркаваных да юбілею нашага выдатнага земляка.



# Збіраем — сваё...

У чаканні ўрачыстага адкрыцця выстаўкі твораў І. Хруцкага публіка разглядала арыгінальныя экспанаты, прадстаўленыя ў вітрыне. Тут і ўжо згаданы юбілейны паштовы блок, выпушчаны Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі Беларусі, аформлены мастакамі Аксанай Сузько (яна ж аўтар малюнка для штэмпеля спецгашэння і афармлення канверта) ды Іванам Лукіным. І маляўніча аздобленая срэбная манета (дызайнер-мастак Святлана Някрасава) Нацыянальнага банка Беларусі. І пластычныя работы нашага сучасніка Алеся Шацілы — творы медальернага мастацтва, прысвечаныя І.Хруцкаму. Адбыўся і першы ў гэтых сценах вернісаж невялікай падборкі жывапісу праўнучкі знакамітага мастака — Ядвігі Мацієўскай (1966 — 1996), лёсу і творчасці якой будзе прысвечана публікацыя ў адным з наступных нумароў “ЛіМа”.

На свята прыехалі пасланцы сёлетняй культурнай сталіцы Беларусі — Полацка: дырэктар Полацкага нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка Вольга Бародзіч ды старшыня гарадскога выканаўчага камітэта Уладзімір Тачыла. Пра што распавядалі госці? Найперш пра тое, як іх старажытны легендарны край (дзе ў радзінным маёнтку Захарнічы жыў свае апошнія 30 гадоў і быў пахаваны на мясцовых могілках І.Хруцкі, дзе, воляю Я.Мацієўскай, спачывае і яе прах) рыхтуецца адзначыць юбілей жывапісца. На Полаччыне плануецца ўстанавіць бюст вялікага земляка; восенню Нацыянальны мастацкі музей Беларусі наладзіць у культурнай сталіцы, дзе імем І.Хруцкага названа вуліца, выстаўку яго работ; працягнецца навуковая праца з творчай спадчынай Я.Мацієўскай, якая падаравала Полацкай мастацкай галерэі сотні сваіх карцін: неўзабаве будзе складзены іх каталог...



А вось пра поўны каталог твораў Івана Хруцкага можна толькі марыць. Ніхто дакладна не ведае, колькі сёння іх захавалася ў свеце, бо ў свой час многія з нацюрмортаў, пейзажаў “аселі” ў інтэр’ерах сядзіб і салонаў, у прыватных зборах; найбольш папулярныя кампазіцыі жывапісец паўтараў сам, але даследчыкамі выяўленыя і шматлікія падробкі “а ля Хруцкі”. Самай поўнай лічыцца калекцыя галоўнай мастацкай скарбніцы нашай краіны — 24 творы. Напалову меншай валодае Дзяржаўная Траццякоўская галерэя ў Расіі. Ёсць работы І. Хруцкага ў некаторых іншых музеях Расіі, Латвіі, Польшчы, у храмах Літвы... Дырэктар НММ Беларусі Уладзімір Пракапцоў падзяліўся з журналістамі амбіцыйнай задумай: праз 5 гадоў сабраць у Мінску “ўсяго Хруцкага” (пакуль выяўлена крыху больш як 100 работ) і падтрымаць унікальную міжнародную выстаўку выданнем альбома-каталога ды стварэннем яго электроннай версіі. Праект прыгожы, ды надзвычай дарагі...

> «Партрэт невядомай з кветкамі і садавіной», «Бітая дзічына, агародніна і грыбы», партрэты уніяцкага мітрапаліта Ісафата Булгака, прадстаўніка буйной фірмы выдаўцоў і гандляроў кнігамі Ільі Глазунова, старшыні Віцебскай казённай палаты Пятра Рубцова ды іншыя творы Івана Хруцкага экспануюцца ў музеі побач з палотнамі нашых землякоў-жывапісцаў Нікадзіма Сіліврановіча, Сяргея Заранкі, Апалінара Гараўскага.

Затое галоўны праект юбілейнага года — выстаўка работ беларускага мастака-класіцыста ў культурнай сталіцы свету — пачынае ажыццяўляцца. Мінулым летам у Мінск прыязджаў прэзідэнт-дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Францыі “Луўр” Анры Луарэт. Азнаёміўшыся з работамі І. Хруцкага, ён выказаў пажаданне, каб для запланаванай у Парыжы экспазіцыі былі выбраныя палотны, датаваныя не пазней як 1848 годам. Іх спіс ужо накіраваны ў Парыж. Ёсць таксама дамоўленасць, што 22 верасня вернісаж І. Хруцкага адбудзецца ў штаб-кватэры ЮНЕСКА. Там творы нашага земляка прабудуць 10 дзён, а на пачатку кастрычніка мяркуецца прадставіць іх у Луўры — перамовы наконт гэтага з кіраўніцтвам знакамітага музея цяпер вядзе Пасольства Рэспублікі Беларусь у Францыі.

Збіранне, асэнсаванне незаслужана забытай, адрынутай мастацкай спадчыны, яе вяртанне ва ўлонне беларускай культуры, вывучэнне і шанаванне як сваёй, роднай, папулярызацыя ў свеце як менавіта нашага нацыянальнага набытку... Пра гэта разважалі ўдзельнікі свята міністр культуры Павел Латушка, народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч. А ў няпростым працэсе збірання нашых залацінак, “раскіданых” па суседніх культурах, выключную ролю адыгрывае Нацыянальная камісія па справах ЮНЕСКА ў Беларусі. Дарэчы, яе старшыня — вядомы дыпламат, эрудзіраваны рупліўца беларускага культурнага адраджэння Уладзімір Шчасны зазначыў, што прапанова нашай краіны наконт уключэння юбілею І.Хруцкага ў каляндар адметных дат, да святкавання якіх спрычыняецца ЮНЕСКА, увайшла ў яскравы кантэкст. У 2010 — 2011 гг. на сусветным узроўні святкуюцца таксама 500-годдзе Івана Фёдарава, 200-годдзе Фрыдэрыка Шапэна і Феранца Ліста, 150-годдзе Антона Чэхава... Правядзенне выстаўкі І. Хруцкага за мяжой, безумоўна, важная частка юбілейнай падзеі. Але галоўнае, на думку У.Шчаснага, — прыцягнуць увагу шырокай грамадскасці да творчасці мастака. Менавіта святкаванне памятных для нас дат на ўзроўні ЮНЕСКА паспрыяла распаўсюджванню ведаў — і на радзіме, і за мяжой — пра такіх слаўных сыноў Беларусі, як Ігнат Дамейка, Напалеон Орда, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч...

Пакуль госці вернісажа дзівіліся на эфектнае і дасканалае майстэрства Івана Хруцкага, у кутках выставачнай залы адбываўся жывы творчы працэс: юныя наведнікі мастацкай студыі пры музеі асвойвалі новыя пазлы, выпушчаныя ў юбілейны год Майстра паводле яго карцін. Псіхолагі сцвярджаюць, што гульня ў галаваломкі-пазлы ва ўсялякім узросце спрыяе развіццю вобразнага і лагічнага мыслення, вучыць правільна ўспрымаць сувязь паміж часткай і цэлым, развівае пільнасць, памяць, уяўленне, здольнасці чалавека да пазнання... І мне падалося глыбока сімвалічным тое, як натхнёна, захоплена, старанна і радасна збіраюць маленькія дзеці складаны мазаічны малюнак, як з бясформеннага россыпу дробных фрагментаў паўстае цэласная гарманічная выява — знакавая часцінка беларускага мастацтва. Гэтак жа ўсе мы, неабыякавыя да лёсу нацыянальнай спадчыны, нібы збіраем сёння яе пазл: па зерні, па каліўцы знаходзім сваё, каб адрадзіць цэласны і непаўторны гістарычна-культурны ландшафт Беларусі на сусветным абшары.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: медаль з выявай Івана Хруцкага — работа Алеся Шацілы; містычнае падабенства (ля “Партрэта невядомай”).

Фота Кастуся Дробава

## Пункцірам

● Як паведамілі ў прэс-службе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Аляксандр Лукашэнка сваім указам узнагародзіў дзяржаўнымі ўзнагародамі 33 грамадзян краіны. Сярод іншых, ордэнам Айчыны II ступені ўдастоены вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Расціслаў Янкоўскі. Ордэн Пашаны атрымаў дырэктар Лужаснянскай школы-інтэрната-гімназіі для здольных і таленавітых дзяцей Віцебскай вобласці Уладзімір Шыцько. Член Беларускага саюза музычных дзеячаў Іна Зубрыч адзначана ордэнам Францыска Скарыны.

Сярод узнагароджаных медалямі "За працоўныя заслугі" і Францыска Скарыны — супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка, Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, іншых навучальных устаноў краіны, а таксама прадстаўнікі тэатральных і танцавальных калектываў.

● Пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Беларусі Уладзіміра Патупчыка прайшло першае пасяджэнне нацыянальнага аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Дня беларускага пісьменства ў Хойніках. Было адзначана, што свята на радзіме пісьменніка Івана Мележа павінна адрозніваецца ад падобных мерапрыемстваў, якія праводзіліся ў іншых райцэнтрах, паведамляе БелТА. "Тут ёсць свае унікальныя традыцыі, і хацелася б іх захаваць. Наша задача — раскрыць патэнцыял гэтага рэгіёну", — падкрэсліў Уладзімір Патупчык.

● Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" Веру Чэрнікаву — галоўнага спецыяліста ўпраўлення электронных сродкаў масавай інфармацыі міністэрства, Уладзіміра Лемеха — дырэктара адкрытага акцыянернага таварыства "Брэсткніга", Міхаіла Бурака — намесніка генеральнага дырэктара па фінансава-эканамічнай рабоце рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку".

● Некалькі соцень твораў Янкі Купалы — вершы, паэмы, п'есы, артыкулы — задзейнены музычнымі вобразамі, тэрмінамі, назвамі песень, танцаў, музычных інструментаў. Таму невыпадкова ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбыўся канцэрт класічнай музыкі "Зімнія вечары ў Купалавым доме" ў рамках творчага праекта "Музыка ў музеі". Падчас музычнай дзеі прагучалі кампазіцыі часоў барока ў выкананні ансамбля камернай і вакальнай музыкі "Floris musicae".

● Выстава работ маладых бранскіх мастакоў адкрылася ў музеі гісторыі горада Гомеля, расказала галоўны захавальнік фондаў Настасся Ропат. У мастацкім праекце, а ажыццёўлены ён у рамках пабрацімскіх сувязей паміж беларускім абласным цэнтрам і Бранскам, прымаюць удзел 23 майстры пэндзля з прыгранічнай расійскай вобласці. У экспазіцыі прадстаўлена больш як 30 карцін — у асноўным пейзажы і пейзажы. Ініцыяраваў выставу вядомы беларускі мастак Анатоль Шчогалеў пры падтрымцы Бранскай абласной арганізацыі Саюза мастакоў Расійскай Федэрацыі і музея гісторыі горада Гомеля.

Падрыхтавалі Бажэна Строк
і Віктар ЗАЯЦ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Поле дзейнасці пашыраецца

У Мінску створаны і актыўна працуе Мінскі гарадскі каардынацыйны савет грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый. У яго ўвайшлі дзевятнаццаць кіраўнікоў найбольш уплывовых на грамадскае і палітычнае жыццё сталіцы гарадскіх падраздзяленняў вядомых у рэспубліцы аб'яднанняў і партый. Сярод іх Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Каардынацыйны савет з'яўляецца пастаянным калегіяльным органам па выпрацоўцы і ажыццяўленні ўзгодненых мерапрыемстваў, накіраваных на сумесную рэалізацыю дзяржаўнай сацыяльнай палітыкі і падтрыманне стабільнасці ў грамадстве.

Мэтай каардынацыйнага савета з'яўляецца кансалідацыя канструктыўных сіл грамадства, умацаванне грамадзянскай згоды і падтрыманне грамадска-палітычнай стабільнасці ў дзяржаве, арганізацыя і ажыццяўленне цеснага супрацоўніцтва грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый на тэрыторыі горада Мінска, выпрацоўка і каардынацыя іх практычных дзеянняў.

Дзейнасць каардынацыйнага савета ўзгадняецца з Упраўленнем ідэалагічнай работы Мінскага гарвыканкама, якое нядаўна ўзначаліў Сяргей Хільман.

Распрацаваны і зацверджаны план работы каардынацыйнага савета, які праводзіць свае пасяджэнні раз у месяц цяпер асноўным пытаннем, якім займаецца свет, з'яўляецца выбарчая кампанія 2010 года, падрыхтоўка і правядзенне выбараў у Мінскі гарадскі савет дэпутатаў. Другім найбольш значным кірункам дзейнасці вызначана падрыхтоўка і ўдзел у мерапрыемствах, прысвечаных 65-годдзю Вялікай Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Планамі пасяджэння савета і работы яго падраздзяленняў прадугледжвана і абмеркаванне самага шырокага спектра пытанняў жыццядзейнасці сталіцы і шматлікія мерапрыемствы грамадска-палітычнага характару. У сувязі з гэтым, безумоўна, узрастае і роля сталічнага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, якое будзе больш актыўна задзейнічана як у культурна-асветніцкай, прапагандысцкай, так і ў грамадска-палітычнай рабоце агульнагарадскога значэння.

Міхась ПАЗНЯКОЎ,
старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, член Мінскага каардынацыйнага савета грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый.

## Аўтарытэтна

Сёлета плануецца актывізаваць ролю і ўдзел Міністэрства культуры Беларусі ў арганізацыі святкаванняў Дня беларускага пісьменства, які пройдзе 5 верасня ў Хойніках. Пра гэта паведаміў міністр культуры краіны Павел ЛАТУШКА падчас правядзення XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

# У гармоніі з мінулым




Што да самой кніжнай выстаўкі, то Павел Паўлавіч адзначыў:

— Бясспрэчна, у галіне кнігавыдання і кнігараспаўсюджвання павінны актывізавацца кантакты на прасторы СНД, на ўсёй еўрапейскай прасторы. Мы павінны больш удзельнічаць у розных кніжных мерапрыемствах, міжнародных форумах, і гэта дасць магчымасць беларускім чытачам хутчэй знаёміцца з новымі мастацкімі творамі.

У век інфармацыйных тэхналогій Інтэрнэт, на жаль і на шчасце, дае нам магчымасць пазнаёміцца з многімі навінкамі літаратуры. Хаця я ўсё-такі лічу за лепшае пагартаць кнігу, узяць яе ў рукі і адчуць пах. Гэта важна для эмацыянальнага ўспрымання таго, што сатварыў творца — паэт, празаік.

Міністэрствам культуры Беларусі прыняты адмысловы план па святкаванні 80-годдзя Уладзіміра Караткевіча, у якім мы прадугледжваем правядзенне канферэнцый і прэзентацый, урокаў у школах, плануецца выданне кніг Уладзіміра Караткевіча. І спадзяёмся, што ў гэтым годзе ў Кіеве будзе адкрыты помнік Уладзіміру Караткевічу. Плануем таксама ўшанаваць памяць нашага выбітнага класіка беларускай літаратуры на ўсёй Беларусі.

Адказаў міністр і на пытанне, што чытае ў вольны час:

— Я хацеў бы найперш знайсці гэтую хвілінку — гадзіну, паўгадзіны для таго, каб пачытаць. На жаль, праца займае большасць часу і ўдаецца чытаць пераважна толькі сцэнарыі будучых фільмаў альбо п'есы нашых драматургаў, якія ў хуткім часам з'явяцца ў тэатры. Адзін сцэнарый чытаў літаральна да трох ночы, ён напісаны нашым беларускім драматургам Андрэем Курэйчыкам, у мяне засталіся вельмі добрыя ўражанні.

— Як вядома, Міністэрства культуры краіны выступіла з ініцыятывай правядзення акцыі "Культурная сталіца Беларусі". Акцыя ўжо распачата, культурнай сталіцай Беларусі 2010 года лічыцца Полацк. Якая галоўная мэта акцыі і які ў яе чакаецца працяг?

— Галоўная мэта акцыі "Культурная сталіца Беларусі" — паказаць, што кожны жыхар нашай краіны, і кожны жыхар рэгіёна мае права пазнаёміцца з тым самым найкаштоўнейшым, што створана апошнім часам у нашай нацыянальнай культуры і што мы маем у сваёй гісторыі. Зразумела, што галоўны культурны, палітычны, эканамічны сталіцай Беларусі з'яўляецца горад Мінск. Але мэта названай праграмы — даць магчымасць нашым рэгіёнам паказаць сваю адметнасць. Першы горад такога праекта — Полацк. Старажытны гісторыка-культурны і духоўны цэнтр беларускай зямлі, які адыграў вельмі значную ролю ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці.

І другі горад, думаю, будзе выбірацца на падставе конкурсу. Рашэнне плануецца прыняць у другой палове гэтага года.

— Цяпер гавораць таксама і аб магчымым наданні некаторым гарадам Беларусі статуса горада-музея. Да прыкладу, Гродна альбо Полацку...

— Такое рашэнне, бясспрэчна, павінна прымацца на ўзроўні ўрада. Перад тым, як надаць такі статус якому гораду, мы павінны ўсё вельмі дакладна вывучыць, прааналізаваўшы, што ён значыць для нашай гісторыі і для сучаснасці, што робіцца ў горадзе для захавання гісторыі і культуры і што патрэбна зрабіць на перспектыву.

Гутарыла Ірына ТУЛУПАВА
Фота Уладзіміра Падаляка

## Эксклюзіў

# Рукапісныя шэдэўры

Прэзентацыя рукапісных кніг Юрася Малаша адбылася ў межах правядзення XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. На пачатку III тысячагоддзя наведвальнікі змаглі пабачыць і пагартаць адразу 10 рукапісных кніг: "Покліч Рагнеды", "Дзівосны лубок", "Сусвет душою беларуса", "Мастацтва Казіміра Малевіча", "Рухайся наперад, беларусе"…

Сотні старонак гэтых кніг напісаны рукою Юрася Малаша ды ўпрыгожаны дзесяткамі малюнкаў і незвычайнымі чырвонымі ініцыяламі з нацыянальнымі арнаментамі, якія падобны да старажытнага стылю пісьма. Але захоўваюць і сваё — індывідуальнае аўтарскае пісьмо, якое ў кожнай новай кнізе вызначаецца новай мастацкай формай.

Доктар філалагічных навук М. Нікалаеў, які прыехаў з Пецярбурга і прэзентаваў на выставе першы том "Гісторыі беларускай кнігі", адзначыў самадастатковасць і арыгінальнасць кніг Ю. Малаша, асабліва яго ілюстрацыі да паэмы Янкі Купалы "Тарыслава", кнігі "Дзівосны лубок". Французскі мастак-ілюстратар П'ер Корнюэль, які на працягу чатырох дзён прэзентаваў свае кнігі на стэндзе Францыі, таксама звярнуў увагу на працу беларускага каліграфа і мастака. У свой час рукапісныя кнігі Ю. Малаша "Покліч Рагнеды" і "Дзівосны лубок" былі набыты ў фонды Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Урадавай бібліятэкі Беларусі, асобныя кнігі аўтара захоўваюцца ў беларускіх музеях, бібліятэках, БДАМЛМ.

Дарэчы, першай рукапіснай кнігай, створанай сучаснікам XXI ст. і выдадзенай дзяржаўнай установай на тэрыторыі СНД, была кніга Ю. Малаша "Патаемнае наіўных мастакоў Беларусі", якая пабачыла свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва" ў 2007 годзе.

Язэп МАЛА

## Праекты

# Узнаўленне — віртуальнае

У рамках дзейнасці па вяртанні культурных каштоўнасцей Беларусі пры ўсебаковай падтрымцы ЮНЕСКА быў ажыццёўлены маштабны праект па віртуальнай рэканструкцыі бібліятэкі і архіваў Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў.



Праект быў рэалізаваны сумесна бібліятэкамі і архівамі шасці краін, на тэрыторыі якіх знаходзяцца захаваныя часткі архіўна-бібліятэчнага комплексу Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў: Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны і Фінляндыі.

У сярэдзіне XX стагоддзя архіў і бібліятэка ардынацыі Радзівілаў падзялілася на некалькі частак. Самыя вялікія зборы знаходзяцца ў Беларусі і Польшчы. Сёння дзякуючы развіццю інфармацыйных тэхналогій атрымаў папулярызацыю такі шлях вяртання культурных каштоўнасцей, як перадача лічбавых копій дакументаў ці прадастаўленне іх на доўгатэрміновы дэпазіт. Прыклад таму — выстава Слуцкіх паясоў у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі з фондаў расійскіх музеяў. "Спачатку яны былі перададзеныя нам на год, цяпер тэрмін карыстання падоўжаны яшчэ на год, і, магчыма, будзе працяг", — падкрэсліў старшыня Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА, пасол па асобых даручэннях Міністэрства замежных спраў Уладзімір Шчасны.

Як адзначыў дырэктар Беларускага навукова-даследчага цэнтра электронnай дакументацыі Вячаслаў Насевіч, адным са значных вынікаў праекта з'явілася ўключэнне па ініцыятыве беларускага боку дакументальнай спадчыны Радзівілаў у сусветны рэестр "Памяць свету".

Завяршальным этапам праекта стала стварэнне адзінага інфармацыйнага рэсурсу "Дакументальная спадчына Рэчы Паспалітай", якая ўтрымлівае звесткі аб 1114 фондах і калекцыях на тэрыторыі 10 краін. У рэсурсе дадзена падрабязнае апісанне болей як 9 000 спраў і дакументаў Нясвіжскага архіва.

Дзяржаўнаму музею гісторыі тэатральнай і музычнай культуры ўжо перададзены на электронных носьбітах і мікрафільмах копіі архіва Міхала Клеафаса Агінскага. Сумесна з украінскім бокам вядзецца віртуальнае ўзнаўленне бібліятэкі роду Храптовічаў, якая была перададзена на захоўванне прадстаўнікамі гэтага роду ў 1913 годзе Кіеўскаму універсітэту Св.Уладзіміра.

Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі перададзена віртуальная копія Евангелля Васіля Цяпінскага, якое захоўваецца ў Архангельскім абласным краязнаўчым музеі. Падрыхтаваны і дыск "Падпольны партызанскі друк".

У будучым пры садзейнасці ЮНЕСКА пачнецца ажыццяўленне праекта па віртуальнай рэканструкцыі бібліятэчнага збору Сапегаў.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымку: Вячаслаў Насевіч.

Фота аўтара

# Выданне «Нашай Нівы» завершана!

## Літ-абсягі

Прыкметнай падзеяй на XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы стала з'яўленне на другі дзень на стэндзе выдавецтва "Тэхналогія" 5-га выпуску факсімільнага выдання газеты "Наша Ніва". Адзіны экземпляр паступіў сюды проста з друкарскага варштата.




Нагадаем, што газета "Наша Ніва" адыграла выключную ролю ў нацыянальным абуджэнні беларусаў, у згуртаванні і выхаванні нашай інтэлігенцыі, у барацьбе за грамадскае прызнанне самога факта існавання беларускага народа і яго роўнасць з іншымі народамі. Неацэнная заслуга газеты ў развіцці новай беларускай літаратуры і сучаснай літаратурнай мовы. На старонках "Нашай Нівы" публікаваліся творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Вацлава Ластоўскага, Каруся Каганца, Змітрака Бядулі, Максіма Гарэцкага, Сяргея Палуяна, Лявона Гмырака, дзесяткаў іншых пісьменнікаў і публіцыстаў.

Газета выступала супраць афіцыйнай царскай палітыкі, накіраванай на раскол беларускага народа паводле веры (на "рускіх" і "палякаў"), выкрывала рэакцыйны характар расійскіх і польскіх шавіністычных арганізацый, якія з дапамогай праваслаўнай царквы і каталіцкага касцёла займаліся русіфікацыяй і апалячваннем беларусаў. "Наша Ніва" настойліва патрабавала ўвядзення ў школах і божых храмах беларускай мовы.

Роля "Нашай Нівы" ў беларускай гісторыі нагэтулькі вялікая, што пару беларускага Адраджэння пачатку XX стагоддзя называюць нашаніўскім перыядам. "Наша Ніва" выдавалася ў Вільні — тагачасным культурным і гістарычным сталіцы Беларусі. Рэдактарамі і выдаўцамі ў розныя часы былі С. Вольскі, А. Уласаў, Янка Купала, У. Знамяроўскі.

Гэтым, 5-м, выпускам завяршаецца рэалізацыя грандыёзнага праекта па ўзнаўленні першай беларускай штотыднёвай дэмакратычнай газеты. Перад тым пабачылі свет 1-ы (1906 — 1908), 2-і (1909), 3-і (1910) і 4-ы (1911) выпускі. Апошні выпуск змяшчае нумары газеты за 1912 — 1915 і 1920 гады. Адказны за падрыхтоўку ўсяго выдання — галоўны рэдактар выдавецтва "Тэхналогія" Зміцер Санько. Неўзабаве 5-ы выпуск "Нашай Нівы" паступіць у кнігарні.

Дарэчы, асноўныя кірункі дзейнасці выдавецтва "Тэхналогія", заснаванага ў 1988 годзе, — выданне навуковай, навукова-папулярнай, даведачнай літаратуры. Факсімальнае выданне газеты "Наша Ніва" — не адзіны шматтомны праект выдавецтва: ажыццяўляецца выпуск "Слоўніка мовы "Нашай Нівы"", збору твораў кампазітара М. Равенскага, даведніка "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь".

Уладзімір ПАДАЛЯК

## Арт-лінія

# Тры пакаленні тэатра




У Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры працуе выстава, прымеркаваная да юбілеяў знакамітых акцёраў Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага, — народнага артыста СССР Расціслава Янкоўскага, народнай артысткі Беларусі Вольгі Клебановіч і заслужанага артыста Беларусі Андрэя Душачкіна. Кожны фотаздымак, афіша, касцюм, узнагарода ёсць кавалачак лёсу і тэатра, і майстроў сцэны, адлюстраванне іх агульнай таленавітасці, велічнасці і разам з тым адрозненняў паміж пакаленнямі служыцеляў храму Мельпамены.

Расціслаў Янкоўскі, безумоўна, рыцар беларускага тэатра. Гледачы, напэўна, не раз заўважалі неверагодную мужнасць, абаяльнасць, арыстакратызм яго вобразаў у спектаклях "Макбет", "Вяртанне ў Хатынь", "Браты Маор", "Сунічная паляна" і многіх іншых. Класічныя, застылыя ў стагоддзях героі ў Янкоўскага робяцца надзвычай цікавымі, актуальнымі для сучаснікаў: такі своеасаблівы сінтэз традыцыйнага падмурку з сённяшнімі матывамі.

Унутраная мелодыя жанчыны, яе пяшчота і жорсткасць, слабасць і моц, — усё гэта ў характарах гераінь Вольгі Клебановіч. Дурнічка з аднайменнага спектакля, фурыя з "Дзядзечкавага сну", па-беларуску простая, патрыятычная Сцепаніда са "Знаку бяды"... Што тут дадаць? Жанчына ў выкананні Клебановіч (няхай сабе і выдуманая драматургам і рэжысёрам!), як атракцыён, вялікая прыгода, падарожжа па акіяне, — непрадказальная, небяспечная і прыцягальная...

Ужо нават дэбют Андрэя Душачкіна на сцэне ў п'есе "Вішнёвы сад" прадвызначыў далейшыя яго акцёрскія рысы — імправізацыю, эксперымент, незвычайнасць. Проста ўзяць ды скокнуць на стол і пачаць чытаць вершы (сцэна балю ў Раеўскай) да вялікага здзіўлення іншых артыстаў і незадаволенасці рэжысёра! Паверце, на гэта патрэбна вялікая смеласць, упэўненасць у сабе. Прага да эксперыментатарства, паказу ўнутранага свету чалавека з невядомага, патаемнага боку праявілася ў наступных спектаклях Душачкіна — "Дзядзечкаў сон", "Я веру ў гараскопы", "Бег"...

Сённяшні тэатр і мастацтва ўвогуле, як кажа галоўны рэжысёр тэатра імя Горкага Сяргей Кавальчык, нібыта прыцiснуты масавым гламурам, спажывецтвам. І таму, на думку рэжысёра, пакуль існуюць тэатры, такія шматгранныя майстры сцэны, як Янкоўскі, Клебановіч, Душачкін, адданыя, зацікаўленыя гледачы, высокая культура будзе існаваць і развівацца...

Кожны акцёрскі вобраз — гэта не толькі сукупнасць таленту артыста, яго мастацкіх якасцей. Гэта яшчэ і вопыт папярэднікаў. Як па спіралі: персанаж за персанажам, характар за характарам, сцэна за сцэнай. Толькі так можна збудаваць сапраўдны храм мастацтва — не разбураючы ніжніх, фундаментальных цаглін і ўкладваючы свае. І так пакаленне за пакаленнем...

Надзея ПЯКАРСКАЯ

На здымку: афіша да спектакля "Дзядзечкаў сон".

Фота аўтара

## Повязі

# Блізкі далёкі Азербайджан

Сёлета, у другі ўжо раз, азербайджанскія кнігавыдаўцы прыехалі ў Мінск на міжнародную выстаўку-кірмаш, каб прадставіць і сваю краіну, і апошнія паліграфічныя навінкі. І не пашкадавалі. Бо і ў мінулы раз, і цяпер да іх экспазіцыі без супынку падыходзілі наведвальнікі, цікавіліся кнігамі і буклетамі, задавалі шмат пытанняў, а тыя з азербайджанцаў, хто доўгі час жыве ў Беларусі, пасля сустрэчы з землякамі, быццам бы пабывалі на сваёй далёкай радзіме.

— Мы прывезлі сюды самыя розныя выданні: мастацкія творы, кнігі, прысвечаныя музыцы, мастацтву і такому рамяству, як выраб дываноў, дзіцячую, гістарычную і палітычную літаратуру, турыстычныя буклеты, — зазначыў саветнік аддзела кнігавыдання, арганізацыі рэкламы і інфармацыі Міністэрства культуры і турызму Азербайджанскай Рэспублікі Эльбек Алі.

Асобна суразмоўца выдзеліў такія выданні, як "Стары Баку" Чынгіза Гаджата. Яно выйшла на трох мовах: азербайджанскай, англійскай і рускай. Адзначыў, як вельмі годную, кнігу "Азербайджанскія музычныя інструменты", яна таксама ўбачыла свет на трох мовах. Тыя, хто цікавіцца старажытнай гісторыяй, думаю, не абышлі ўвагай твор "Наскальнае мастацтва". Хаця яшчэ не так шмат беларускіх турыстаў наведвае ў апошнія гады Азербайджан, хочацца верыць, што пасля знаёмства з адпаведным стэндам іх колькасць значна ўзрасце.

— Як у вашай краіне развіваецца кнігавыданне? — пацікавілася ў саветніка.

— У нас дзяржаўных выдавецтваў няшмат, у асноўным — прыватныя, — адказаў Эльбек Алі. — Але яны ахвотна прымаюць заказы ад дзяржаўных арганізацый.

Упершыню пасля распаду Савецкага Саюза прыехаў у Беларусь пісьменнік, дырэктар выдавецтва "Шырван-нешр" Гашам Ісабейлі. Ён шчыра прызнаўся, што ўражаны зменамі, якія адбыліся за гэты час у Мінску, і зацікаўлены ў супрацоўніцтве паміж азербайджанскімі і беларускімі кнігавыдаўцамі.

— Амаль дваццаць гадоў таму на беларускай мове выйшла кніга "Вышка над морам" — анталогія азербайджанскай літаратуры, — распавёў пісьменнік. — Ёсць задума паўтарыць гэты праект, зразумела, будуць ужо іншыя аўтары. Прыемна, што сувязі паміж дзвюма нашымі краінамі пашыраюцца і мацнеюць у многіх сферах.

Гашам Ісабейлі расказаў, што ёсць ужо дамоўленасць аб выданні яго кнігі "Джын" на беларускай мове. Да слова, на выставе быў прадстаўлены гэты зборнік, надрукаваны на англійскай мове.

Летась айчынныя кнігавыдаўцы ездзілі на І Бакінскую міжнародную выставу, дзе прадставілі вялікую экспазіцыю. Нашы кніжныя навінкі зацікавілі многіх аматараў слова. Як зазначылі азербайджанскія госці, праз год яны зноў плануюць ладзіць міжнародную выставу і чакаюць адмысловыя беларускія выданні ў шматнацыянальным Баку.

Раіса МАРЧУК



На здымку: Эльбек Алі і Гашам Ісабейлі.

Фота Уладзіміра Падаляка

## З-пад пяра

Падчас працы "круглага стала" "Электронная кніга — кніга дня сённяшняга і будучага" на XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы адбыўся шэраг узнагароджванняў.

За значны асабісты ўклад у развіццё нацыянальнага кнігавыдання, працу па прапагандзе айчыннай літаратуры, высокае прафесійнае майстэрства нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" ўзнагароджана Ліліяна Анцух, дырэктар выдавецтва "Чатыры чвэрці".

Дыпломам Міністэрства інфармацыі Беларусі за шматгадовае супрацоўніцтва і прапаганду беларускай кнігі адзначаны калектыў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Граматамі Саюза пісьменнікаў Беларусі за прапаганду беларускай літаратуры і плённую сумесную працу ўганараваныя лепшыя бібліятэкары Мінскай гарадской бібліятэкі імя Янкі Купалы.

За любоў да беларускай кнігі і актыўнае супрацоўніцтва з РВУ "Літаратура і Мастацтва" ўзнагароджаны граматамі і каштоўнымі прызамі Клімавіцкая, Смаргонская і Аршанская раённыя цэнтралізаваныя бібліятэчныя сістэмы.

Ірына ТУЛУПАВА

"Персідская казка" — экспазіцыя пад такой назвай працуе ў выставачнай зале Баранавіцкага краязнаўчага музея. Яе экспанаты, а іх каля 80, прадастаўлены Пасольствам Ісламскай Рэспублікі Іран у Рэспубліцы Беларусь. Шматлікія наведвальнікі маюць магчымасць азнаёміцца з культурай і звычаямі гэтага народа, з традыцыйнымі іранскімі рамёствамі: мастацкай мініяцюрай, ткацтвам дываноў, вырабамі з металу. Прынамсі, выключная прыгажосць і якасць персідскіх дываноў вядома ва ўсім свеце, таму яны і сталі галоўнымі экспанатамі выставы.

Вольга ЖЫГАР

75-годдзе з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава шырока адзначана ў Мар'інай Горцы. Традыцыя ўшаноўваць памяць выдатнага празаіка менавіта на Пухавіччыне зусім невыпадковая. Іван Гаўрылавіч часта прыязджаў у раён і горад, дапамог у свой час у стварэнні новай экспазіцыі раённага краязнаўчага музея ў вёсцы Блонь. Чыгрынаўскія дні ў ранейшыя гады праходзілі не толькі ў Мар'інай Горцы, але і ў іншых паселішчах Пухавіцкага раёна. Сярод традыцыйных удзельнікаў вечарыны, святочных імпрэз у гонар Івана Гаўрылавіча ў розныя гады былі пісьменнікі Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Скарынкін, Алесь Пісьмянкоў (на жаль, і яго ўжо няма сярод нас), старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, удава славутага празаіка Людміла Прохараўна.

Дар'я ШОЦІК

У Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры "Зубраня" нядаўна сабраліся юныя краязнаўцы. Сюды прыехалі актыўныя ўдзельнікі рэспубліканскай акцыі "Жыву ў Беларусі і тым ганаруся", дзеці, якія працуюць у школьных музеях, пераможцы алімпіяд па гісторыі. А сабрала іх змена, прадстаўленая этнакультурным праектам "Зямля бацькоў — мая зямля". Змена складалася з трох перыядаў. Першы, пад назвай "Крокі гісторыі", прысвячаўся этапу зараджэння гістарычных, этнічных, моўных, культурных асаблівасцей беларускага народа, другі — сучаснай Беларусі, трэці — будучыні нашай краіны. Дзеці вучыліся атрымліваць новыя веды ў даследаванні фальклору, этнаграфіі, музейнай справы, краязнаўства. Для гэтага праходзілі разнастайныя заняткі, майстар-класы, у госці запрашалі вядомых краязнаўцаў, супрацоўнікаў музеяў. У "Зубраняці" плённа працуе дзіцячы навучальна-экскурсійны цэнтр старажытнай побытавай культуры беларусаў "Хутар Неслуч". Завіталі ўдзельнікі змены і сюды. У час экскурсій пазнаёміліся з многімі помнікамі архітэктуры Нарачанскага краю.

Алесь ВЫСОЦКІ



# Шафа з рэдкімі аўтографамі

**Супрацоўнікі Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя А. Герцэна на працягу многіх гадоў збіралі аўтографы знаных беларускіх пісьменнікаў. Назапасіўся пэўны скарб, які вырашылі прадэманстраваць жыхарам ды гасцям горада. Так нарадзіўся музей рэдкага аўтографа, экспанаты якога ўжо выйшлі за межы толькі пісьменніцкіх падарункаў. Намеснік дырэктара Жанна Еўдачэнка распавяла пра незвычайную экспазіцыю.**

— Аўтографы мы збіраем на працягу 20-30 гадоў. А арганізаваць экспазіцыю нам дапамог старшыня Гомельскага абласнога савета дэпутатаў Валерый Сяліцкі, які падараваў саму ідэю музея рэдкага аўтографа.

— Жанна Мікалаеўна, але, калі збор вядзецца так доўга, то чаму ідэя ўвасобілася ў жыццё толькі ў кастрычніку 2009-га?

— Сама бібліятэка знаходзілася ў цяжкіх умовах. Надоўга зацягнуўся рамонт, які не даваў магчымасці разгарнуць падобную выставу. Рэканструкцыя вялася на працягу 6 гадоў. Зараз жа мы пераехалі ў новы будынак і ўжо тут маем выставачную залу. У гэтай зале ўстаноўлена спецыяльная шафа, якая зараз выкарыстоўваецца для паказу сабраных аўтографаў.

— А чые аўтографы вы ўжо маеце?

— З найбольш вядомых: В. Быкаў, П. Клімук, Л. Дранько-Майсюк, С. Алексіевіч, прычым не адна яе кніга…

—Значыць, вы ўжо выходзіце за межы аўтографаў толькі пісьменнікаў! А чые подпісы акрамя як ад стваральнікаў беларускай прозы і паэзіі назапашаны ў вашай скарбонцы?

— Цяпер мы развіваем ідэю збору аўтографаў спартсменаў. Прапануем пакінуць свой подпіс у бібліятэцы і ганаровым гараджанам, калекцыянерам, людзям, якія ўжо дасягнулі 100-гадовага ўзросту, мастакам, ветэранам. Прычым, плануем збор не проста аўтографаў, але і пажаданняў, своеасаблівых запаветаў будучым пакаленням ад тых, хто быў удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, нашым сучаснікам.

— Хто дапамагае ў пошуках аўтографаў?

— Энтузіястаў шмат. Так, Г. Лапацін ад імя Веткаўскага музея народнай творчасці падараваў некалькі публікацый серыі "Раскажу табе аб русалках". Таксама зусім нядаўна запрашалі наведаць бібліятэку замежных студэнтаў, якія ў нас вучацца. Яны расказалі пра традыцыі сваіх краін (Туркменістан, Кітай), прэзентавалі музею арыгінальнае палатно з іерогліфамі — пажаданнямі міру, дабрабыту. Дапамагае Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны, Гомельскі раённы выканаўчы камітэт. У гэтым годзе наш горад наведала дэлегацыя з Калінінграда. Яго губернатар падараваў гамяльчанам рэдкую энцыклапедыю.

— У кастрычніку 2009 года "ЛіМ" распачаў творчы праект "Кнігі з аўтографамі пісьменнікаў Беларусі — у бібліятэкі краіны". Мэта праекта — вызначыць пераможцаў паводле вынікаў падпіскі на газету і дапамагчы скарбніцам у камплектаванні...

— Так, мы добра гэта ведаем. Вельмі разлічваем на дапамогу "ЛіМа"! І імкнёмся выпісваць як мага больш асобнікаў вашага штотыднёвіка.

— А як чытаецца газета "ЛіМ" у вашай бібліятэцы?

— Чытаюць яе ў асноўным выкладчыкі ВНУ, навуковыя работнікі, бібліятэкары. Такая ж сітуацыя і з беларускамоўнай літаратурай. Папулярнасцю карыстаецца і класіка. Мне здаецца, тут вельмі важна добрая прапаганда, чытацкую аўдыторыю неабходна зацікавіць. І менавіта гэтую функцыю зможа выканаць створаны намі музей. Такім чынам мы разлічваем на ўвагу чытачоў!

Наталля НІКІЦІНА,
студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ

## Бібліямарафон

# Дары Года роднай зямлі

**У студзені у Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна адбыўся Дзень адчыненых дзвярэй "Нашы інфармацыйныя рэсурсы — Году якасці". Чытачы знаёміліся з літаратурай, набытай бібліятэкай у 2009 годзе. Навінкі лепшых выданняў 2009 года па розных галінах ведаў — эканоміцы, тэхніцы, прамысловасці, медыцыне, адукацыі — былі прадстаўлены ў выглядзе блокаў "Віртуальная бібліятэка", "Усё ведаюць энцыклапедыі і слоўнікі", "Дзіцячае чытанне — для сэрца і розуму", "У свеце мастацкай літаратуры: вечныя каштоўнасці ці модныя аўтары".**



Найбольш значным падарункам для магіляўчан летась стала набыццё 73-х рарытэтных кніг, прадстаўленых электроннымі копіямі выданняў XIX — XX стагоддзяў. Дзякуючы супрацоўніцтву Магілёўскай абласной бібліятэкі з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, жыхары Магілёўскай вобласці змогуць знаёміцца з рарытэтнымі выданнямі, сярод якіх 10 "Памятных книжек Могилевской губернии" розных гадоў, "Алфавитный список дворянских родов, внесенных в родословные дворянские книги Могилевской губернии", "Волости и важнейшие селения Могилевской губернии".

Мінулы Год роднай зямлі таксама быў пазначаны знакавымі праектамі. Запамінальнай аказалася прэзентацыя пад назвай "Энцыклапедыя жыцця Магілёўшчыны", прысвечаная перавыданню кнігі "Опыт описания Могилевской губернии…" ў 3-х тамах. Выданне было падрыхтавана Магілёўскім губернскім статыстычным камітэтам і надрукавана ў губернскай друкарні ў 1882 — 1884 гадах. Кніга даўно стала бібліяграфічнай рэдкасцю і некалькі асобнікаў, што захаваліся ў абласным краязнаўчым музеі і абласной бібліятэцы не маглі забяспечыць патрэбу жадаючых. Таму і адбылося перавыданне кнігі дзякуючы фінансавай падтрымцы Магілёўскага аблвыканкама.

У Год роднай зямлі прайшла і гістарычная гадзіна "Сімвал самакіравання", прысвечаная трохсоттрыццацігоддзю будаўніцтва Магілёўскай ратушы, і вечар-партрэт "Першы магілёўскі археограф і гісторык" — да 210-годдзя Мікалая Гартынскага.

Штогод аддзел беларускай літаратуры і краязнаўства выдае "Каляндар знамянальных і памятных дат па Магілёўскай вобласці", бібліяграфічны паказальнік "Новая літаратура аб Магілёўскай вобласці".

Ужо некалькі гадоў выдаецца серыя метадычных распрацовак "Магілёўшчына: з гісторыі краю і лёсу людзей". Яе выпускі былі прысвечаны творчасці паэтаў і пісьменнікаў краю — Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, І. Шклярэўскаму, І. Чыгрынаву, А. Куляшову. Выпуск 2009 года — "Мой край завецца Беларуссю" — прысвечаны земляку, паэту, заслужанаму работніку культуры БССР Аляксею Пысіну, 90-годдзе якога будзе адзначацца ў 2010 годзе.

Вольга ЧУМАКОВА,
намеснік дырэктара Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна



# Запамінальны юбілей

Напрыканцы мінулага года Навагрудская гарадская бібліятэка адзначыла свой 60-гадовы юбілей. На святочную праграму "Бібліятэка — радасці куток" завітала шмат гасцей. Вельмі яркай атрымалася цырымонія ўручэння прэмii "БібліяНіка" ў пяці намінацыях: "Легенда бібліятэкі", "Кампетэнтнасць бібліятэкі", "Надзея бібліятэкі", "Міс Чароўнасць" і "Міс энергічнасць". Усе бібліятэкары атрымалі прызы і падарункі за развіццё бібліятэчнай справы на Навагрудчыне.

Ларыса КАСЦЮК,
бібліятэкар Навагрудскай гарадской бібліятэкі

На здымку: падчас уручэння загадчыцы гарадской бібліятэкі Ганне Ільіной прывітальнага адраса ад аддзела культуры Навагрудскага райвыканкама.

# На мове падлеткаў

**Згадваецца пастаянная рыторыка ў СМІ пра каштоўнасць дзяцінства, абарону дзіцячых правоў і свабод, дапамогу дзяржавы ў іх самарэалізацыі. На справе далёка не заўсёды інтарэсы дзяцей і іх паўнацэннага развіцця становяцца галоўным у любым сегменце "дарослай" дзейнасці.**

Возьмем нашу, бібліятэчную, справу. Дастаткова прагледзець гадавыя статыстычныя звесткі гарадскіх і раённых бібліятэчных сістэм, каб пераканацца ў тым, што дзеці і падлеткі, якія складаюць большую частку чытачоў атрымліваюць менш новых кніг, чым дарослыя.

Дзецям павінна быць адрасавана якасная літаратура. У гэтым накірунку патрэбна асабліва прадуманая дзяржаўная палітыка і падтрымка ў галіне стварэння, выдання і папулярызацыі дзіцячай літаратуры. Апошнім часам сітуацыя з камплектаваннем беларускай дзіцячай і падлеткавай літаратурай стала мяняцца да лепшага. Адноўлена серыя "Школьная бібліятэка", выданне якой падтрымлівае дзяржава, значна пашырылася кола аўтараў, якія пішуць для дзяцей, стала больш рознабаковай і актуальнай тэматыка кніг. З'явіліся новыя цікавыя серыі ў выдавецтвах ("Пераходны ўзрост", "Казкі XXI стагоддзя", "Зямля мая" і інш). Аднак канкурыраваць з дзіцячай і асабліва падлеткавай літаратурай на рускай мове (у тым ліку і перакладной) яшчэ цяжка. Доля кніг на беларускай мове ў агульным аб'ёме паступленняў па нашым аддзеле абслугоўвання школьнікаў складае ў сярэднім 16 працэнтаў (па звестках за 2003 — 2008 гады). Выдача кніг на роднай мове складае каля 7 працэнтаў ад агульнай колькасці выдаваемай літаратуры.



Мы асабліва ўважліва ставімся да творчасці земляка Валерыя Гапеева. Ён адзін з нямногіх, хто піша на роднай мове для самай складанай узроставай катэгорыі чытачоў — школьнікаў старэйшых класаў. Па-другое, Валерый Гапееў — лаўрэат Брэсцкай абласной літаратурнай прэміі імя У.Калесніка ў намінацыі "Лепшы твор для дзяцей і падлеткаў" — за аповесць "Пастка на рыцара". З цікавасцю пазнаёміліся з двума новымі творамі аўтара, надрукаванымі ў часопісе "Маладосць".

Сучасным падлеткам неабходныя творы, якія адлюстроўваюць складаную рэчаіснасць, дзе галоўныя героі жывуць і дзейнічаюць у межах іх жыццёвага досведу. Невыпадкова яны не вельмі любяць выдатныя і захапляльныя (з пункта гледжання дарослых) класічныя творы, дзе героі жывуць у мінулыя вякі. Цяперашнія 14 — 16 гадовыя больш інфармаваныя і вопытныя, таму прачытанае яны абавязкова суадносяць з убачаным і пачутым праз іншыя каналы (Інтэрнэт, тэлебачанне, асобаснае ўспрыманне). В. Гапееў спрабуе з імі гаварыць на іх мове пра важныя рэчы. Пытанні, якія ён ўзнімае ("што такое сапраўдны аўтарытэт", "як зрабіць моладзевыя аб'яднанні жыццястойкімі?", "прыстасавальніцтва і дыпламатычнасць: дзе мяжа?") выклікаюць у падлеткаў мноства літаратурных ілюзій. На агульным праблемным жыццёвым фоне (алкагалізм, галеча і хваробы ў сучаснай сям'і; жорсткасць і зайздрасць, дабро і зло) упэўнена праглядваецца аўтарская думка пра тое, што цяжкасці, з якімі сутыкаюцца дзеці ў падлеткавым узросце, маюць агульначалавечы характар і амаль заўсёды нясуць у сабе момант выбару. Ад правільнасці гэтага выбару шмат што будзе залежаць у будучым жыцці.

Ларыса ВЕРАМЧУК,
загадчык аддзела абслугоўвання школьнікаў Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага

На здымку: у інфармацыйна-бібліятэчным аддзеле.

Фота Кастуся Дробава

# «Страсці» на Чэрвеньшчыне

Адбылася нарада бібліятэкараў Чэрвеньшчыны. Яе вядучая — загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынгу Галіна Ніціеўская распачала сустрэчу за "круглым сталом" аглядам часопісаў "Полымя", "Маладосць", газеты "ЛіМ", падзялілася ўражаннем ад прачытанага ў "ЛіМе" апавядання Віктара Супрунчука "Вясковае каханне".

Бібліятэкар Лядзенскай сельскай бібліятэкі Святлана Клепча прадставіла твор таго ж аўтара "Апошняя электрычка", надрукаваны ў зборніку В. Супрунчука "Страсці" яшчэ ў 1983 годзе. Пераказ апавядання выклікаў у многіх слёзы на вачах.

А як цудоўна распавяла пра творчасць Алены Васілевіч Вольга Манюшка! Тэтралогія "Пачакай, затрымайся" — любімая ў чытачоў Шасцінопскай сельскай бібліятэкі.

У Смілавіцкай гарпасялковай бібліятэцы, як паведаміла яе загадчыца Таццяна Фесенка, зачытваюцца кнігамі Васіля Быкава. Нават для школьнікаў не хапае асобнікаў праграмнага твора "Знак бяды".

У спецыялізаванай бібліятэцы для інвалідаў па зроку, у якой працуе Таісія Варанько, любяць агучаныя раманы Івана Шамякіна "Вазьму твой боль", "Трывожнае шчасце", "Сэрца на далоні". Лепшыя творы класікаў беларускай літаратуры, запісаныя на CD-дыскі досыць запатрабаваныя.

З зачараваннем слухалі пераказ сямейнай драмы Валерыя Гапеева "Развітальная вячэра", надрукаванай у "Полымі, у выкананні Надзеі Таболінай. І бывае ж такое ў жыцці!

На сустрэчы гучалі вершы Рыгора Барадуліна, Яўгеніі Янішчыц, Еўдакіі Лось, ад якіх было так хораша на душы!

Людміла ВОЙЦІК,
дырэктар Чэрвеньскай ЦБС

Ён успамінаецца мне не за сваім сталом, што і сёння стаіць у ягоным кабінеце, амаль гэтак жа загрувашчаны рукапісамі, з пыльным календаром невядома якога года на падстаўцы. І не ў апошнія два з паловай гады, гады хваробы, ужо маўкліва адчужаны, абыякавы да кніжак і рукапісаў, таго, што заўсёды было сэнсам яго жыцця, — як быццам ужо перайшоў тую мяжу, за якую жывым не зазірнуць. Ніколі не падсоўвае памяць аніякіх фрагментаў з выступленняў на юбілеях, тэлебачанні, навуковых кангрэсах, хаця лекцыі Навуменкі і дагэтуль успамінаюць бацькавы вучні, зараз ужо, праўда, таксама пенсіянеры.

# Сосны пры дарозе

Амаль заўсёды, як нахлыне ўспамін, мне бачыцца затулены куток лагойскага лесу, куды на блакітным "Масквічы", а пазней – на непаваротлівай "Волзе" прадзіраецца было трэба кіламетраў дзесяць па былой перадваеннай вузкакалейцы, нерэальнага памеру калюжынах, праз жабрацкія, чорныя, на сем-восем хат, лясныя вёсачкі. У глыбіні бору, узбоч парослай травой ляснай дарогі, стаяла чарада соснаў, гонкіх, медностволых, у два абхваты, яны выразна кантраставалі з навакольнымі, відавочна больш маладымі і сціплымі. Сякера леспрамгасаўцаў калісьці пашкадавала іх, — хто ведае чаму? — і кожнае лясное вандраванне для трох самых апантаных грыбнікоў беларускай літаратуры — Мележа, Лойкі і Навуменкі (часам прыхопліваліся суседзі па трыццаць шостым доме — Скрыган і Брыль) — заўсёды заканчвалася там. Пад "трыма соснамі" — так між сабой называлі яны гэты куток, — сцялілася покрыўка, наразалася сала і чорны хлеб, клаліся абавязковыя атрыбуты любога падарожжа савецкай эпохі, вараныя яйкі і соль, ставілася бутэлька, і пакуль прыцемак не зацягваў перадвосеньскі лес шэрым змрокам, безнадзейна было прасіць іх падняцца.

Шкада, што па тагачаснай маладой сваёй легкадумнасці я амаль не ўслухоўваўся ў тыя гаворкі на покрыўцы, і помню хіба некаторыя каларытныя, трапныя эпізоды, гісторыі, характарыстыкі. А можа, і не шкада. То быў іх час, іх літаратура, іх жыццё, не сённяшняе; гаворка пад соснамі, пры вёдрах баравікоў, што стаялі ў нагах, — не стэнаграма, як аргумент у нейкай літаратурнай спрэчцы скарыстоўвацца не павінна, ацэнкі, выказаныя дваццаць-трыццаць гадоў таму, могуць кагосьці і пакрыўдзіць, падацца несправядлівымі, а можа, і памылковымі, бо ўсё ж усе вышэйзгаданыя грыбнікі былі людзьмі свайго часу, разам з гэтым часам мяняліся, мяняліся і размовы... Але было ў іх тое, што, мусіць, і прымушае зноў і зноў успамінаць лагойскі лес, адзнака не эпохі, не часу, а менавіта пісьменніцкага пакалення — пэўная шляхетнасць, годнасць, далікатнасць у агульным тоне, стылістыцы гаворкі, у жэстах, у саміх постацях, у тым нават, як адзін аднаму налівалі чарку і фармулявалі мэту гэтага налівання. Важкасць і грунтоўнасць слова, нават і з'едлівага, што вынікала з важкасці і грунтоўнасці біяграфіі. Адным словам, тое, чаго ў сённяшнім дні — і ў літаратуры — трэба шукаць доўга, але можна так і не знайсці.

Нашы сумесныя грыбныя вандраванні пачаліся, калі мне было гадоў пяць, адмахвалі мы па лясах кіламетраў па пятнаццаць, — ён не шкадаваў мяне ніколі, хады не прыцішваў, і была ў гэтым нейкая свядомая бацькоўская праграма; а калі вярталіся ў дачны дамок на Лысай гары, дзе я адразу кідаўся на ложак, не чуючы ног, смяяўся, расказваючы маці: "Палову дарогі задаваў пытанні, другую маўчаў... Але ж ішоў." Лес і баравікі ды яшчэ апантанае кніжніцтва былі ягоным пажыццёвым шаленствам, з бацькавым кнігазборам магла спаборнічаць мала якая прыватная (а тое і дзяржаўная) бібліятэка Беларусі, з Барысам Сачанкам, яшчэ адным фанатычным кніжнікам, яны навыперадкі шасталі па букіністычных крамах, шакаладкамі вербавалі і перавярбоўвалі прадаўшчыц — "набяры мой нумар, калі будзе што вартае, а то гэны гіцаль наскочыць..." Мецц у сваёй бібліятэцы першадрук, жывую кнігу — о, ён ведаў, як гэта важна, што гэта за пачуццё — зняць з паліцы шэры томік "Шляхам жыцця" 1913 года выдання, выцвілую да бясколернасці "Новую зямлю" альбо разгарнуць "мармуровую" (цяпер так не ўмеюць) вокладку якіх-небудзь "Очерков истории Виленской губернии" 1852 года... А яшчэ — са шматлікіх замежных паездак цішком прывозіліся "Працы старшыні Мао" і югаслаўскі дысідэнт Мілаван Джылас, "Доктар Жывага" па-нямецку і шырока вядомая ў заходнім свеце "Soviet people" — па-нямецку ён чытаў і гаварыў свабодна (акупацыя, партызанка і служба ў разведроце і амаль год пасля вайны ў Нямеччыне, памножаныя на залаты медаль і школу, скончаную за дзевяць гадоў замест дзесяці), па-французску і англійску — прыстойна, а польская за замежную дык і не ішла, а выдавалі палякі ў тыя часы такое, што беларускаму савецкаму чытачу і прымроіцца не магло.


На здымку: Іван Навуменка з сынам Паўлам. 1987 год.

Але было ў іх тое, што, мусіць, і прымушае зноў і зноў успамінаць лагойскі лес, адзнака не эпохі, не часу, а менавіта пісьменніцкага пакалення — пэўная шляхетнасць, годнасць, далікатнасць у агульным тоне, стылістыцы гаворкі, у жэстах, у саміх постацях, у тым нават, як адзін аднаму налівалі чарку і фармулявалі мэту гэтага налівання.

А яшчэ ён любіў прагуляцца ўздоўж Свіслачы, тады густа парослай па берагах чаротам і асакой, уздоўж Чэрвеньскага тракта, праз блытаніну вулачак і рознакаляровых дамкоў, крытых толем, з вішаннікам, градамі ў гародах, парсючкамі і курамі, пад самую Сакалянку, дзе у такім жа дамку, пад пільным вокам і ладным дубцом ягонай хітраватай шляхцянкі-цешчы, бавілі сваё лета мы, трое ягоных замурзаных, з абдзёртымі каленямі дзяцей. Яны надзіва нешматслоўна-добра ладзілі, "Якаўлевіч" і "Феліксаўна", галоўны цешчын прынцып выхавання дзіцяці, каторы яна, як шляхцянка, заўсёды фармулявала па-польску — "чэго хцэ, тэго не даць", ён не аспрэчваў, магчыма, унутрана пагаджаўся, бо і сам прайшоў прыблізна тую ж школу выхавання, хай сабе не у шляхцянскай сям'і, а ў сям'і пуцявога абходчыка. Старасвецкія ігрушы, вішаннік, парэчкі, заклапочаная балбатня курэй у сарака хвілінах хады ад галоўнага праспекта — увесь гэты чыста беларускі, пярэсты сінтэз ( хто паспеў пабачыць, той ведае, пра што гаворка) пэўна, нагадваў яму роднае мястэчка, менавіта мястэчка, не вёску. Ягоныя Васілевічы. Васілевічы, якія жылі ў бацькавай душы, але якіх ужо не было.

Ён наязджаў у Васілевічы рэдка, пасля смерці бацькі — зусім рэдка, падгадваў, каб з маладзейшым братам, чыгуначнікам. Яшчэ радзей заставаўся на ноч у бацькавай хаце, а на раніцу збіраўся, як быццам гнала яго адтуль нейкая чорная думка. Пасля таго, як маці перабралася ў Брэст, да самага малодшага, — дык і ніколі. Хіба праездам з якога Мазыра, дзе бываў па дзяжурна-савецкіх справах.

Але раннія яго апавяданні, самыя рамантычныя, самыя летуценныя, як і першыя раманы — гэта, безумоўна, "васілевіцкі" перыяд творчасці. Першае каханне. Дзіўныя дзявочыя імёны, малазразумелая сёння мода на экзотыку, якая, пэўна, так мала гарманіравала з воблікам перадваенных Васілевіч — усе гэтыя Сюзанны з босымі парэпанымі нагамі... Хлопцы ў даматканых штанах, што старанна вучаць нямецкую мову, матэматыку, адчайна чытаюць Гамсуна, бачаць сябе ва універсітэтах, інстытутах, вайсковых вучылішчах...

З бацькавага выпускнога класа іх, здаецца, ацалела чацвёра — Мікола Белы з адарванай рукой, Іван Доўжык, бацькаў сябра, што пасля вайны рабіў лесніком і добра налягаў на чарку, Базыль Васенда, што з'ехаў на працу ў Германію, а пасля вайны бясконца, дзесяцігоддзямі, пісаў лісты на рознае раённае начальства, дамагаючыся нейкай толькі яму зразумелай праўды. І бацька. Аналогіі з Рэмаркам, Олдынгтанам, Барбюсам, Хемінгуэем, прадстаўнікамі "страчанага пакалення", што сустракаюцца ў працах беларускіх літаратуразнаўцаў, мне здаецца, недарэчныя. У нас гэта не страчанае, а забітае пакаленне. У адно з нашых лясных вандраванняў бацька расказваў мне, што ўвосень 1943 года (Гомельшчыну вызвалілі ад немцаў раней за ўсе часткі Беларусі) іх, учарашніх партызанаў, пасля ўрачыстага мітынгу нават не пераабмундзіраваўшы, у ватоўках, кажухах, перашытых нямецкіх мундзірах, войлачных бурках і лапцях, кінулі паперадзе рэгулярнага войска штурмаваць нямецкія высоты дзесьці пад Парычамі. Добра, калі выжыў кожны дзесяты. На маё неразуменне — навошта? — ён глуха і неахвотна адказаў: " Пад акупацыяй былі. Непатрэбныя. А так — меней праблем..."

Ён заўсёды падкрэслена заставаўся ў баку ад тых чынадральскіх гульняў, якіх у тагачасным Саюзе пісьменнікаў хапала, і Акадэмія навук, Інстытут літаратуры былі, відаць, больш прыстойным светам, адухоўленым навуковым пошукам, ён відавочна больш хіліўся да навуковага жыцця, чым да барацьбы за сакратарскія партфелі ў Саюзе пісьменнікаў. Як яшчэ раней — да універсітэцкага.

Жыццё хуткаплыннае — гэтую банальную ісціну кожнае пакаленне мусіць адкрываць нанова. Даўно ўжо не сцелецца покрыўка пад тымі соснамі — няма каму, ды і я ўжо даўно не той хлапчук, што сядзеў на яе краі. Новыя постаці, новая эстэтыка, новыя рытмы. Але міжволі параўноўваючы ўчарашняе і сённяшняе, мусіш адзначыць — было нешта такое у тым пісьменніцкім пакаленні, што дазволіла ім пакінуць непараўнальна больш, чым пакінем мы. Ва ўсім. У жыцці, у літаратуры і ў памяці.

А тыя сосны пры ляснай дарозе стаяць. Заязджаў сёлета — павітацца.

Павел НАВУМЕНКА

Фота з сямейнага архіва


На здымку: Іван Навуменка ў Коласаўскіх мясцінах.

З рэдакцыйнай пошты

## Далёкі бераг жыцця

У пачатку студзеня наваполацкаму пісьменніку і паэту Міхасю Барэйшу споўнілася б 60 гадоў. Ён жыў, вучыўся, працаваў у гэтым горадзе. Таму і нам, навапалачанам, блізкія пачуцці, пра якія пісала яго калега, журналістка Вольга Гавяйновіч: "...асаблівая горка, што на самым узлёце абарваўся жыццёвы шлях гэтага таленавітага, спагадлівага, добрага і прыгожага чалавека". Здарылася гэта ў жніўні 1990 года.

А нарадзіўся Міхась Барэйша ў вёсцы Новы Лад на Верхнядзвіншчыне. Вучыўся ў Дзёрнавіцкай васьмігодцы, потым у Наваполацкім нафтавым тэхнікуме, а пасля яго заканчэння працаваў у вытворчым аб'яднанні "ПаліМір". І пісаў. Спачатку вершы, пасля — прозу. Быў актыўным удзельнікам клуба творчай моладзі Наваполацка "Маладзік" (кіраваў ім — Навум Гальпяровіч), наваполацкага літаратурнага аб'яднання "Крыніцы". Калі прыйшоў на працу ў газету "Сцяг камунізму" (цяпер — "Полацкі веснік") пасля заканчэння факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, узначаліў літаратурнае аб'яднанне "Наддзвінне", якое шмат гадоў працавала пры газеце. Быў добразычлівым, але строгім рэцэнзентам.

Друкаваўся пачаў у 1973 годзе спачатку па старонках газеты "Страж Балтики" (на Балтыцы ён праходзіў вайсковую службу), потым у наваполацкай газеце "Химик" (1979). У рэспубліканскім друку дэбютаваў апавяданнямі "І тады зразумееш...", "Пасля юнацтва, увосень", "Антонаўкі" ("Маладосць", 1980, № 11) і стаў лаўрэатам прэміі гэтага выдання за 1980 год.

Апавяданні пісьменніка публікаваліся таксама на старонках перыядычных выданняў, у калектыўных зборніках "Сустрэча", "Там, дзе вежы Сафіі", "Дзвіна" і інш.

А ў 1988 годзе выйшла адзіная кніга прозы Міхася Барэйшы "Крыніца, чыстая вадзіца". Тады ж ён быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР. Яго творы кранаюць лірызмам, асаблівай чысцінёй і чалавечнасцю. Самае моцнае ўражанне на чытача аказвае апавяданне "Памяць", якім адкрываецца кніга. Гэты твор быў уключаны ў анталогію "Апавяданні пра Вялікую Айчынную". Міхась Барэйша быў з таго пакалення пісьменнікаў, якія не бачылі вайну, ведалі пра яе па аповедах відавочцаў, кнігах, дакументальных сведчаннях. Але рэха яе гучыць у многіх яго творах, нават у самых мірных. Цесна пераплёліся падзеі ваенных гадоў і сучаснасці ў апавяданні "Жыві светла". У час вайны чалавек зрабіў подлы ўчынак за які ўжо некалькі дзесяцігоддзяў яго мучыць сумленне. І вось ён адшукаў таго, каго пакрыўдзіў, і едзе на сустрэчу з ім…

У кнізе семнаццаць апавяданняў, семнаццаць людскіх лёсаў: шчаслівых і нешчаслівых, светлых і не зусім. І ў кожным з іх пісьменнік закранае чытача цікім даверлівым голасам апавядальніка альбо запамінальнай мастацкай дэталлю. Жанры, у якіх выступаў пісьменнік, вельмі разнастайныя. Яму належаць гумарэскі, нарысы, эсэ. Кранаюць таксама яго шчырыя, пранізлівыя і высокамаральныя вершы.

Цяжкая хвароба не дала доўга квітнець таленту. Міхась Уладзіміравіч Барэйша заўчасна пайшоў з жыцця. А з намі застаўся яго творчы набытак. На памяць, як успамін, як запавет, якія ён пакінуў у кнізе "Крыніца, чыстая вадзіца": "Жывіце светла!"

Валянціна СОПІКАВА
г. Наваполацк

## Зваротная сувязь

Напрыканцы мінулага года "ЛіМ" прэзентаваў рубрыку "Абмеркаванне", мэтай якой з'явілася адлюстраванне некалькіх поглядаў на адзін літаратурны твор. "Прадметам" двух першых абмеркаванняў сталі аповесць Валерыя Гапеева "Першы боль, альбо Доказ законаў прыгажосці" і акварэльныя малюнкі Уладзіміра Сцяпана "Дзед".

У абмеркаванні бралі ўдзел Л. Алейнік, Ц. Чарнякевіч, Ж. Капуста, А. Паплаўскі, І. Шаўлякова, С. Грышкевіч, А. Грыбоўскі.

Распачынаючы рубрыку, мы палічылі неабходным даць магчымасць выказацца і самім аўтарам "паддоследных" твораў, таму звярнуліся да іх з прапановай выказаць згоду ці нязгоду з ацэнкамі крытыкаў і проста патлумачыць асабістую творчую пазіцыю... Пісьменнікі адгукнуліся...

Л. А.

# Застацца ў літаратуры? Там цесна і без мяне...



Па-першае, дзякуй хачу сказаць. І тут — без жадання прытрымацца фармальнай ветлівасці. Насамрэч — дзякуй. Дзякуй крытыкам, дзякуй "ЛіМу" за ідэю — такі "ўрок" многаму вучыць.

Другое... Якімі б пераканаўчымі ні былі заўвагі крытыкаў, што "такіх дзяцей няма", я буду ўсміхацца ў адказ. Дзеці розныя! Не сфарміраваны яшчэ ўнутраны свет, адсутнасць таго самага стрыжня жыццёвага вопыту робяць іх падобнымі на ваду, якая прымае форму сасуда. Іх вонкавы свет — люстэрка традыцый, навязаных правілаў, існуючых нормаў асяродку ўвогуле.

Жанна Капуста мае рацыю, выказаўшы меркаванне, што аўтар удзельнічае ў дыялогах маладых недзе на форумах. На адным з форумаў я вучыўся ствараць сайтаў, працы ў Сетцы, дызайну ды іншаму. Трэба сказаць, што атмасфера на форуме была вельмі інтэлігентная, дзякуючы адміну — 25-гадовай жанчыне. То і размовы былі шчырыя. Свайго ўзросту я не хаваў, але: "У Інтэрнеце ўзросту няма!". Мяне вучылі азам работы ў Сеціве ...15-гадовыя падлеткі. І ўжо пазней, калі мы пасябравалі, калі мяне "прынялі за свайго", мая асабістая пошта была штодзень з лістом: у мяне не столькі прасілі парадаў па розных жыццёвых пытаннях, колькі шукалі чалавека, які выслухае і не стане насміхацца, не адмахнецца, не прадасць, адкажа суперажываннем. І сення я ўдзельнік некалькіх форумаў, дзе не зважаюць на ўзрост, дзе школьнік, што зарабляе 1 долар за напісанне 3000 знакаў тэксту, мае права на голас і думку побач з паспяховым бізнесменам 50-і гадоў, які мае сваю фірму і наймае на працу такіх школьнікаў. Я і сёння чытаю форумы, чытаю ЖЖ маладых (тут, праўда, больш фальшу).

Трэцяе... Свет вакол падлеткаў. Выбачайце, але заўвагі крытыкаў — тое заўвагі дарослых людзей, якія бачаць, могуць характарызаваць, асэнсоўваць гэты свет. Для падлетка навакольны свет — дадзеная канстанта. І спроба аналізу свету з'яўляецца куды пазней, з жыццёвым вопытам. Патрабаваць ад падлеткаў дарослага ўспрымання рэчаіснасці, паглыбленага асэнсавання з элементамі філасофіі, мне падаецца занадта. Даросласць падлеткаў — гэта голыя веды без практыкі (Юрый). Ён ніколькі не дарослы, ён проста начытаны хлопец, які на кожны выпадак можа даць гатовую цытату — і лічыць гэта за веданне жыцця.

Што тычыцца "лёгкасці і фантастычнасці" тых зменаў, якія адбыліся з Кацярынай — так мне захацелася. Вядома, мая віна ў тым, што не заўважылі крытыкі таго страху Кацярыны перад гэтымі зменамі: з Папялушкі — у царэўны. І што ўсё — без яе ўдзелу. Такая была задума, каб малейшым быў боль ад расчаравання, каб раптоўна быў перарваны шэраг "вязення", каб было яшчэ больш зразумела, што і гора, і радасць у многім ад нас не залежаць.

Мне шкада адного: "Доказ законаў прыгажосці", "Урок бяспечнага сексу", "Лёшкава каханне" (засталася амаль незаўважанай) — гэта аповесці адной кнігі, ці, скажу так, часткі адной аповесці. Таму некаму Юрыс падаўся ценем — а ён дзейнічае як галоўны герой у другой аповесці (яе неяк і не заўважылі). Героем чацвёртай аповесці становіцца мой маўклівы Сяргей, пятай – паэт Віктар. І тое самае сутыкненне з дарослым жыццём адбываецца менавіта ў двух аповесцях... Формай кнігі абумоўлена і слабасць (па канстатацыі Жанны Капусты) "Урока бяспечнага сексу" ў плане адсутнасці яркіх вобразаў, запамінальных герояў.

Мо і дарэмна так адкрыта пісаць (абвінавацяць у пыхлівасці), але скажу: я пішу для таго, каб дзеці чыталі на беларускай мове. Так, я згаджаюся з тымі, хто лічыць, што кніга — тавар. (Наш шаноўны Адам Глобус крывіцца пры гэтым (ці толькі прыкідваецца), хоць сам займаўся вытворчасцю такога тавару). Я лічу кнігу таварам. І таму імкнуся ў першую чаргу пісаць для таго, хто яе будзе чытаць. Так пісалася першая кніга, так пісалася першая аповесць для падлеткаў — я ведаў, што першымі чытачамі яе будуць мой 16-гадовы сын і яго стрыечная сястра-аднагодка. Так пісалася "Ведзьміна тоня" – для 13—15-гадовых падлеткаў, якую ўхваліла Лада Алейнік у "Полымі", па якой у ліцэі г. Івацэвічы навучэнцы ладзілі цэлую канферэнцыю на 2 гадзіны, і якая не стала асобнай кнігай.

Не стаўлю сабе задач сваімі творамі некага павучаць, некаму адкрываць вочы, пераварочваць мысленне і мяняць свет, не ўпікаю настаўнікаў і бацькоў — яшчэ раз паўтару: аповесці пішуцца толькі дзеля таго, каб дзеці чыталі на беларускай мове нешта яшчэ, акрамя праграмных твораў. Вось такая дурная для нашага прагматычнага свету ідэя-фікс. І таму не хачу 300 асобнікаў кнігі за свае ці спонсарскія грошы. Хачу бачыць свае творы ў бібліятэках.

Вось адзін з каментарыяў на маім сайце:

"Вялікі дзякуй за вашу аповесць! Чыталі разам з вучнямі 11-х класаў. Дзеці не хацелі дамоў разыходзіцца, не дачытаўшы. Пасля доўга абмяркоўвалі. Ніхто не застаўся абыякавым. Было чутно: "Аказваецца, і ў беларускай літаратуры ёсць цікавыя творы. Не толькі пра вайну ды пра вёску". Многія падыходзілі, прасілі параіць, што яшчэ можна пачытаць накшталт вашага. Ужо 15 год працую настаўніцай, аднак такую цікавасць убачыла ўпершыню. Дзякуй!"

(http://gapeev.info/?category=usjo_cudouna&altname=usjo_cudouna_abo_urok_byaspechnaga_seksu_3)

Пакідаю гэты каментар без каментарыяў. Адно прашу не лічыць, што выклаў яго дзеля самапіяру. Звярніце ўвагу на рэакцыю школьнікаў...

Разумею і другое: пісаць у такім ключы, з такой мэтай, "рабіць тавар" — гэта значыць зачыніць сабе дарогу да кагорты "сапраўдных пісьменнікаў", значыць — быць аўтарам, але не быць мастаком. І Ціхан Чарнякевіч мае рацыю, калі піша пра бублікі і нулявую вартасць твора для ўласна беларускай літаратуры.

Разумею, на што ішоў, пачынаючы пісаць для старшакласнікаў. На такую аповесць кожны эксперт: настаўнік, бацька, просты дарослы. Бо кожны мае свой погляд на маладых, у кожнага — свой вопыт.

Разумею: у такую маю мэту — пісаць дзеля таго, каб дзеці чыталі, — вельмі цяжка паверыць. Але што яшчэ можа даць мне мая пісаніна, акрамя водгуку чытача? Грошы? Дык, як трапна заўважыў Уладзімір Сцяпан, беларуская літаратура і грошы — рэчы ўзаемна недатыкальныя. Слава? Дзякуй, за 10 гадоў у раёнцы мне яе хапіла. Узнагарод? Хапае і тых, што ёсць. Самарэалізацыя? Дык не без гэтага. Застацца ў літаратуры? Не, ужо сказаў: аўтары, якія "робяць тавар", у літаратуры не застаюцца.

Мяне хвалюе наша родная мова, тое становішча, у якое яна патрапіла. Мяне хвалюе, што выдатныя і добрыя кнігі беларускіх аўтараў выходзяць мізэрнымі тыражамі і часта застаюцца прычытанымі адно сябрамі аўтараў ды асобнымі крытыкамі і літаратуразнаўцамі. Калі мне паверыць, тады ніколькі не будзе дзіўным маё жаданне пісаць для падлеткаў. Бо для дзіцячага ўзросту літаратура добрая і якасная трохі ёсць, а для падлеткаў... І адбываецца тое, што адбываецца: вакуум на працягу некалькіх гадоў, творы школьнай праграмы, скіраваныя ў мінулае ("вёска ды вайна"), якія насамрэч выклікаюць у многіх устойлівую антыпатыю да роднай мовы і літаратуры. Амаль 40 гадоў прайшло — і я чытаў "Насцечку" Кузьмы Чорнага, "Сяброў" Алены Васілевіч, і дачка мая цяпер чытае. Дык мне тады хоць менш тлумачыць трэба было. А колькі такіх твораў... То хіба дзіўна, што "на выхадзе" маем мы выпускніка, якому найчасцей позна казаць пра нешта роднае?

Ат, хопіць. З другога боку — навошта мне брахаць? Дакладна ведаю свае здольнасці і магчымасці і таму кажу смела, што буду далей "рабіць тавар" — пісаць канкрэтныя рэчы для канкрэтных людзей. Для падлеткаў. Хто са мной?

Валерый ГАПЕЕЎ

# Адкрыты ўрок



Узаемаадносіны пісьменніка і крытыка змяніліся.

Але літаратура засталася. І крытыка засталася.

Раней крытыка моцна ўплывала на літаратуру. Вось Мікалай Гогаль наслухаўся неўтаймаванага Вісарыёна Бялінскага і спаліў другі том "Мёртвых душ"...

Потым з дапамогай крытыкаў пісьменнікаў расстрэльвалі, адпраўлялі за краты... Вось тады была "сапраўдная" крытыка. Вось тады яна "ўплывала" на літаратуру.

Але пісьменнікі пісаць не перасталі. Баяліся, але пісалі. Цяпер да крытыкаў іншае стаўленне. Па вялікім рахунку на крытыку сур'ёзнай увагі не звяртаюць. Як і няма яе. Пісьменнікі пішуць творы, крытыкі пішуць тэксты пра тыя творы. Складаюць спісы, спрабуюць убудоўваць аўтараў у вядомыя схемы...

...Ноч. За вокнамі плыве праспект. Легкавікі і апошнія аўтобусы развозяць людзей па дамах. Раней праспект быў Сталінскім, потым Ленінскім, зусім нядоўга праспектам Францішка Скарыны. Сёння ён — праспект Незалежнасці.

Ноч... А я не сплю, як нармальныя людзі, а сяджу за камп'ютэрам і цiскаю на чорныя кнопачкі. Спрабую адказаць літаратурным крытыкам.

Калі праект называецца "Адкрыты ўрок", то я, відавочна — вучань-ахвяра. Ці настаўнік, да якога на ўрок прыйшлі крытыкі? Яны цярпліва прачыталі мой твор-тэкст "Дзед" і пісьмова выказаліся...

Калі б гэта было гадоў трыццаць пяць таму, то магчыма, словы крытыкаў паўплывалі б на мой далейшы лёс. Магчыма, што я прачытаў бы ўважліва ўсе чатыры тэксты, панавыпісваў цытат, паназнаходзіў лагічных супярэчнасцей, недакладнасцей. А потым кінуўся спрачацца і адстойваць свае погляды на літаратуру, на мастацтва, пачаў бы бараніць свой твор. Памятаю, як спрачаўся ў тэатральна-мастацкім інстытуце з выкладчыкамі-прафесарамі і мастацтвазнаўцамі. Нават і тады я свае погляды не мяняў. Хоць за словамі прафесараў стаялі хрэстаматыйныя карціны, персанальныя выстаўкі, званні... І самы важкі аргумент – мая стыпендыя...

А вось каб гэта было таму гадоў восемдзесят, то мог бы і спалохацца моцна за сваё жыццё. Магчыма, пачаў бы хуценька пісаць ліст самаму галоўнаму сакратару, і даводзіць, што я сумленны і адданы партыі і радзіме літаратар. Што і самай цёмнай ноччу веру ў светлую будучыню. Што мяне не так зразумеў літаратурны крытык тавараш Грышкевіч, што я хацеў усім сэрцам, кожнай літарай і словам засведчыць сваю вернасць і адданасць... Стварыць вобраз празрысты і светлы... Можа, сказаў бы, як апошні аргумент у сваё апраўданне, што я не сапраўдны пісьменнік, а ўсяго толькі мастак. Што я не – інжынер чалавечых душ, а звычайны сціплы акварэліст. І ні на што не "прэтэндую". Ну, ведаеце, якія тады лісты пісалі, пасля "адкрытых урокаў", і можна здагадацца, што казалі потым на "закрытых пасяджэннях" таварышы крытыкі і беларускія пісьменнікі.

А цяпер на дварэ — іншы час. І пішу я не на паперы, не на друкарскай машынцы пад капірку ляскаю, а на камп'ютэры, які злучаны Інтэрнетам з усім светам. Кожная набраная двума пальцамі фраза можа імгненна паляцець у віртуальную прастору. І праз пару хвілін прыляціць водгук з іншага кантынента. Час змяніўся, і пісьменнік змяніўся. Яго амаль немагчыма спыніць і стрымаць. Сёння — колькі б ні пісалі літаратурныя крытыкі — кепская ці станоўчая — яны будуць адно ліць ваду толькі на папулярнасць аўтара, калі той вырашыць скарыстаць увагу да сваёй асобы, ці свайго твора ў камерцыйных мэтах...

І яшчэ. Сёння мне пяцьдзесят два гады, напісаў словамі лічбу, і сам моцна здзівіўся... Якія крытыкі могуць паўплываць на творцу ў такім "паважаным" узросце?

Хто можа прымусіць мяне перагледзець тыя каштоўнасці, якія цягам жыцця склаліся? Грышкевіч? Ну, каб у яго быў наган, ці вечнае пяро Лукаша Бэндэ... Няма на гэтым свеце сёння такіх крытыкаў. Інтэрнет "развёў" пісьменнікаў і рэдактараў. Пісьменнік застаўся сам-насам са сваім чытачом. Той звыклы парадак, калі паміж літаратурай напісанай і надрукаванай стаялі рэдактары і крытыкі, парушыўся. Забараніць пісьменніку друкаваць свае творы больш ніхто не можа. Крытыкі зрабіліся чытачамі. Адукаванымі, разумнымі, іранічнымі, дасведчанымі, абазнанымі... Але ўсяго толькі чытачамі. Яны могуць быць удзячнымі і няўдзячнымі.

А вось сутнасць літаратуры не змянілася абсалютна.

Крытыкі напісалі пра тое, што яны думаюць пра мой тэкст "Дзед". Я цяпер мушу напісаць пра тое, што думаю пра іх тэксты. Так атрымліваецца?

Недахопаў у сваім творы я ведаю нашмат больш, чым згледзеў і адшукаў спадар Грышкевіч. Але, хачу нагадаць пра графа Талстога і яго "Детство. Отрочество. Юность". І калі Грышкевіч зможа давесці, што гэта не аўтабіяграфічная проза, то — граф яму суддзя. Пералік аўтабіяграфічных раманаў, апавяданняў, навел можна доўжыць, але навошта. Я не змагу змяніць погляды крытыка, а ён не здолее змяніць мае.

Чытач Грышкевіч не захацеў зразумець пра што я пісаў. Можа, не было ў яго дзеда? Можа, не пашанцавала яму так як мне? Хіба я ў гэтым вінаваты? Тысячы мастакоў малявалі дрэва, дзіця, жонку, маці, Хрыста... Але ў кожнага атрымлівалася свая карціна. Я паспрабаваў словамі стварыць партрэт свайго дзеда. Намаляваў так, як лічыў патрэбным. І калі Грышкевіч упэўнены, што літаратура павінна быць толькі "сачынённай", то магу сказаць, што гэта спрэчная тэза.

А калі шчыра, то мне прыемна, калі пішуць пра Уладзіміра Сцяпана. Дзякуй!

Уладзімір СЦЯПАН

Фота Кастуся Дробава

Беларускай літаратуразнаўчай навукай за шматгадовы перыяд свайго існавання пройдзены вялікі шлях, назапашаны значны вопыт даследавання літаратуры як мастацтва слова. За апошнія два дзесяцігоддзі адбыўся значны якасны зрух у кардынальнай пераацэнцы фактаў, імёнаў, твораў, найважнейшых, у тым ліку класічных, помнікаў літаратуры, прасочаны асноўныя заканамернасці літаратурнага працэсу на працягу яго гістарычнага развіцця і станаўлення. Асэнсаваны шляхі інтэграцыі беларускай літаратуры ў інфармацыйна-мастацкую прастору сусветнай культуры, вызначаны крыніцы, фактары ўзаемадзеяння яе з еўрапейскім літаратурным мегаарэалам.



# У лабірынце трывог і спадзяванняў

## Пра некаторыя тэндэнцыі ў сучаснай літаратуры

Шматлікія даследчыкі, не без важкіх на тое падстаў, указваюць на разнастайнасць, шырыню мастацкай палітры сучаснага літаратурнага працэсу. Пры гэтым адзначаецца тая акалічнасць, што становіцца ўсё больш цяжка зводзіць да нечага аднаго, пэўным чынам класіфікаваць, сістэматызаваць стракаты кангламерат літаратурных з'яў, навінак. З дастатковай ступенню верагоднасці канстатуецца факт поліцэнтрычнасці (дэіерархізацыі), мноства мастацкіх канцэпцый і ідэй, нярэдка спалучаных не так з пазітыўнай, колькі з негатыўнай афарбаванасцю ўзнаўляльнай карціны свету.

Што маецца на ўвазе?

Сёння існуе вялікая небяспека трапіць у хітра расстаўленае сіло гэтай літаратурнай «смакоўніцы». Яна найперш тоіцца ў тым жа некантраляваным працэсе камерцыялізацыі літаратуры, у яе папулісцкай арыентацыі, у перанасычанасці кніжнага рынку таннай прадукцыяй постмадэрнісцкага «пакрою», якая не прызнае ніякіх эстэтычных і этычных табу і спрыяе ператварэнню самой сябе ў крыніцу разбэшчвання душ праз навязванне паталогіі і дэградацыі ў самых нізкіх іх праявах. Нават з улікам неадназначнасці і шматмернасці працэсаў, якія адбываюцца ў сучасным грамадстве і літаратуры, не варта забывацца пра тое, што літаратуразнаўца, нароўні з літаратарам, мастаком-творцам істотна ўплывае на грамадскую свядомасць, на ідэйна-эстэтычны ўзровень чытача. Ён закліканы стаяць на варце грамадскага слугавання праўдзе, сумленнасці і духоўнасці.

Між тым усё больш відавочнай становіцца прагматычнасць падыходаў да літаратуры і літаратурнай справы. Назіраюцца спробы ператварэння "прыгожага пісьменства" як фактару грамадска значнага, духоўна крэатыўнага ў сродак раскручвання даволі сумнеўных, але выгадных камерцыйных праектаў, а значыць, у набыцці неўласцівага ёй статуту — быць разменнай манетай бізнесу. І гэты факт не патрабуе адмысловых доказаў. І тэндэнцыя гэтая шырокараспаўсюджаная. Яна мае шэраг глыбінных агульных прычын, звязаных у першую чаргу з дэвальвацыяй грамадскіх нораваў і духоўных прыярытэтаў ва ўмовах глабалізацыі, стандартызацыі, уніфікацыі чытацкіх зацікаўленняў і інтарэсаў, што ўсё настойлівей збочваюць на мяжу "ненарматыўнага і некананічнага". У гэтай сувязі не такім ужо бяскрыўдным выглядае і той факт, што сённяшнія пастканструктары імкнуцца правесці бязлітасную экзекуцыю над словам, дэсакралізаваць слова, выпатрашыць з яго сапраўдны, сутнасны змест і значэнне. І ўжо зусім недаравальна, калі такія штукарствы-вычварэнні дазваляюцца ў адносінах да Купалавага слова. Неаднойчы выказвалася перасцярога, што ў апошні час пагражальнай становіцца тэндэнцыя, калі Прароку нацыі прыпісваецца комплекс неўласцівых яго творам ідэй, а спекуляцыі на Купалавым аўтарытэце абумоўлены відавочнай кан'юнктурнасцю, несумленнай падменай сапраўдных купалаўскіх ідэй ілжэідэямі, папулісцкім слэнгам.

Уяўляецца аксіяматычным фактам, што ў складанай рэфлексіі сучаснасці архімодныя канцэпцыі і трактоўкі з відавочнай прэтэнзіяй на арыгінальнасць, эксклюзіўнасць часта мяжуюць з радыкальным адмаўленнем, надуманасцю, фразёрствам. У многім дзякуючы несумленнай крытыцы ідзе размыванне самога паняцці ісціны і праўдзівасці, таму што жаданае часта выдаецца за сапраўднае, пасрэднае ўзводзіцца ў абсалют.

Чалавеку, нават у межах мастацкай выдумкі, фантазіі важна даць шанц на тое, каб засцерагчы душу ад нечысці і бруду, даць права на духоўную бяспеку, а разам з тым гарантаваць аўтаномнасць і недатыкальнасць яго ўнутранай эгацэльнасці. У любым выпадку, твор мастацтва павінен натхняць на акт самаачышчэння, выклікаць духоўны катарсіс, спрыяць пошуку самога сябе, весці да існага, высокага. Дасягнуць жаданага, а галоўнае, дзейснага эфекту магчыма пры ўсялякім задзейнічанні, актуалізацыі геннага кода культуры, мастацкіх архетыпаў, міфалагем, канцэптаў, якія садзейнічаюць найбольш прэзентатыўнаму выяўленню сучаснасці і асобаснаму духоўнаму самавыяўленню. Пісьменніка можа чакаць поспех там, дзе ён імкнецца абаперціся на традыцыйныя архетыповыя структуры і каноны, пераасэнсаваць вопыт папярэднікаў, кіруючыся высакароднай мэтай вывесці сучасніка з цянётаў спажывальніцтва і падтрымаць у ім вечную прагу ідэалу. З крызісных сітуацый можна знайсці выйсце, абапіраючыся на цвёрдыя жыццёвыя асновы, не падуладныя відазмяненню ў залежнасці ад выпадковага збегу абставінаў. І не кіравацца той думкай, што літаратура новага часу ў сваіх эксперыментальна-пошукавых, постмадэрнісцкіх штудыях павінна стаць эстэтычным гегемонам і адсунуць "старую", у тым ліку і класічную літаратурную традыцыю, на другі план. Такія погляды ні ў якім разе не павінны ўспрымацца ўсур'ёз, а тым больш станавіцца метадалагічным крэда літаратуразнаўства і галоўным прынцыпам літаратурнай практыкі. Гісторыя пераконвае: з дапамогай плённай літаратурнай традыцыі заўсёды адкрывалася больш магчымасцей вызначыць галоўны вектар развіцця грамадства і выявіць патэнцыял тых сіл, якія надавалі імпульс яго ўстойліваму і па-сапраўднаму эфектыўнаму гуманістычнаму і сацыяльна-культурнаму абнаўленню.

Традыцыя па сваёй сутнасці выступае ў якасці дзейснай і структураўтваральнай дамінанты, генеруючым і стабілізуючым фактарам літаратурна-мастацкай дзейнасці наогул. Апора на праўду жыцця, фалькларызм і звязаны з ім міфалагізм, захаванне анталагічнага пачатку, арыентацыя на гуманістычныя прынцыпы і ідэалы — нязменныя складнікі класічнай літаратурнай традыцыі. Па вялікім рахунку, апошняя ўяўляе сабой своеасаблівую духоўную інфраструктуру, спрыяе мастацкаму мадэляванню канцэпцыі нацыянальнага быцця, усталяванню міралюбных нацыянальных адносінаў, захаванню нормаў і прынцыпаў маралі, спасціжэнню законаў чалавечай супольнасці, а разам з тым і універсальных законаў быцця. У сітуацыі пагражальных працэсаў духоўнай анэстэзіі, імклівага змянення статусу аўтаномнай асобы як прадстаўніка пэўнай нацыі літаратура аб'ектыўна бярэ на сябе задачу акумуляцыі, назапашвання і як бы своеасаблівага мастацкага структуравання нацыянальнага тыпу светабачання і светаразумення. Скандэнсаваныя пэўным чынам у літаратуры праявы нацыянальнай рэальнасці дазваляюць бліжэй падступіцца да раскрыцця сутнасці нацыянальнага менталітэту, пранікнуць у глыбіню нацыянальнага характару, нацыянальнай псіхалогіі, нарэшце, захаваць духоўны эталон нацыянальнага светаўладкавання.

Цяпер як ніколі запатрабаваны ўзважаны, аб'ектыўны аналіз і падыход да кожнай з'явы мастацтва, устаноўка на раскрыццё актуальных праблем развіцця літаратуры і самой літаратуры ў цеснай сувязі з сучаснасцю, з днём сённяшнім. Тут павінна сказаць сваё важкае слова і літаратурная крытыка, якая, прафесійна ўдасканальваючы самую сябе, адначасова абавязана садзейнічаць прафесійнаму росту пісьменніка і ў цэлым прафесіяналізацыі літаратуры ў выпрацоўцы аб'ектыўных ацэначных крытэрыяў і надзейных ідэйна-эстэтычных арыентацый, якія вядуць да паглыбленага мастацкага асэнсавання жыцця. Пры ўсёй магчымай альтэрнатыўнасці падыходаў і пазіцый галоўнай павінна заставацца ўстаноўка на дыялагізм, на сатворчасць, на гуманізацыю і гарманізацыю асобаснага і надасобаснага пачаткаў у працэсе абнаўлення жыцця. Варта памятаць пра тое, што высокамастацкія тварэнні, якія знаходзяць водгук у сэрцах чытачоў, па праве з'яўляюцца важнымі складнікамі стратэгіі забеспячэння духоўнай нацыянальнай бяспекі, кандэнсатам маральна-этычных, эстэтычных і ідэалагічных каштоўнасцей.

Літаратурнай крытыцы трэба надаць новае гучанне. Гаворачы пра ролю і значэнне крытыкі ў фарміраванні грамадскай свядомасці часу, Ю.Бондараў падкрэсліваў, што яна — "не сацыяльнае дактрынёрства, не славесны вампір, не дабрадзейная п'яўка, неабходная для здароўя пісьменніка, а гэта жанр літаратурны ў квадраце, сродак выхавання густу, гэта значыць пачуцця праўды і прыгажосці. Сам жа крытык – гэта пісьменнік "злучальнай зоны", будаўнік мастоў, заканадаўца меркаванняў, з якімі чытач мае права згаджацца ці не згаджацца".

Крытыка — гэта адна з формаў інтэрпрэтацыйна-ацэначнага літаратуразнаўчага аналізу. Гэта значыць, прадметам аналізу і ацэнкі крытыкі становяцца не апрыёрна вызначаныя сацыяльныя праблемы часу, а эстэтычна і этычна ацэнены твор мастацтва, яго месца і роля ў літаратурным працэсе. І важна не збіцца на публіцыстычную рыторыку, звычайны трафарэтны папулізм, канстатацыю банальнага, агульнавядомага, павярхоўную апісальнасць, чым, на жаль, часта грашыць наша крытыка.

Публікацыі ў сродках масавай інфармацыі не павінны станавіцца трыбунай звядзення рахункаў, спекулятыўнага прад'яўлення амбітных прэтэнзій, дэманстрацыі ваяўнічага нігілізму, адстойвання вузкакампаратыўных інтарэсаў. Патрэбны спакойны, узважаны, аб'ектыўны аналіз і падыход да кожнай з'явы мастацтва, акрэсленне актуальных праблем развіцця літаратуры ў цеснай сувязі з сучаснасцю, з днём сённяшнім. У стадыі свайго складвання, фарміравання — новы падыход, новы погляд на сучасны літаратурны працэс, пераацэнка з новых светапоглядных і метадалагічных пазіцый літаратуры ранейшага часу. Нельга дапусціць, каб наша класічная літаратура ў сваіх лепшых узорах стала не толькі прадметам вывучэння для спецыялістаў, яшчэ горш — "тэкстам" для правядзення амбітных постмадэрнісцкіх дэканструкцый, а заставалася перадусім літаратурай для ўдумлівага чытання.

Валерый МАКСІМОВІЧ,
доктар філалагічных навук

Калонка Міхася Южыка

# Метафізіка ісціны

## па старонках літаратурных блогаў і перыёдыкі



Часам дзіву даешся нашым беларускім літаратарам і літаратурным дзеячам. Здавалася б, колькі ўсяго-ўсякага наслухаўся ты, братка Южык, цялёпкаючыся і высільваючыся ў нашым беларускім каляпісьменніцкім моры; нічому не мусіш ужо здзіўляцца. Ат не! Кожнага разу чытанне нашай перыёдыкі і блогаў ЖЖ прыносіць табе новыя эмоцыі. Што радуе.

Выказваецца, прыкладам, Валянцін Акудовіч катэгарычна ў плане таго, што няма ў нас літаратурнай крытыкі. Ну, зусім проста няма. Ціхан Чарнякевіч шчыра не разумее такіх высноў, бо і сам даволі плённа працуе ў той галіне, і пастаянна чытае крытыку ў перыёдыцы. Ну, ды ладна: няма для Акудовіча ні крытыкаў Чарнякевіча, ні Марціновіча, ні Капусты — то хоць Кісліцыну, здавалася б, з яе некалькімі прафесійнымі літаратуразнаўчымі кнігамі варта прызнаць? Не, няма і Кісліцынай, і Шаўляковай — нікога для спадара філосафа няма. Тут справа ў тым, што калі гавораць: няма крытыкі, няма раманаў, няма фантастыкі — гэта зусім не вымагае літаральнага разумення сказанага. Тое проста азначае, што спадар выступоўца лічыць: існыя крытыка, раманы, фантастыка не адпавядаюць ягонаму (выдуманаму) ідэалу літаратуры. Вы як бы ёсць, але адначасова вас як бы і няма, бо не дагадзілі нейчаму эстэтычнаму ўзору (дый ці чытаў ён вас усіх?). Тым больш што для Акудовіча, згодна з яго філасофскай сентэнцыяй, і яго самога таксама – няма. Прынамсі тут ён непрадузяты.

Выступае, напрыклад, аўтар сталай калонкі ў "ЛіМе" Ася Паплаўская і з традыцыйнай сваёй катэгарычнасцю сцвярджае, што кніга Вікі Трэнас "Экзістэнцыйны пейзаж" мае не кідкую, не запамінальную назву, а вось кнігі Уладзіміра Някляева і Сяргея Дубаўца ("Цэнтр Еўропы" і "Як?") маюць, паводле Асі, якраз-такі кідкія і запамінальныя назвы. Ох, ліхаманка яго бяры, хочацца тут запытацца, па якіх жа такіх крытэрыях робяцца тыя высновы, дзе тлумачэнні? Іх у артыкуле не назіраецца нават пад лупаю. Проста гаворыцца: так і так, гэтак і гэтак, а крытэрыем ісціны выступае ўнутранае перакананне аўтара. Я ж трохі патлумачу, літаральна на трох пальцах і ў двух словах: "Экзістэнцыйны пейзаж" бачыцца мне назвай не толькі кідкай, запамінальнай, а нават элегантнай і цудоўнай — таму, што экзістэнцыйны пейзаж — гэта, чытай, унутраны свет аўтара, паэтэсы. Усё надзвычай проста і разам з тым вытанчана; да таго ж ясна, пра што будзе кніга. За назвай жа "Цэнтр Еўропы" не бачыцца празаічнага тэксту, а бачыцца палітычная кан'юнктура. Назва "Як?" Дубаўца не гаворыць мне абсалютна нічога, нават намёку не дае на змест кнігі. Што, згадзіцеся, не ёсць добра.

Абураецца, да прыкладу, спадар Гапееў у сваёй эмацыйнай рэцэнзіі на "Мяжу" Андрэя Федарэнкі, што няма, не стала ўжо адзінай літаратурнай прасторы з адзіным, фігуральна кажучы, выдавецтвам і адзіным крытыкам-ідэолагам, які расставіць усіх па ранжыры. Алесь Аркуш спрабуе пераканаць Гапеева, што такое ўжо нядаўна было і прывяло, у прынцыпе, да катастрафічных наступстваў. Але марна. Гапееў слухаць чужыя аргументы не надта схільны. Хацелася б толькі паглядзець, як бы ён прабіваўся з правінцыі ў сталіцу за Саветамі, дзе прыняцце ў Саюз пісьменнікаў давала ў перспектыве кватэру і ўсялякія выгоды, а вымагала толькі пісаць "як трэба".

Гаворыць, напрыклад, Леанід Галубовіч, што цяперашняя паэзія не ёсць паэзіяй, а вось раней... і прыводзіць прыклады Купрэева, Разанава, Мінкіна і г.д. Закавыка толькі ў тым, што наведвальнікам імпрэзаў сучасных паэтаў-выступоўцаў, паэтаў-трыбунаў і эпатажнікаў здаецца, што менавіта такая паэзія і мусіць быць. Іншай ім не трэба. Дзе крытэрыі ісціны? Ва ўнутраным свеце ацэншчыка? Ці яшчэ недзе? Тут варта не забывацца, што ўнутраны свет выхадца з вёскі і выхадца з горада, выгадаванага за камуністамі і выгадаванага ва ўмовах усёдазволенасці і ўсёдаступнасці, — розняцца кардынальна. Напрыклад, я, гараджанін, не ўзрушваюся паэзіяй Купрэева анітрохі. Можа, гэта мая бяда. А можа, бяда паэта Купрэева, вясковая псіхалогія якога дысануе з урбаністычным трэцім тысячагоддзем.

Таксама нямала ўражаны абмеркаваннем у "ЛіМе" твора Уладзіміра Сцяпана, дакладней — мініяцюраў, сабраных пад назваю "Дзед". Трое крытыкаў прызнаюцца ў любові да Сцяпана і яго творчасці, прынцыпова абмінаюць неабходную частку "адмоўнае", кажучы, што анічога адмоўнага, спрэчнага ў яго творчасці не знайшлі (?!), а чацвёрты, Грышкевіч, нібы ў насмешку з прыхільнікаў Сцяпана кажа, што не бачыць нават элементу мастацкага ў гэтым творы — так, маўляў, адзін кіслы суб'ектывізм, не варты ў прынцыпе абнародавання, а варты сямейнага альбома, і толькі. З усімі чатырма не магу пагадзіцца. Крытыка — гэта не замілаванне, не прызнанне ў любові, і не адмаўленне твора як факта. Інакш можа скласціся ўражанне, што калі ў творы не знаходзяць нічога спрэчнага, то ідэйная напоўненасць яго нулявая. Твор мусіць быць космасам, у якім нічога да канца незразумела, усё пад пытаннем. Прыдумаць, нафантазіраваць, стварыць новы, свой свет значна цяжэй, чым з таленавітым замілаваннем паўспамінаць "гады маладыя шчаслівыя". Дарэчы, Уладзімір Сцяпан гэта выдатна ведае, маючы багаты вопыт дэтэктыўнага "сачыніцельства"... Варта, на маю думку, варта адрозніваць мемуары ад мастацкага твора, публіцыстыку ад філасофіі, крытыку ад паэзіі. Розныя, паўтараю, узроўні энергіі тут выяўляюцца.



Мікола МЯТЛІЦКІ

## Сходня

Памяці Вольгі Васільеўны Казловай

Журыцца маё слова,
Снежань душы не пагодзіць.
Вольга Васільеўна Казлова
У вечнасць сваю адыходзіць.
З вайны пякельнай сцяжына легла
Праз Беларусі гоні.
Дажджынкай дробнай сляза прабегла
У снежня па зязблай скроні.
Зноў чую слова айчыннае, роднае
Праз часу віхуры-веі.
Ёсць пад Масквою станцыя Сходня,
Дзе дух беларускі спее.
І будзе засеяна ніва шчодра,
Вырасце сад на руінах.
Устане пад сонцам светліста-годна
Твая маладая краіна.
І будзе, як зерне, роднае слова
Цёплую глебу знаходзіць.
Да сейбітаў рупных
Вольга Казлова
У вечнасць сваю адыходзіць.

* * *

Грымоцілася ў небе,
Хмурэла і ліло.
І страцілася недзе
Ранейшае святло.

Плылі густой аблогай
Нясходныя дажджы.
Клубіўся над дарогай
Адчай густой імжы.

І спудзілася жыта,
Палегла ад дажджу.
Планеты ўсёй арбіта
Пралегла праз імжу.

Здалося, што бясконца
Замглела цемра скрозь.
Ды выглянула сонца.
І сэрца выдых: вось!

Зноў зыркнула з-за лесу
Праменнай зіхатой.
Зняло імглы завесу
Над нівай залатой.

Занятыя работай,
Пабеглі мурашы.
І выліўся бліскотай
Шырокі свет душы.

* * *

Сыходзіць верасень… Грыбамі
Прапахла ў ранішніх барах.
Аблокі з шызымі чубамі
Асмужна стынуць на вятрах.

Яшчэ пяшчотна і лагодна
Праблісне ранішні прамень.
Яшчэ зіхотна і лагодна
Зардзее ў росах белы дзень.

Ды ўжо начною прыхалодай
Сцінае зжухлую траву.
Суладна з вечнаю прыродай
Пад небам верасня жыву.

Зырчэй у выстылай макрэчы
Бярозы свецяцца ў гаях.
У гэтым стоеным зарэччы
Нас двое – верасень і я.

* * *

Слухаю музыку восені —
Шэпчацца лісце з дажджом.
Дні мае вольныя — восьяны! —
Вухне запознена гром.

Лета нібы не сыходзіла,
Лісце не сыплецца ніц.
Льецца штоночы мелодыя
Вогненных навальніц.

Штосьу прыродзе парушана —
Спёка не знае мяжы.
Толькі для сэрца аддушына:
Шэпчуць грыбныя дажджы.

Раніца ўзыдзе расквечана
Іскрамі зыркімі рос.
Будзе навылет прасвечана
Белай карою бяроз.

* * *

Вясну абвесціць жаваронак спевам,
Узнесены у сонечны блакіт.
І дух раллі, успараны сугрэвам,
Устане над тугой магільных пліт.

І будзе поўдзень ярыцца штосілы
У водблісках і клопатах жывых.
І я нясу да матчынай магілы
Букецік першых кветак палявых…

* * *

Агуслы хмыз, малліннік дзікі,
Балотны прыпах у ваколлі.
Ды раптам гронкі галубікі
На кволым, ледзь прыкметным голлі.

І жменю чорную за жменяй
Кідаю ў рот — ірву заўзята.
Хай будзе стронцыю паменей
Ў душы, Чарнобылем працятай.

* * *

Наламаў калінавы букет
І зырчэйшым стаў туманны дзень.
І здалося: гэты белы свет
Стаў святлейшым на адзін прамень.

* * *

Штодзённы клопат чалавечы:
Выпаліць ранкам у печы,
З дрывотні прынёсшы дровы.
І падаіць карову.
Адну і другую жменю
Курам сыпануць ячменю.
Аддаць уклоны прыродзе —
Бульбоўніку на гародзе.
Стрэціць са школы ўнука,
Каб дзе не гойсаў, манюка.
Пачаставаць абедам,
Крошку ў рот кінуць следам.
Потым згадаць аб вечным.
А там, паглядзіш, — і вечар…

* * *

Старое падранае сіта —
Зоркамі неба расшыта.
Ноч на зямлі царуе,
Дзіркі ў нябёсах цыруе, —
Промнем цыруе зорным.
Срэбнаю ніткай
Па чорным.

Тэлескоп "Хабл"
Самае зоркае вока Зямлі,
Мне адкажы,
Дзе і калі
Будзе планета скмечана
Гэтак падобная да Зямлі,
Спевам жыцця ўквечаная?

Глядзіш праз мільёны гадоў светлавых,
Бачыш галактыкі новыя.
Хто ходзіць наводдалі таму жывых?
Як здольнасці іх разумовыя?

Ў Сусвеце — упэўнены — мы не адны.
Як з кропель складаюцца росы,
З паўсюднай складаюцца гаманы
Нашы касмічныя лёсы.

Проста расселены надта далёка,
А гэтак бы стрэліся ўжо даўно.
Хабл, самае зоркае вока,
Што там, у Сусвеце, відно?

Цэлячы ў далячынь светлавую,
Зорачы ў неба ночы і дні,
Калі дзе згледзіш планету жывую,
З арбіты мне падміргні.



Іван КАПЫЛОВІЧ

* * *

Блакітныя праталіны —
Як шыбіны ў акне.
Той думкай дзень ухвалены,
Якая без акаліны
І паспрыяе мне.

Пачуцці ўсе абудзяцца
Як ручаёвы бег.
Калі вясна прыпусціцца,
То пойдзе кожнай вуліцай
І з ног зіму саб'е.

Вясна — віно пахмельнае,
Закружыць галаву.
Дум чарнату адбельвае
Да чысціні нятленнае —
Век з імі пражыву.

* * *

Зноў еду я дадому —
Да берага свайго.
Да траў і квят мядовых,
Каб далей ад садома
І ад спакус-нягод.

Прайшоў я каля луга,
Дзе пасвіцца буслы.
Я лета клёкат слухаў
І адступала скруха —
Развязваў дзень вузлы.

Рыплівыя вароты
Сустрэнуць мяне зноў.
Убачацца шыроты
І час той незваротны
З паводкавай вясной.

На ўзмежку груша-дзічка,
Што вырасла няўзнак.
Яна ўжо маладзічка
І вечары са знічкай
Жывуць у яе снах.

Спынюся каля плота —
Ён хіліцца набок.
Мне многа тут работы
І абальецца потам
Мой не адзін дзянёк.

* * *

Не сысці з накановaнай лініі,
У невядомасць якая вядзе.
Заблукаю між далямі сінімі
І спытаю — знаходжуся дзе?

Я ірвуся з цянётаў туманнасці
На прастору свабоднага дня.
Што ні крок, то адны нечаканасці,
А дарога да праўды — адна.

Заклапочаны зноў двухсэнсоўнасцю,
Калі выбар і ёсць, і няма.
Выйсце знойдзецца ў безвыходнасці —
Толькі пыл падымаю дарма.

Ані дня, ні мінуты без пошуку
І сяброў, і дарог, і сустрэч.
Ад чаго я ўздыхаю і божкаю?
Слова добрае — шчыт мой і меч.



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

## Полацкія кадэты

Полацкі Кадэцкі корпус за час свайго існавання з 1835 па 1913 гады даў адукацыю больш чым 3000 афіцэрам. Сярод яго выпускнікоў былі абаронца Порт-Артура генерал Кандрацюнка, удзельнік паўстання 1863 года шляхціц Патабня, гісторык і археолаг Стаброўскі і іншыя.

Над Дзвіной на пачатку лета
Салаўіны чароўны спеў...
Ходзяць Полацкія кадэты
Між магутных вячыстых дрэў.
Лучыць іх маладая радасць,
Горад, хвалі сівой Дзвіны,
Дзе да будучых генералаў
Прылятаілі, як птушкі, сны,
Дзе спляталіся сілай дзіўнай
Краю роднага карані,
І жаданне любіць Радзіму
Узмацнялася дзень пры дні.
І ішлі праз віхур і буру,
І ў вякі назаўжды ўвайшлі
Абаронцамі Порт-Артура
І сынамі сваёй зямлі.
Успаміны пра іх жывыя,
Голас памяці не заціх,
Там, дзе вежы святой Сафіі
Блаславілі на подзвіг іх.

* * *

Я той успамін на хвілінку
У памяці сёння знайшоў:
Спявала жанчына на рынку
Між тлумных гандлёвых радоў.

І песня пад неба ляцела,
Было так далёка чуваць,
І грошай яна не хацела,
А проста хацела спяваць.

Вар'ятка? Жабрачка? Не знаю.
Ды голас ляцеў над зямлёй...
І думаў: і я заспяваю
Нягучна збалелай душой.

Як сэрцу для радасці мала,
Хоць час наш няўмольна бяжыць!..
Жанчына на рынку спявала
І светла хацелася жыць.

* * *

Зноў клён галінкай мокраю
Махне табе ў акно,
А ты сыграй мне Моцарта
На струнах светлых сноў.

І замяце парошаю
Дамы і ліхтары.
Ты ж светлае, харошае
Мне ў трубку гавары.

Фаготам, флейтай, лютняю
Твой голас прагучыць.
І цэлы свет палюбіцца,
І прыйдзе радасць жыць.

І ўсё на свеце можна мне,
І малады я зноў,
Калі ты граеш Моцарта
На струнах светлых сноў.

* * *

Мацярык — ад слова "маці".
Я ўзгадаю горад мой,
Як плыло свята па хаце
Яе ўсмешкі маладой.

І пяшчоты светлай поўны,
Назаўсёды я зняброў
Маці ўсмешку, родны Полацк,
Птушкі-радасці пяро.

І свайго вяртанне слова,
Што імкнулася праз сны
Да святой, мацерыковай
Песні роднае Дзвіны.

* * *

Калі забудзеш слова,
на цэлы свет наўсцяж
Адчаем нематы сябе асудзіш.
І згаснуць спадзяванні,
і пахіснецца сцяг,
І не пачуюць тваю
праўду людзі.

Калі забудзеш мову,
праз цемру не знайсці
Шляхоў да светлай
і жаданай мэты.
І продкі адгукнуцца
зноў птушкаю ў трысці,
І ты не зможаш адказаць на гэта.



Фота Кастуся Дробава

# Дзяржынскі маньяк

## Крымінальнае апавяданне

Раман БОРТНІК



Глеб Стральцоў злаваўся на сябе. Ён ехаў на электрычцы з Мінска ў Дзяржынск. Ён глядзеў на прыдарожныя краявіды. Прыдарожныя індустрыяльныя краявіды хутка плылі ў чорных акулярах. Твар у Глеба быў такі, што адразу відаць — чалавек злуецца. Ён злаваўся на сябе, бо пагадзіўся на просьбу айца Міхаіла паглядзець царкву. Глеб выдатна ведаў царкву ў Дзяржынску. Ніякіх роспісаў у ёй ніколі не было. Тут звоніць святар і кажа, што яму падаецца, нібыта пад напластаваннямі фарбы на сценах ёсць роспісы. Глеб паспрабаваў пераканаць айца Міхаіла, што ў лепшым варыянце на сценах знойдзецца аматарская альфрэйка — нязграбныя ўзоры, зробленыя самавукам. Святар не пагадзіўся, больш за тое, ён прапанаваў Стральцову за прыезд і агляд царкоўных сценаў вялікі ганарар. Ён прапанаваў такую суму, што ў рэстаўратара Стральцова язык не павярнуўся адмаўляцца. Трэба было адмовіцца, але Глеб спакусіўся, кінуў распачатую працу над рэстаўрацыйным аднаўленнем палатна Альгерда Малішэўскага і паехаў у Дзяржынск.

Айца Міхаіла — невысокага сухенькага блакітнавокага дзядка — Глеб знайшоў у царкоўным палісадніку.

"Рады! Рады ўбачыць цябе, Глеб! Шчыра кажучы, я сумняваўся, што ты прыедзеш у наш горад. Ты — сталічны чалавек, заняты. Але перайду да справы... Я так настойліва выклікаў цябе, бо, акром справы мастацкіх, ёсць тут крымінальная гісторыя. У Дзяржынску завёўся быў маньяк. Ты, пэўна ж, чуў страшны аповед пра пяць задушаных дзяўчат. Таму я цябе, Глеб, паклікаў як прыватнага дэтэктыва. Тры гады таму ў Дзяржынску, непадалёк ад чыгуначнай станцыі, знайшлі Свету Новік. Нейкі нелюдзь збіў яе моцна, згвалтаваў, задушыў і кінуў труп пад станцыяй. Праз які месяц каля вёскі Рудзіца, у невялічкім ляску знайшлі задушаную Яню Межыгурскую. Праз тыдзень прапала дачка загадчыцы аптэкі Люся Садоўская. Шукалі ўсім Дзяржынскам, і замест Люсі знайшлі Зосю Попел. Апошняй ахвяраю тутэйшага маньяка стала Анжаліка Бохан. Я кажу апошняй, бо два з паловаю гады ніякіх гвалтоўных забойстваў у нас не было. Хай Бог даруе нам грахі нашы, і ўратуе нас ад таго, каб зноў пачуць пра маньяка і яго новыя ахвяры. Але я ўжо пачуў пра яго. Пачуў ад дзяўчыны, якую ён згвалтаваў і хацеў задушыць, але яна ўдарыла яго каменем па галаве і ўцякла ў лес. Ён тады спалохаўся, з'ехаў з Дзяржынска. Два гады працаваў у Віцебску, у трамвайным дэпо, а цяпер вярнуўся да бацькоў. Даруй мне Божа, што чужое пераказваю, як сваё! Але хай стану грэшнікам, а новае забойства не павінна здарыцца ў горадзе. Да міліцыянераў я не пайшоў з дзвюх прычынаў. І бацька, і брат, і дзядзька гэтага Барыса Юрэвіча якраз у міліцыі і служаць. У кожным разе, нават калі будзе даказаная віnаватасць Барыса, яны — сваякі гэтага нелюдзя — абвінавацяць мяне ў тым, што парушыў таямніцу споведзі. Мне яны жыццё сапсуюць і дзяўчыну, што яго выкрыла, паспрабуюць са свету зжыць. Таму і прашу дапамогі ў цябе, Глеб. Прыдумай, як нам усім выблытацца са страшнай гісторыі..." — святар запытальна паглядзеў на Стральцова.

"Цяжкі грэх і названы грахом смяротным, каб мы ведалі, што робім яго ў скрайнім выпадку. Робім меншы грэх самі, каб іншы чалавек не здзейсніў большы грэх. Думаю, айцец Міхаіл, я змагу дапамагчы..." — "Я чакаў паразумення!" — "Ці маглі б вы, айцец Міхаіл, пазнаёміць мяне з кім-небудзь са сваякоў замардаванай дзяўчыны? Трэба зрабіць так, нібыта гэты сваяк і выклікаў мяне на дапамогу. У сэрцы гэтага сваяка павінна каліхаваць прага помсты, і разам з тым ён мусіць быць цалкам надзейны, цалкам наш чалавек. Мы яму нічога не скажам ні пра маньяка Юрэвіча, ні пра дзяўчыну, што ўдарыла таго маньяка каменем..."

На вячэру да айца Міхаіла быў запрошаны бацька першай ахвяры дзяржынскага маньяка — Віктар Новік. Невераемна худы мужчына меў на твары сляды доўгагадовага п'янства, але таго п'янства, што было своечасова спынена раз і назаўжды.

"На пахаванні сваёй Святланы я не выпіў ні кроплі. Цяжка было, але над труною дачкі я пакляўся перад Богам: пакуль не знайду маньяка, піць не буду! Царква дапамагла! Айцец Міхаіл не дасць схлусіць... Дык кажуце, што знойдзеце выradка?" — Новік зрабіў вялікі глыток журавіннага морсу і нясвежай хустачкай выцер узмакрэлы лоб.

"Справа цяжкая і рызыкоўная. За свае паслугі я бяру немалыя грошы. Калі вы пагодзіцеся аплаціць ганарар, я знайду забойцу! Пераначую я ў гасцініцы. Заўтра вы збераце ў сваім доме ўсіх бацькоў: Межыгурскага, Садоўскага, Попела і Бохана. Калі нехта пачне адмаўляцца, настойвайце, бо патрэбны ўсе бацькі..."

Наступным вечарам у доме Новікаў за доўгім сталом сядзелі шэсць мужчын. Глеб Стральцоў распачаў гутарку так: "Я — Глеб Стральцоў. У вольны ад асноўнай працы час я займаюся прыватным вышукам, дапамагаю дабру перамагчы зло. Калі маіх сіл і здольнасцей не хапае, прашу дапамогі ў старэйшага брата, які займае вялікі пост у сілавой структуры. Але зазвычай ён, а не я, просіць дапамогі. У вашым горадзе лютаваў маньяк. Вашы дзеці сталі ахвярамі той лютасці. Мая задача знайсці маньяка і перадаць яго ў рукі ўладаў..."

"Якія гарантыі, што ты зловіш забойцу?" — спытаў Бохан, насаты дзядок з сівым вянком валасоў вакол загарэлай лысіны.

"Калі я яго заўтра не прывяду вам, дык вярну грошы. Нават не я вярну, а верне Віктар Новік, бо грошы будуць у яго на захаванні!"

"Не веру я табе, хлопец! Тут міліцыя тры гады шукала, увесь горад перапарола і перамацала, кожнага чалавечка праз сіта прасыпала. І не знайшлі яны маньяка. А ты кажаш, за адзін дзень знойдзеш. Махлярства! І яшчэ грошы патрабуеш, немалыя грошы. Не веру я табе... Зусім! Мы тут і так гора сербанулі многа. Нам яшчэ не хапала на махляра, на шэльму нарвацца, каб за сваё гора яшчэ і грошы заплаціць..." — Бохан прыкрыў сваю брунатную лысіну шэрай кепкаю, але з-за стала не ўстаў.

"Веру! Не веру! Ніхто нідзе нікому не верыць! — у бок Бохана пачаў казаць Садоўскі, чарнавусы дзядзька з шырокімі плячыма. — Трэба спрабаваць! А то парумзалі і пазабываліся на сваіх дачок закатаваных! Мая да мяне ў сне прыходзіць і просіць, каб знайшоў паганага нелюдзя і пакараў страшнай караю! Каб доўга тутака не балабоніць пустое, прагаласуем. Хто за тое, каб лавіць маньяка?"

Большасць мужчын узняла рукі.

А пятай вечара Глеб знайшоў Барыса Юрэвіча пад хлебнай крамаю. Той стаяў каля нованькага мікрааўтобуса і жаваў ромавую бабу. "Барыс?" — кінуў пытанне Глеб. "Ну! А ты хто?" — Юрэвіч напружыўся і пракаўтнуў кавалак недажаванай бабы. "Я — Глеб, Глеб Стральцоў. Мне машына твая патрэбна на гадзіны дзве! Пару скрынак трэба ў Мінск закінуць..." — "Усім мая машына патрэбна. Калі на малакавозе працаваў, нікому не была патрэбна мая машына. Усе хацелі бясплатна на ёй пад'ехаць. А цяпер усім трэба мая машына. Колькі заплаціш?" — Юрэвіч зноў набіў рот ромавай бабаю. "Дзвесце баксаў! Сто зараз, сто пасля! Толькі ты мне дапаможаш скрыні загрузіць і выгрузіць!"

Мардаты Юрэвіч хітнуў галавою у знак згоды, абабег мікрааўтобус і гасцінна расхінуў дзверы. Глеб сеў побач з вадзіцельскім крэслам: "У музеі краязнаўчым працую. Збіраю старыя фотаздымкі, кнігі і рэчы. Тыдзень у Дзяржынску па людзях хадзіў, шмат назбіраў. Больш за ўсіх набраў у Новікаў, што на Падгорнай жывуць. Спачатку туды і паедзем".

Твар Юрэвіча збялеў, але Глеб зрабіў выгляд, што не заўважыў змены ў настроях шафёра.

"А пасля Новікаў да каго?" — асцярожна спытаў пабялелы Юрэвіч.

"Да Савічаў і Александровічаў, на вуліцу Чапаева. Ведаеш такіх?" – "Ды ведаю! Савіч і Александровіч — мастакі, іх усе ў Дзяржынску ведаюць. Вядомыя людзі ў нашым горадзе!" — настрой у Юрэвіча палепшыўся, і страх з твару прапаў.

Моцным ударам кулака ў хрыбетнік Глеб загнаў Юрэвіча ў дом Новікаў. Там іх чакалі бацькі забітых дзяўчат.

"Во ён – ваш маньяк!" — сказаў Глеб Стральцоў.

Пасля гэтых слоў пачалася жорсткая бойка. Юрэвіч роў, як паранены вяпрук. Мужчыны білі яго нагамі так, каб забіць. Каб не Глеб, мужчыны б і забілі маньяка тут жа. Але Глеб здолеў спыніць збіццё. Залітага крывёю Юрэвіча звязалі і пасадзілі на крэсла пасярод пакоя. Глеб аддыхаўся, нахіліўся да распухлага вуха і сказаў у яго: "Толькі я магу даць табе шанц выйсці з гэтага дому жывым. Магу даць шанц. А магу і забраць яго. Слухай уважліва... Зараз ты тут усім скажаш: дзе схаваў труп Люсі Садоўскай? Ты скажаш, я паеду і знайду яго. Калі я знайду труп Люсі, ты застанешся жыць да суда, гарантую..." Глеб схіліўся яшчэ ніжэй і прашаптаў: "Пастараюся, каб цябе, скаціна, не расстралялі, бо ў глыбіні душы я супраць смяротнага пакарання..."

У доме запанавала гнятлівая ціша.

"Ну ўсё! Пайшоў я!" — Стральцоў павярнуўся ў бок дзвярэй.

"Чакайце! Я скажу, дзе Люся... Яна ляжыць у мелавым кар'еры. Ад заезду леваруч, там лёгка знайсці, я неглыбока яе закапаў..."

На чыгуначную станцыю Глеб Стральцоў накіраваўся пешкі. Яму прапаноўвалі машыну, але ён адмовіўся. Бралася на восень. Вечаровы Дзяржынск моцна пах перасьпелымі яблыкамі.

---

Уладзімір ЛЕБЕДЗЕЎ

## Абразкі

### Антасёўшчына

Над чыстай рэчкай на высокім узгорку здавён расце і прыгожа квітнее вясной куст шыпшыны. А поруч месціцца ладны лапік ворнай зямлі — Антасёўшчына.

Калісьці тут жыў пан Антось. Куст шыпшыны толькі адзін і застаўся ад яго падворка. Кавалак поля, луг абапал рэчкі, урочышча Дубы за полем складалі ўвесь яго надзел. Як Антось набыў невялікі маёнтак, гісторыя не данесць. Хутчэй за ўсё Антосеў бацька купіў яго, калі мясцовы пан стаў распрадаваць сваю зямлю па частках.

Пан Антось не быў важнецкім гаспадаром. Лугі зараслі лазой і алешнікам, пусцела без належнага догляду поле, дальні выступ яго паступова стаў запаланяцца бярозьнікам. Тым не менш, уладальнік маёнтка любіў паказаць свой шляхетны гонар, заўсёды хацеў, каб яго звалі панам. Пра яго стасункі з багацейшымі людзьмі павета доўга яшчэ хадзілі легенды анекдатычнага кшталту. Асабліва часта прыгадвалася адна з іх.

Як перад святамі, так і ў некаторыя святочныя дні пан Антось выходзіў на дарогу, што вяла ў горад, спыняў экіпажы і прасіў дапамогі ў заможных гаспадароў. Пагалоска, аднак, не давала адказу, як мог стасавацца панскі гонар з такой, амаль жабрацкай позай. Сам Антось, відаць, лічыў яе праявай салідарнасці з тымі, каго ён лічыў сваімі прыяцелямі, людзьмі аднаго з ім асяроддзя. Калі паны ехалі ў горад, то ён прасіў напісаць запіску да аканому, каб тыя выдзелілі яму харчоў. Сёй-той пісаў цыдулку, мусіць, каб хутчэй адчапіцца ад дакучлівай асобы, якая настойліва набівалася ў прыяцелі.

Аднойчы пан Антось атрымаў такую паперку ад аднаго спагадлівага багацея. Паклонік Антось даходзіў да яе зместу, шыкоўны экіпаж ужо шпарка каціўся з горкі. Ды ў запісцы не аказалася ўсяго таго, пра што ён дамовіўся з гаспадаром. Пан Антось кінуўся бегчы за карэтай, махаючы рукой, у якой зацiскаў той шматок паперы. Ён так гучна крычаў, што пачула амаль уся вёска:

— Пачакай! Пан не ўсё напісаў, не ўсё! Пачакай-ай! Стой-ой!

Мабыць, з таго часу ў навакольных вёсках сталі бытаваць выслоўі:

"Багаты, як пан Антось", "Чаго ты крычыш, як пан Антось на дарозе".

Толькі куст шыпшыны, які па-ранейшаму грэецца на сонцы і калее на сіверы, сцвярджае вядомую ісціну, што той бывае шчаслівым, хто моцна трымаецца за родную зямлю і спадзяецца на сваю здольнасць выстаяць у любых выпрабаваннях. А мясціна, дзе ён так доўга спрачаецца з ветрам і ўсміхаецца вачыма сваіх кветак усяму навакольлю, вельмі прыгожая. І цяпер, калі ўсе ўжо забыліся пра ранейшага гаспадара, назва поля не забылася, прыжылася, бо яна гучыць як чароўная музыка гэтай зямлі:

— Антасёўшчына!

### Як складаюць прымаўкі

Двое мужчын паволі ішлі па вясковай вуліцы да сваёй гасподы. Кожны з іх нёс на левым плячы па ёмкім кавалку драўніны: старэйшы — таўставатты дубовы сук, малодшы — даволі доўгую бярозавую жардзіну.

На дрывотні гаспадар, выбраўшы зручнае месца, крыху прыгнуўся, затым рэзкім рухам кінуў на зямлю тое, што нёс, і не сказаў, а выдыхнуў:

— Дуба крошка — чорту ношка!

Яго старэйшы сын, скінуўшы свой груз, прамовіў:

— З плеч ды ў печ!

Гаспадыня, якая стаяла каля хаты і з прасветленым тварам глядзела на сваіх руплівых працаўнікоў, падсумавала:

— Не тое грэе, што тлее і курыць, а тое, што гарыць!

А сусед, які праходзіў па вуліцы і чуў выслоўі сямейнікаў, заўважыў:

— У дровах аб'еддзя не бывае.

### Як тут прыгожа...

Юнак узышоў на травяністы пагорак, зірнуў з яго на навакольныя краявіды, неяк сцішыўся і задумена ўздыхнуўшы прамовіў:

— Як тут прыгожа!

Дзяўчына паглядзела спачатку на яго, затым на знаёмыя вясковыя мясціны і пацiснула плячыма:

— І дзе ты бачыш прыгажосць?

Каля пагорка бруіла невялікая рачулка з чыстай, крынічнай вадой, што пераліва́лася, шчабятала на камянёчках, як малое дзіця. Непадалёк, дзесьці ў засені альховых і лазовых кустоў, цялёхкаў расчулены сонцам салавей. Лісты на блізкіх дрэўцах ласкава перашэптваліся пры подыхах цёплага ветру. Далей, за рэчкай, свяцілася вокнамі другая палова вёскі. Вуліца яе была калісьці абсаджана вербамі, якія цяпер сталі высокімі і цяністымі. Каля кожнай з хат кучараваліся дрэвы сціплых садкоў. Збоку ад хат зеляніла поле ўсходамі маладога жыта. За полем гусцеў гонкі беразняк, сярод якога дзе-нідзе цямнелі шапкі рыжых соснаў. Удалечыні стромкае неба амаль усюды зліваласся з цёмнай, няроўнай палоскай лесу. Стваралася ўражанне, што вёска і поле вакол яе нагадваюць невялікі востраў у шырокім зялёна-блакітным акіяне.

— Як тут прыгожа... А якое смачнае ранішняе паветра... Як сырадой, як халодны хлебны квас у гарачыню... П'еш і не нап'ешся.

— І што ты знайшоў тут прыгожага, каб так захапляцца. Кусты, рэчка, поле, дрэвы. Усё самае звычайнае, усё, як усюды.

— Я і сам не ведаю, чаго ж тут больш: ці таго, што знайшоў, ці таго, што згубіў... Але як тут прыгожа!



Калі яшчэ такое было ў Мінску: інтэлігенты сталага веку, маладыя людзі з добрымі манерамі і натхнёнымі тварамі ледзь не штурмавалі будынак музея!.. Ніхто з прысутных на вернісажы так і не ўспомніў, калі ж яшчэ адкрыццё выстаўкі айчынных мастакоў выклікала падобны ажыятаж. Дый мала таго, што выстаўка "Васіль Сумараў. Настаўнік і вучні" пачалася з аншлагу. Месяц, вызначаны для яе паказу ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, не здаволіў цікавасць публікі, таму, прыслухаўшыся да шматлікіх просьбаў, арганізатары прадоўжылі экспазіцыю да канца лютага. І ў цэнтральнай галерэі, дзе прадстаўлена творчасць трох пакаленняў Сумаравых, а таксама работы яго колішніх студыйцаў, штодня людна...

# Сумаравы



**Гэта не толькі прозвішча вядомай творчай дынастыі. Сумаравы — гэта яшчэ і шматлікія вучні Майстра, пра якіх, ужо і пяцідзесяцігадовых, ён кажа: «Мае дзеці».**

Пару гадоў таму, калі вучні Васіля Фёдаравіча віншавалі яго з чарговым юбілеем і зайшла гаворка пра персанальную выстаўку, хтосьці прапанаваў: "А давайце выставімся разам!" Вось такая кароткая перадгісторыя творчага праекта, што стаўся адной з найбольш гучных падзей у жыцці нашага мастацкага музея. Выстаўка атрымалася эфектная. А яе шматстайны багаты змест вымагае няспешнай увагі. Крок за крокам, "накручваючы кругі", можна па некалькі разоў (а гэта значыць — па некалькі гадзін!) шпацыраваць па галерэі, дзе няма выпадковых імён, "прахадных" работ, дзе за кожным творам — эпізод бясконцага вялікага жыцця, старонка гісторыі, унутраны свет нешараговай асобы.

Якія адрозныя між сабой майстры, яркія індывідуальнасці выйшлі са студыі Васіля Сумарава; які шматаблічны, рухавы, напоўнены маладым няўрымслівым духам, жывапіс іх Настаўніка! Сярод яго новых работ, прадстаўленых у экспазіцыі, — маляўнічыя жанравыя кампазіцыі 2008 — 2009 гадоў з цыкла "Горад майго дзяцінства"; лаканічныя выразныя партрэты ("Чаканне", "Каця", "Пятровіч"); пяшчотныя і стыльныя нацюрморты, адухоўленыя інтэр'еры і пейзажы ("Майскі дзень", "Блакітная веранда", "Памяць", "Майстэрня", "Зацішша"). Побач і сумараўская класіка: "Хімічны завод", "Ноч, калі расцвіў кактус", "Сказ пра Навагрудак", "Зімовыя радасці", "Свята на трактарным пасёлку"...

Яскравай успышкай памяці дзяцінства — "Мой дом", таксама класіка і творчая візітоўка мастака. Знаёмы многім, знакавы для свайго часу будынак першага пасляваеннага дзесяцігоддзя, узведзены для мінскіх чыгуначнікаў на Ляхаўцы, непадалёк ад рэйкавай дарогі, — гэткі бясхмарны ідылічны свет, населены сябрамі і суседзямі. Родны дом, родны двор — нібы каляровы сон, у якім В.Сумараў бачыць збоку і сябе, колішняга хлапчука 1950-х, і сваіх бацькоў. Сон паўтараецца... Калісьці "Мой дом" зрабіў фурор на выстаўцы ў Маскве, фотарэпрадукцыі карціны былі растыражаваныя ў літаратурна-мастацкіх часопісах, у спецыяльных выданнях, а сама яна трапіла ў Ташкент, і мастак намаляваў новы варыянт, які заняў месца ў пастаяннай экспазіцыі НММ Беларусі. Трэці варыянт "недаступнага сну" В. Сумарава знаходзіцца ў Магілёве. Для сёлетняй сталічнай выстаўкі намаляваны чацвёрты варыянт, прычым палатно майстар змясціў у адмысловую раму: папрацаваўшы над ёй як разьбяр, аздобіў і зрабіў па баках гарэльефы бацькоў...

Тыя, каго Васіль Фёдаравіч называе "мае дзеці", не маюць патрэбу ў доўгіх рэкамендацыях. Дастаткова назваць імёны: пясняр "ціхай Беларусі" Ігар Бархаткоў, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Беларусі за 2009 год; старшыня Беларускага саюза дызайнераў Дзмітрый Сурскі; стваральніца тэатралізаванага дэкаратыўнага свету, чараўніца дасціпнай аўтарскай лялькі Ганна Балаш; натхнёны краявідамі радзімы Я. Наркевіча-Ёдкі жывапісец Раман Заслонаў, які працуе ў прадмесці Парыжа; неразлучны з эцюднікам геолаг Ян Шастоўскі; Дзмітрый Эпштэйн, які займаецца анімацыяй на студыі Уолта Дыснея. А яшчэ — Аляксандр Дзямідаў, Марыта Голубева, Віктар Лагоўскі, Марта Шматава, Аляксандр Маркаўцоў, Тодар Кашкурэвіч, Вадзім Аладаў, Ігар Леантовіч, Андрэй Задорын... Усе яны калісьці наведвалі дзіцячую народную студыю выяўленчага мастацтва пры сталічным Палацы культуры тэкстыльшчыкаў, якую арганізаваў Васіль Фёдаравіч і якой кіраваў роўна чвэрць стагоддзя.

"Кажуць, чалавеку ў жыцці можа пашанцаваць не — у трох акалічнасцях: ад каго нарадзіцца, у каго вучыцца і з кім ажаніцца. Ва ўсіх трох выпадках мне пашанцавала. Але я асабліва шчаслівы, бо мне пашанцавала і чацвёрты раз: у мяне — геніяльныя вучні..." — прызнаўся гасцям вернісажа Майстар Васіль Сумараў.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат прэміі Беларускага дзіцячага фонду "Сябра дзяцей" Васіль Сумараў ля новага, чацвёртага варыянта карціны "Мой дом"; Ігар Леантовіч "Супрацьстаянне"; Раман Заслонаў "Мара архітэктара"; Ігар Бархаткоў "Дом Алеся. Апошні снег"; Тодар Кашкурэвіч "Стоўпнікі".

Фота Кастуся Дробава і аўтара









# Імя Алоўнікава — школе

Дзякуючы ініцыятыве Беларускага саюза музычных дзеячаў і Беларускага саюза кампазітараў, рашэннем Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта ад 28 лістапада 2009 года сталічнай дзіцячай музычнай школе № 11 нададзена імя народнага артыста Беларусі Уладзіміра Алоўнікава.



ДМШ № 11 з'яўляецца адной з вядучых школ краіны. Больш як 100 яе навучэнцаў сталі лаўрэатамі міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў, многія маюць званне дыпламанта спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Сёлета, напярэдадні 91-й гадавіны з дня нараджэння У. Алоўнікава, у школе адбыўся канцэрт, прысвечаны памяці гэтага выдатнага беларускага кампазітара і педагога. У канцэрце ўдзельнічалі навучэнцы, выкладчыкі школы, студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, народны артыст Беларусі, прафесар, сын Уладзіміра Уладзіміравіча — Ігар Алоўнікаў, які з'яўляецца і чальцом праўлення БСМД.

Праграма канцэрта прадставіла выключна творчасць У. Алоўнікава: фартэпіянныя творы, яго выдатныя "Лясную песню", "Песню пра Мінск". Дарэчы, у гэтай школе пастаянна папулярызуецца музыка У. Алоўнікава, аформлены цудоўны мемарыяльны стэнд, прысвечаны жыццю і творчасці кампазітара.

Метадычны савет ДМШ № 11 узяў на сябе абавязацельства падрыхтаваць да выдання поўны збор фартэпіянных твораў Уладзіміра Алоўнікава.

Наталля ВІТЧАНКА

На здымку: выступае сын кампазітара — народны артыст Беларусі прафесар Ігар Алоўнікаў.

Сёлета грамадскасць краіны адзначае 100-годдзе з дня нараджэння Генадзя Цітовіча — народнага артыста СССР, выдатнага фалькларыста-даследчыка, які ў 1952 г. стаў арганізатарам і першым мастацкім кіраўніком Дзяржаўнага народнага хору БССР, зрабіў яго вядучым мастацкім калектывам рэспублікі, слава якога імклівa разносілася па свеце. У 1975-м Генадзь Іванавіч перадаў хор у надзейныя таленавітыя рукі Міхася Дрынеўскага, які вось ужо 35 гадоў працягвае і ўмацоўвае традыцыі, закладзеныя “бацькам хору”. З выбарам свайго пераемніка Г. Цітовічу вельмі пашанцавала. Ён інтуітыўна адчуў, што развіваць і ўдасканальваць працэс узыходжання на народныя харавы Алімп і дасягнуць апагея па сілах будзе толькі таленавітаму хормайстру з акадэмічнай адукацыяй, які ведае, любіць і цэніць народныя традыцыі і родны фальклор. Мінуў час, і стогадовы юбілей Маэстра дае падставу паразважаць пра гэты цуд, які завецца сёння Нацыянальным акадэмічным народным хорам Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча.

# Захавальнікі песенных скарбаў



На чым жа грунтуецца поспех славутага калектыву? На любові да музыкі наогул, а да народнай асабліва, — любові, якая сталася запаветам Генадзя Іванавіча Цітовіча. Без яе немагчыма было б вырашыць задачу, якую ў той час паставіў перад сабой і калектывам малады кіраўнік Міхась Дрынеўскі: сінтэзаваць у адно цэлае самабытнасць народнай песні, захоўваючы яе непаўторнасць і адметнасць, і акадэмічную музычную культуру выканання, пераўтвараць здабыты з нетраў народнай памяці песенны алмаз у зіхоткі дыямент. У гэтай справе калектыў дасягнуў значных поспехаў, пра што сведчаць і афіцыйнае, і народнае прызнанне.

Канцэрты нашага Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору — заўсёды падзея, але ж, на жаль, не частая ў сталіцы. Таму восеньскае выступленне славутага калектыву ў Белдзяржфілармоніі запомнілася як яскравае свята. І на сцэне, і ў зале, як заўсёды, панаваў дух Цітовіча, увасоблены ў любові да народнага музычнага мастацтва.

Пачалася праграма вакальна-харэаграфічнай кампазіцыяй “Добры вечар добрым людзям” (музыка У. Гінько, словы народныя, пастаноўка Г. Гарыновіч). Гэтая вельмі складаная жанрава, своеасаблівая уверцюра канцэрта, настроіла гледачоў на святочны лад. Затым прагучала песня Л. Шурмана на вершы Н. Захарэвіч у апрацоўцы І. Абразевіча і П. Глушчука “Эх, бульба-бульбачка”. Старадаўняя салдацкая песня часоў паўстання Т. Касцюшкі ў апрацоўцы У. Грома “Ідуць жаўнеры-беларусы”, выкананая з элементамі тэатралізацыі, уразіла гістарычнай пераканальнасцю. Жартоўны мужчынскі танец “Таўкачы” ў суправаджэнні хору (з песняй “Ах, ты дуй...”), пастаўлены заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі В. Варановічам, аўдыторыя прыняла, што называецца, на “ўра”! Ён, як, дарэчы, і іншыя танцавальныя нумары, багаты на віртуозныя трукі з элементамі спартыўнай гімнастыкі, на яркія індывідуальныя фрагменты.

Першы акт вакальна-харэаграфічнай імпрэзы быў традыцыйны па форме, гэта значыць — без дырыжора на сцэне. Пасля антракта — выхад народнага артыста Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, лаўрэата прэміі “За духоўнае адраджэнне”, ганаровага акадэміка Міжнароднай кадравай акадэміі музыкі, прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Міхася Дрынеўскага. Слухачы ўспрымаюць майстэрства Міхася Паўлавіча як сімвал найвышэйшага прафесіяналізму, што выяўляецца ў выверанасці усіх дэталей выканальніцкай канцэпцыі. Яго з'яўленне перад хорам у якасці дырыжора дало свежы імпульс гучанню. Вобразная эстэтыка зрабілася больш выразнай, яркай і дакладнай; узбагацілася інтанацыйная і тэмбравая палітра, адчулася асаблівая пластычнасць і тонкасць фразіроўкі, значна пашырыўся дыяпазон дынамічных кантрастаў. Усё гэта выявілася ў фальклорных творах: “У калодзезі ў халодненькім” — беларускай народнай песні-баладзе ў апрацоўцы В. Малых; “Ничто в полюшке не колышется” — рускай народнай песні ў апрацоўцы М. Дрынеўскага; “Не сходило в ранці сонечко” — украінскай народнай песні ў апрацоўцы І. Бідака; “У ноч на Купала” — беларускай народнай песні ў апрацоўцы У. Грома.

Асаблівую ўвагу звернем на выкананне беларускай народнай песні ў апрацоўцы М. Дрынеўскага “Як пайду я дарогаю” і “Молитвы” Б. Акуджавы ў апрацоўцы В. Шыкаўца. Першы з твораў выканала заслужаная артыстка Беларусі Валянціна Крыловіч — майстар экстра-класа ў народнай песні. Слухачы ўжо шмат гадоў лічаць яе “дэ факта” народнай артысткай Беларусі. “Молитву” спявала Рэната Мацвеенка, уладальніца чароўнага голасу, якая так глыбока адчула змест малітвы, так пераканаўча і шчыра перадала яе сэнс, што слухачы ўзнагародзілі салістку шчодрымі авацыямі.

Другое аддзяленне канцэрта традыцыйна кампануецца такім чынам, каб увага слухачоў не толькі ўтрымлівалася, але і “падагравалася”. Таму новыя опусы чаргаваліся з тымі, што гучалі ў ранейшых праграмах. Аднак знаёмыя песні і вакальна-харэаграфічныя кампазіцыі выканаўцы штораз падаюць слухачу нібы ў новай “агранцы”. Таму вядомыя нумары ўспрымаюцца больш яскрава і не з меншай цікавасцю, чым новыя творы. “Край мой любы, дарагі”, словы і музыка М. Галаўнёва (салістка Кацярына Булатоўская); “Ай, пад дубам, дубам” — беларуская народная песня ў апрацоўцы М. Дрынеўскага; “Ой, лета...” у апрацоўцы У. Грома: песня В. Малых на словы А. Шкуратава “Ефрасіння”; “Это забыть нельзя” У. Будніка на словы М. Ясеня, апрацоўка М. Дрынеўскага; “І ў вас, і ў нас...” І. Гваздзіка на словы У. Карызны, апрацоўка В. Шыкаўца, а таксама “Вянок беларускіх жніўных песень” прагучалі на высокім прафесійным узроўні. Яны хвалявалі і радавалі слухачоў.

Нельга абмінуць трактоўку рускай народная песні “Шумел камыш”, выканання якой заўсёды патрабуюць слухачы. Незаслужана прыніжаная, аднесеная да рангу спеваў у п'яным застоллі, яна ў выкананні хору паўстала вялікай народнай песняй пра людзей, каханне і яшчэ нешта, для кожнага сваё і дарагое.

Аддаючы належнае карыфеям народнага харавога мастацтва Г. Цітовічу і М. Дрынеўскаму, не варта памяншаць ролю іншых дзеячаў Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь, такіх, як галоўны хормайстар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі І. Абразевіч; хормайстар, лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі В. Шыкавец; музычны кіраўнік П. Глушчук; балетмайстар, заслужаны артыст Беларусі Ю. Паўлішын. Гэта сапраўдныя прафесіяналы і энтузіясты сваёй справы.

Песню немагчыма пераказаць. Песню трэба слухаць. Пра песню можа расказаць толькі сама песня і толькі тады, калі яе спяваюць. Таму, калі глядзець па-дзяржаўнаму, з клопатам пра сённяшні і заўтрашні дзень нашай гісторыі, нашай культуры, з думкай пра тое, каб паказаць сёння і захаваць для нашчадкаў тое лепшае і унікальнае, што маем, дык увесь гэты канцэрт трэба было б запісваць на самай сучаснай апаратуры і адначасова весці жывую трансляцыю з залы філармоніі, як гэта, хоць і рэдка, але рабілася ў ранейшыя часы. А пасля — як нацыянальныя псіхалагічныя лекі — штодня даваць па Беларускім радыё хоць адну песню. Бо гэты творчы калектыў — сінтэз высокага народнага і акадэмічнага харавога мастацтва — здольны рабіць вялікае ўздзеянне на розум і сэрца чалавека, асабліва моладзі. І ўскладзеная на яго яшчэ Г. Цітовічам патрыятычная місія — захоўваць песенныя скарбы роднай зямлі — з годнасцю выконваецца.

Міхась СОЛАПАЎ,
заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі,
Анатоль КУДРАВЕЦ,
пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа

Фота Уладзіміра Вітчанкі

# Знаёмцеся: «Жывіца»!

Клуб кампазітараў і паэтаў “Жывіца” створаны на базе Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці ў 2002 годзе, а ў 2006 г. яму нададзена ганаровае званне “народны”. Сёння ў “Жывіцы” больш як 130 удзельнікаў — людзей розных прафесій і ўзростаў. Аб'яднанне мае свой статут, пашпарт і песню-гімн, аўтарамі якой з'яўляюцца Лілія Мялешка (Клецкі раён) і Алег Пяткун (Дзяржынскі раён).



Работа клуба арганізуецца па дзвюх секцыях — паэтычнай і музычнай, перыядычна праводзяцца і сумесныя пасяджэнні. Супрацоўніцтва самадзейных паэтаў і кампазітараў розных рэгіёнаў становіча ўплывае на развіццё творчай індывідуальнасці кожнага аўтара. Акрамя таго, яны маюць магчымасць атрымаць кваліфікаваную дапамогу прафесійных майстроў — членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага саюза кампазітараў Галіны Каржанеўскай, Аліны Легастаевай, Васіля Жуковіча і Алены Атрашкевіч. Дзякуючы гэтаму супрацоўніцтву і плённай працы саміх аўтараў, члены клуба Дзмітрый Вінаградаў, Зоя Калкоўская і Галіна Нічыпаровіч (Уздзенскі раён), Лёля Багдановіч (Барысаўскі раён), Вольга Сакалова (Мінскі раён) сёння ўваходзяць у склад Саюза пісьменнікаў Беларусі, а народны калектыў аўтарскай песні “Элегія” (кіраўнік Таццяна Захарыч) з Вілейскага раёна і аўтар гэтых радкоў з'яўляюцца членамі Беларускага саюза музычных дзеячаў.

Творчых людзей, якіх аб'ядноўвае “Жывіца”, часта запрашаюць на значныя мерапрыемствы: вершы і песні самадзейных аўтараў гучалі на сцэнічных пляцоўках Рэспубліканскага фестывалю-кірмашу “Дажынкі-2005” у Слуцку, Рэспубліканскага свята паэзіі, прысвечанага 125-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа ў Стаўбцоўскім раёне (2007), Дня беларускага пісьменства ў горадзе Барысаве (2008), на абласным фестывалі гумару “Я — пякучка Крапіва” ў вёсцы Нізок Уздзенскага раёна (2006), на святе паэзіі “Ракуцёўскае лета” (Маладзечанскі раён, 2008). З канцэртнымі праграмамі “Жывіца” пабывала ў Заслаўі, у Смалявіцкім, Уздзенскім, Стаўбцоўскім, Мінскім, Нясвіжскім, Клецкім, Пухавіцкім, Вілейскім, Валожынскім раёнах.

А яшчэ за час існавання клуба выдадзена некалькі паэтычных і песенных зборнікаў і песенны дыск “Ляці і вяртайся” (2008). Асобныя творы перыядычна друкуюцца ў рэспубліканскіх, абласных і раённых газетах, гучаць па СТБ і на Беларускім радыё.

Праграмы пасяджэнняў клуба, якія праходзяць раз на месяц, разнастайныя тут і сустрэчы з прафесійнымі кампазітарамі і паэтамі або з самадзейнымі аўтарамі іншых грамадскіх аб'яднанняў; і знаёмствы з літаратурна-паэтычнымі, аўтарскімі клубамі, аб'яднаннямі раёнаў: і творчыя лабараторыі, семінары-практыкумы; і выязныя сходы на базе раённых літаратурных аб'яднанняў Міншчыны; і справаздачныя канцэрты ды прэзентацыі выдадзеных зборнікаў ці дыскаў членаў клуба.

21 лютага а 10-й гадзіне ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна будзе чарговая сустрэча. Калі ласка, прыходзьце: вас чакаюць цудоўныя хвіліны стасункаў з мастацтвам!

Ірына КАРНАУХАВА,
кіраўнік народнага клуба кампазітараў і паэтаў “Жывіца”, член Беларускага саюза музычных дзеячаў

На здымку: члены клуба «Жывіца» і яго сябры пасля прэзентацыі зборніка «Срэбны блюз» у снежні 2009 г.

## Нашы юбіляры



Сяргей Альбертавіч КАРТЭС — народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.



Радаслава Мікалаеўна АЛАДАВА — прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, кандыдат мастацтвазнаўства.



Васіль Васільевіч ВАРАНОВІЧ — заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь.



Уладзімір Сцяпанавіч ПАРХОМЕНКА — дырэктар Гомельскага дзяржаўнага абласнога дома тэхнічнай і мастацкай творчасці, выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь.



Вальтэр Грайравіч МНАЦАКАНАЎ — дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, намеснік старшыні Асацыяцыі оперна-сімфанічных дырыжораў Беларускага саюза музычных дзеячаў.

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.
Тэлефоны: (017) 222-37-33 — працоўны; (029) 507-55-05 — МТС; (029) 699-32-00 — Velcom.

Штогод у Мінскай вобласці дзеля развіцця інтэлектуальнага і творчага патэнцыялу моладзі ладзіцца навукова-практычная канферэнцыя вучняў, арганізатарам якой выступаюць упраўленне адукацыі Мінаблвыканкама і Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі (МАІРА). Сёлета на разгляд аўтарытэтнага журы было даслана 439 работ, з іх 96 — філалагічнай тэматыкі. З дакладамі на секцыях "Беларуская мова і літаратура", "Руская мова і літаратура" выступілі па 16 вучняў. Адной з найлепшых работ стала даследаванне вучня 11 класа Мінскага дзяржаўнага абласнога ліцэя Дзмітрыя Грыба, выкананае пад кіраўніцтвам намесніка дырэктара ліцэя Валянціны Скібы.

Дзмітрый з'яўляецца членам ліцэйскага навуковага таварыства "Праметэй", адзначанага грантам Прэзідэнцкага фонду па падтрымцы адоранай моладзі і студэнтаў, захапляецца не толькі кампаратывістыкай, але і вывучэннем моў – англійскай, італьянскай, польскай. Лагічным працягам даследчыцкай працы стаў пераклад адной з частак рамана Курта Ванегута "Сірэны Тытана" на беларускую мову. Зусім нядаўна ліцэіст стаў пераможцам рэспубліканскага конкурсу чытальнікаў паэзіі імя Адама Міцкевіча і будзе прадстаўляць Беларусь на Міжнародным конкурсе, які штогод праходзіць у Беластоку.

Інга Пінголь,
начальнік вучэбна-метадычнага аддзела рускай і беларускай моў і літаратуры МАІРА

# «Ніколі не паразумеецца ген… з мікрасхемай»

Больш за дзвесце гадоў таму І. В. Гётэ сказаў, што надышла эпоха "сусветнай" літаратуры. Сапраўды, на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва адбываліся працэсы ўзаемаўзбагачэння нацыянальных культур. Менавіта таму сучасны навуковы досвед вельмі часта звяртаецца да кампаратывістыкі ў пошуку рознага кшталту сыходжанняў у літаратурах розных народаў. Вывучэнне беларускай літаратуры ў параўнальна-супастаўляльным плане сусветнага кантэксту таксама з'яўляецца актуальным.

Цікавасць да фантастычнага рамана як да жанравай разнавіднасці мастацкага ўвасаблення філасофскай думкі падштурхнула мяне да знаёмства з творам Курта Ванегута "Сірэны Тытана", а потым і беларуская літаратура разгарнула таямніцы "Чалавека з брыльянтавым сэрцам" Леаніда Дайнекі. Абодва раманы прыцягваюць арыгінальнасцю аўтарскай канцэпцыі, маштабнай філасофскай разважлівасцю, глыбінёй мастацкага пошуку.

Само паняцце фантастычнага рамана мае на ўвазе часцей за ўсё мастацкую рэалізацыю тэмы будучыні. Як К. Ванегут, так і Л. Дайнека паказваюць у сваіх творах будучыню, час якой невызначальны, але чалавек у гэтай, створанай пісьменнікамі, будучыні ўжо асвоіў касмічную прастору, навучыўся пераўвасабляцца.

У абодвух раманах прысутнічае тэма кахання як неад'емная частка чалавечай душы, без якой, на думку пісьменнікаў, жыццё становіцца проста фізічным існаваннем. Так, Л. Дайнека змадэляваў адносіны паміж Ёй і Ім у будучыні: "Вялікая Эра Плюралізму зрабіла адносіны паміж мужчынам і жанчынай больш гнуткімі, больш рухомымі і нестандартнымі. Той, хто хацеў, меў адну жонку і, адпаведна, аднаго мужа. Такіх сем'яў (прынамсі, у Індаеўрапейскай Канфедэрацыі) была большасць. Але меліся і так званыя пашыраныя сем'і, дзе разам, у шчасці і ў поўнай згодзе, жылі тры мужчыны і тры жанчыны. Мужы і жонкі ў пашыраных сем'ях звярталіся адно да аднаго са словамі: "Каханая", "Каханы". Гай Дубровіч і Бярозка Дубровіч былі адналюбамі, вось чаму Бярозка сказала, пяшчотна і мілагучна: "Адзіны".

К. Ванегут пазбягае канкрэтыкі ў абмалёўцы стасункаў паміж мужчынам і жанчынай. Паміж героямі рамана каханне адсутнічае ўвогуле: яму нібыта бракуе месца ў гэтым складаным свеце, дзе ёсць бізнес, грошы, рэлігія, палітыка і г. д. Разам з тым, напрыканцы рамана галоўны герой Малачы Констант прыходзіць да думкі аб вызначальнай ролі кахання ў жыцці чалавека.

Таксама агульнай для абодвух твораў з'яўляецца тэма вайны, якая звычайна рэалізуецца праз паказ схематычнага, шаблоннага патрыятызму і геразму альбо выяўляецца бязлітасная сіла, што выступае своеасаблівым "каталізатарам эмоцый", выпрабаваннем на вернасць і адказнасць. К. Ванегут падае вайну паміж Зямлёй і Марсам у іранічным і нават парадыйным ключы; Л. Дайнека таксама выкарыстоўвае амаль фарсавыя сродкі. Праз іранічнае стаўленне да вайны пісьменнікі падкрэсліваюць яе бессэнсоўнасць.

У сучасным літаратуразнаўстве вылучаюць яшчэ адну ўласцівую фантастычнай літаратуры тэму — тэму абагаўлення тэхнікі (тэхнагеннага ўплыву на чалавека, механізацыі грамадства). У творах абодвух пісьменнікаў азначаная тэма з'яўляецца адной з дамінантных. Як Л. Дайнека, так і К. Ванегут падаюць яе праз матыў антысцыентызму, сцвярджаючы тым самым глыбока гуманістычнае імкненне да перамогі культуры над натурай, духоўнага над матэрыяльным, чалавека над машынай. У рамане Л. Дайнекі ёсць такія радкі: "Маўклівая жалезнаскурая раць адразу акружала кожнага чалавека, які завітваў сюды. Робаты былі сама абаяльнасць і добразычлівасць, прадбачвалі любое жаданне сваіх гасцей, але вочы ў іх свяціліся бясстраснасцю і механічным спакоем, і недалёка ад ісціны прайшоў той мудрэц, які сказаў, што ніколі не паразумеецца жывое са штучным, ген з найдасканалейшай мікрасхемай…"

І ў творы Л. Дайнекі, і ў творы К. Ванегута звяртае на сябе ўвагу матыў гістарычнай памяці. У рамане "Чалавек з брыльянтавым сэрцам" выразна праяўляецца гістарызм мыслення аўтара: "У Тоўстым Лесе, дзе паселіцца наш Аюс, ёсць, кажуць людзі, Зялёная Постаць. Яна знаходзіцца ў дрыгве, не падступіцца. Робаты, воўкасабакі і балоты навечна перакрылі шлях да яе. Кажуць людзі, што той, хто хоць аднойчы б убачыў Зялёную Постаць, пачуў яе голас-звон, вярнуў бы ўсім нам памяць. Не кніжную, не кіношную і тэлевізійную, а памяць крыві, памяць душы, памяць пакаленняў. Так не хапае нам сёння гэтай жывой памяці". У сваю чаргу, на думку К. Ванегута, самым вялікім жахам для чалавека з'яўляецца страта памяці.

Звернем таксама ўвагу на мастацкія вобразы-сімвалы, кожны з якіх адсылае чытача да пэўнага "архетыпу". Найбольш рэльефна ў творах паўстае "архетып" космасу. Яшчэ з першабытных часоў космас вабіў людзей сваёй таямнічасцю і недасягальнасцю. Л. Дайнека і К. Ванегут спрабавалі ў сваіх творах пераасэнсаваць гэты архетып і выказалі думку пра пэўную другаснасць космасу ў жыцці чалавека. У абодвух раманах, у адрозненне ад міфаў, космас мёртвы: "Чалавецтва таксама выпускала наверх сваіх пасланцоў прагрэсу. Урэшце яны апынуліся ў космасе, у вонкавым моры без густу, колеру і вагі. Гэтыя няшчасныя людзі знайшлі тое, чаго ўжо з лішкам хапала на Зямлі — бясконцую бессэнсоўнасць. Космас даў ім тры падарункі: пусты паказны геразм, танны гумар і недарэчную смерць" ("Сірэны Тытана").

Цесна звязаны з "архетыпам" космасу "архетып" Вышэйшага Розуму, іншых форм жыцця. У Л. Дайнекі плазмоіды (Старая Цывілізацыя, талеркі) выступаюць паралельнай чалавецтву небялковай формай жыцця. Плазмоіды даволі міралюбівыя, акрамя двух варожых кланаў, захапляюцца чалавекам, стараюцца яго спасцігнуць. Але плазмоіды — "цывілізацыя капіістаў, капіравальшчыкаў". Маючы бясконцы запас плазмы, яны могуць ствараць усё, што заўгодна — але скапіраваўшы гэта ў чалавека. Так чалавек пры ўсіх сваіх відавочных (у параўнанні з плазмоідамі) заганах сцвярджаецца як адзіная ў свеце істота са здольнасцю да творчага мыслення.

К. Ванегут згодна з тыпова амерыканскай канцэпцыяй малога месца чалавека ў свеце сцвярджае "малую функцыю" чалавецтва ўвогуле. Мэтай усёй чалавечай гісторыі ў рамане "Сірэны Тытана" з'яўляецца дастаўка на Тытан маленькай дэталі для касмічнага карабля насельніка




планеты Тральфамадар, які нясе пасланне іншай цывілізацыі, што знаходзіцца на адлегласці ў за два светлавых мільёны год ад Тытана. Пасланне складаецца з адной кропкі, якая на мове планеты Тральфамадар азначае "Прывітанне". Здавалася б, навідавоку поўнае падпарадкаванне чалавецтва волі іншай цывілізацыі. Але ў кнізе героіні рамана Беатрысы Румфард "Сапраўдны сэнс жыцця ў Сонечнай сістэме" ёсць такія словы: "Я б ні за што не стала адмаўляць той факт, што сілы Тральфамадара ў той ці іншай ступені паўплывалі на зямныя справы. Аднак асобы, якія служылі інтарэсам гэтай планеты, служылі так персаніфікавана, што Тральфамадар практычна не мае дачынення да гэтай справы".

К. Ванегут прапануе ў "Сірэнах Тытана" нелінейны сюжэт з вялікай колькасцю пазасюжэтных элементаў (пераважна — аўтарскіх рэмарак), характэрных для ўсёй творчасці пісьменніка. Сюжэт не вылучаецца разнастайнасцю ходаў, разгортвае лінію галоўнага героя Малачы Канстанта. Сюжэт твора Л. Дайнекі можна азначыць як лінейна-паралельны, які таксама "аздабляецца" пазасюжэтнымі элементамі. У рамане вылучаюцца дзве сюжэтныя лініі: асноўная — Гая Дубровіча і дадатковая — Радаслава Буслейкі.

Для К. Ванегута характэрны агульная свядомая прымітывізацыя як формы, так і зместу твораў, адсутнасць відавочнага асабістага стаўлення (замест яго з'яўляецца ўсюдыісная іронія) да падзей, адсутнасць пейзажаў і ўвогуле лаканічнасць мастацкіх апісанняў. Усё гэта асацыятыўна суадносіцца з шэрасцю, "бясколернасцю". А вось стыль Л. Дайнекі вызначае "рознакаляровасць", трапныя пейзажныя замалёўкі, наяўнасць асабістага стаўлення да падзей.

Нават кароткі агляд тэматыкі, асноўных матываў і асобных мастацкіх сродкаў, уласцівых для твораў амерыканскага і беларускага пісьменнікаў, дазваляюць акрэсліць аўтарскую канцэпцыю. Можна пагадзіцца з В. Дзмітруком, які вызначае дамінанту творчасці К. Ванегута як "гуманізм, пацыфізм, антысцыентызм", адно дадаўшы да пераліку слова "асвета". Усе названыя рысы рэльефна выяўляюцца і ў творчасці Л. Дайнекі. Такім чынам, аўтарскія канцэпцыі Л. Дайнекі і К. Ванегута супадаюць. Прааналізаваныя раманы адносяцца да аднаго гістарычнага і літаратурнага перыяду — другой паловы ХХ стагоддзя; яны належаць да жанру фантастычнага рамана. Тыпалагічная блізкасць жыццёвых шляхоў абодвух пісьменнікаў вызначыла іх гуманістычны светапогляд, што ўвасабляецца ў творах праз рэалізацыю тэм кахання і вайны, а таксама матывы пацыфізму і антысцыентызму. Адзінае, што адрознівае аўтарскія канцэпцыі амерыканскага і беларускага пісьменнікаў, — канцэпцыя чалавека, якая ў К. Ванегута можа быць вызначаная праз паняцце "сацыяцэнтрызму", а ў Л. Дайнекі — праз паняцце "персанацэнтрызму".

Дзмітрый ГРЫБ

# Лес — як лёс

Толькі бярэш у рукі кнігу Васіля Шырко "Шумі, мой лес, шумі...", як адразу прыгадваеш знакаміты раман Леаніда Лявонава "Рускі лес" і гэтаксама добра вядомы твор згаданага жанру, напісаны знакамітым беларускім празаікам Віктарам Карамазавым "Пушча". Успамінаеш, што ў гэтых раманах створаныя ўражвальныя, жывапісныя, надзвя запамінальныя малюнкі прыроды. Таму так і хочацца даведацца, а чым жа парадуе ў гэтым сэнсе Васіль Аляксандравіч, бо ўжо неадночы мог упэўніцца, наколькі тонка адчувае ён слова, як дасканала валодае ім, якім пранікнёным лірыкам (дакладней сказаць — паэтам у прозе) паўстае, калі піша пра тую запаведную нерушавасць, што захавалася ў лясах і пушчах, дубровах і пералесках, нягледзячы на гаспадаранне, нярэдка непрадуманае належным чынам.

Самыя лепшыя спадзяванні апраўдваюцца: В. Шырко і гэтым разам піша так, што нельга не радавацца ягонаму ўменню не проста пісаць, а як бы жывапісаць, калі гэта тычыцца таго, чым жыве лес, усцешваючы чалавека, неабыякавага да прыгажосці. Але ў гэтай кнізе, паколькі яна прысвечана цытую анатацыю — "пошукам, знаходкам, працалюбству лесаводаў Крупскага ваеннага лягаса", ёсць іншае, без чаго ў дадзеным выпадку не абысціся: расповед пра лес ператвараецца ў гісторыю пра людзей лесу, а праз іхнія лёсы пісьменнік удала прасочвае тэндэнцыі развіцця лясной галіны, гаворачы пра яе набыткі, але разам з тым не абыходзячы і праблемы. За імі, праблемамі гэтымі, не проста само жыццё, а па сутнасці і будучыня нашай краіны, таму што лес — гэта не толькі лёгкія планеты, як мы любім часта паўтараць, лес, апроч усяго іншага, — яшчэ і гаспадарчая дзейнасць.

Як падчас жніва спелая ніва аддзячвае чалавеку важкімі ўмалотамі, гэтаксама "спелы" лес патрабуе таго, каб быць спіленым, а значыць — прынесці людзям карысць. Яна ж будзе большая, калі да ўсяго падыходзіць абдумана, разумна. Гэтыя няпісаныя законы даўно засвоіў напоўніцу галоўны герой кнігі дырэктар Крупскага лясгаса Мікалай Фурсевіч. Расказваючы пра яго, В. Шырко як бы гартае асобную кнігу, на якой прапісаўся лёс і самога Фурсевіча, дый блізкіх яму людзей, а таксама тых, хто атачае яго, знаходзіцца ў ягоным падначаленні.

Часам аўтару кнігі, а ў дадзеным выпадку нарыса "Лясная быль", дастаткова некалькіх штрыхоў-мазкоў, каб прыкмеціць у біяграфіі свайго героя штосьці істотнае, важнае. З гэтых жа штрыхоў пакрысе вымалёўваецца паўнавартасны партрэт дырэктара лясгаса, які, сам адданы любімай справе, хоча таго, каб і іншыя гэтаксама ставіліся да лесу.

Васіль Шырко не ідэалізуе свайго персанажа, не ператварае яго ў нейкі эталон-матрыцу, чым у савецкія гады грашылі многія пісьменнікі, ствараючы так званага станоўчага героя. Фурсевіч у В. Шырко — гэткі ж, як і ў паўсядзённым жыцці. Ён можа ў чымсьці сумнявацца, нават вагацца, але ён ніколі не здраджвае галоўнаму, не адыходзіць ад яго. Галоўнае ж для яго — лес і людзі.

Зразумела, аповедам толькі пра Фурсевіча гаворка пра Крупскі лясгас, які складаецца з чатырох лясніцтваў, што размясціліся на тэрыторыі Крупскага, Пухавіцкага, Лепельскага і Асіповіцкага лясгаса, не абмяжоўваецца. У полі зроку аўтара кнігі "Шумі мой лес, шумі..." патрапілі і некаторыя з тых, хто працуе поруч з Мікалаем Вітальевічам, аддаўшы лесу не адзін дзесятак гадоў.

"Лес — яго другі дом"— гэтая назва аднаго з нарысаў гаворыць сама за сябе, таму што лёс ягонага героя, былога галоўнага ляснічага І. Ількевіча ў чымсьці падобны да жыццяпісу і іншых ветэранаў. З адной хіба розніцай: рэдка каму выпала на долю гэтулькі выпрабаванняў, колькі зведаў іх Ігар Уладзіміравіч. Ды не зламаўся, выстаяў, таму што заўсёды меў перад сабой пуцяводную зорку — імкненне да таго, каб задуманае абавязкова збывалася.

У героя нарыса "Не адрывацца ад сваіх каранёў" Юрыя Варламава — іншы лёс. Шчаслівы, бо рэдка хто можа пахваліцца тым, каб у 22 гады стаць ляснічым, а ў 25 — галоўным ляснічым такога вялікага лясгасу. Пра тое, як самасцвярджаўся гэты чалавек, як спасцігаў ён адну з галоўных у сваім жыцці, дый у жыцці тых, з кім працуе, навуку — навуку лесазнаўства, В. Шырко расказвае так, што часам ловіш сябе на думцы: магчыма, з цягам часу пісьменнік вернецца да сваіх герояў, каб пра іх напісаць ужо не дакументальна-мастацкую кнігу, а мастацкую аповесць.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# Кроплі і хвалі — дзеці акіяна



Студзенькі нумар "Полымя" яшчэ нясе на сваім тытульным аркушы імя намесніка галоўнага рэдактара – светлай памяці Уладзіміра Марука…

Часопіс распачынае публікацыю рамана А. Брытуна "Пах мускусу". Твор атрымаўся неадназначны. З аднаго боку, гэта праца непрафесійнага пісьменніка ці, інакш кажучы, чалавека, які не займаўся прозай на працягу доўгага часу. Калі я не памыляюся, А. Брытун дэбютуе раманам. Рызыкоўна. Тым не менш, у творы вельмі шмат каштоўнай факталогіі, адразу бачыш, што аўтар не адзін дзень рыхтаваўся да напісання. Відаць і грунтоўная начытанасць у гістарычных працах, прысвечаных пушчы, і свой уласны досвед назіральніка. Разам з тым, уласна празаічны стыль, "раманнае мысленне" пакуль што пакідае спадзевы на лепшае. З гэтага рамана можна было б "вылушчыць" некалькі вельмі прыстойных паляўнічых апавяданняў. Такое адчуванне, што аўтар вырашыў скласці ў адно ўсё, што ў яго ёсць з нарыхтаванага, але агульным "стрыжнем" не аб'яднаў. Падобным стрыжнем, напрыклад, у рамане В. Карамазава была пушча, лес, першародная прырода; яна была субстратам твора, на якім нарошчваўся сюжэт. У творы А. Брытуна такога аб'яднальнага стрыжня, паўторым, няма.

Апавяданні Т. Гарэлікавай "Журліва глядзелі вокны" і "Было сумна-сумна" з'яўляюцца бытавымі замалёўкамі з прэтэнзіяй на псіхалагізм, але толькі з прэтэнзіяй.

Лірычная частка нумара — вершы М. Мятліцкага (адзначым вершы-прысвячэнні), вянок санетаў Соф'і Шах "Сэнс", нізкі твораў А. Зэкава (найлепшыя вершы — пра вёску, малую радзіму паэта) і Д. Дарошка (зусім слабая падборка).

Пераклад апавяданняў Г. Сянкевіча "Дазорца маяка" і К. Чапека "Паэт" здзейсніў М. Кенька. Што да другога твора, то ён ужо даволі вядомы аўдыторыі па рускім перакладзе, а вось выдатны твор Сянкевіча дагэтуль, на жаль, заставаўся ў ценю. На жаль, бо гаворка ідзе ў апавяданні, між іншым, і пра "Пана Тадэвуша". А гэта для беларусаў твор асаблівы.

Н. Заяц аналізуе кнігу прозы, эцюдаў і нарысаў В. Зуёнка "Паміж небам і зямлёй" у артыкуле "Яму адгукаецца слова". Аўтар разглядае жанрава-тэматычную разнастайнасць кнігі вядомага паэта і публіцыста. Яшчэ з крытычных матэрыялаў нумара — нарыс А. Марціновіча "Зямное і вечнае" — разгорнуты творчы партрэт В. Гардзея.

Рубрыка "Постаці" прапаноўвае эсэ К. Камейшы "Вярнуцца ў Плёсы…", прысвечанае 90-гадоваму юбілею М. Аўрамчыка. К. Камейша прыгадвае першае знаёмства са старэйшынам беларускай паэзіі, дзеліцца думкамі наконт творчасці юбіляра. Таксама ў рубрыцы — нарыс Ю. Сохара "Тэатр — для фанатыкаў…" пра шырокапрызнанага акцёра Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, народнага артыста Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Аўгусціна Мілаванава.

К. Лецка ў артыкуле "У святле біблейскіх вытокаў" разглядае цікавую праблему пошукаў рэлігійных крыніц рамантычнага светаўспрымання, але, на жаль, у ягоным даследаванні пераважае апісальны бок: г.зн. часта сваімі словамі пераказваецца змест біблейскіх кніг. Тым не менш, нягледзячы на пэўнае шматслоўе, работа вартая ўвагі чытача, бо грунтуецца на багатым фактычным матэрыяле і аналітычным асэнсаванні паэзіі рамантыкаў.

У публікацыі "Помнік сакральнай літаратуры" І. Саверчанка ў сваім перакладзе прапануе чытачу твор старадаўняй літаратуры "Хаджэнне" ігумена Данііла XII ст. Дзеля навуковай справядлівасці варта было б згадаць, што ўпершыню гэты помнік быў перакладзены на сучасную беларускую мову Аляксеем Мельнікавым. Дзіўным падаўся і выраз "Труна Гасподняя", бо ўсё-ткі Ісуса Хрыста хавалі не ў труне, калі верыць Евангеллям...

Раздзел "Навука" друкуе гутарку В. Алешкі з выбітным беларускім вучоным — акадэмікам І. Ліштванам. Суразмоўцы разважаюць пра сучасны стан экалогіі і аховы навакольнага асяроддзя, абмяркоўваюць праблемы далейшага развіцця энергетыкі і рэсурсазберагальных тэхналогій.

З кароткімі рэцэнзіямі на кнігі М. Чарняўскага "Сонечны кошык" і Т. Сівец "Таму, хто знойдзе…" выступаюць У. Скарынкін і Н. Сенатарава.

Завяршае нумар матэрыял на гістарычную тэматыку "Варыянт рэканструкцыі знешняга выгляду Свіслачы XII-XIII стагоддзяў" (аўтар Ю. Клеванец) і "Каляндар памятных дат".



Цікавай падалася перш за ўсё лірычная частка нумара: тут і падборка вершаў А. Кавалеўскага "Мы — раптам", і вершаваны пояс А. Спрынчан "Мой слуцкі ткач", і "Падарожжа" — нізка вершаў А. Нікіпорчык. Вершы тут някідкія, стрыманыя, са знакам якасці. А. Кавалеўскі, як і раней, аналізуе стасункі паміж мужчынам і жанчынай, гуляе ў словы і карані, гуляе ў пацеркі пачуццяў і абстрактныя параўнанні. А. Спрынчан, як і раней, выбудоўвае малекулярныя схемы вершаваных цыклаў, таленавіта звязваючы ў адно шматлікія падабенствы. З гэтых трох бадай толькі А. Нікіпорчык сумняваецца ў сваіх паэтычных здольнасцях, і, можа, таму ў яе пункцірных верлібрах трапляецца сапраўднае золата, ды тут ужо мае крытычныя думкі без патрэбы. Бо, як кажа сама паэтка, "як лёгка ўзносіць у вышыні тых / хто ўзнёсся сам".

Апавяданне К. Безмацерных "Як шпалеры" пацвярджае таленавітасць леташняй дэбютанткі "Маладосці". К. Безмацерных валодае ўжо на сённяшні дзень усімі патрэбнымі для празаіка навыкамі. Хочацца верыць, што гэтыя навыкі не патонуць у сумятлівым шалупінні яе студэнцкіх будняў, але адліюцца ў форму грунтоўнай, сур'ёзнай прозы.

З драматычных твораў часопіс прапануе паданне ў дыялогах Я. Конева "Калядная зорка". Твор па-свойму трактуе легенды пра калядныя святы. Час дзеяння п'есы пазначаны "колькі тысячагоддзяў да Раства Хрыстова". З такой дацыроўкай можа быць толькі казка альбо навуковае даследаванне. Казка і ёсць. Гэтую п'есу добра будзе ставіць у самадзейных тэатрах. Альбо зняць мультфільм? Бо вобразы Казы і Мядзведзя яўна спісаныя з сучасных гумарных мульцяшных герояў. Дарэчы, якраз нядаўна чытаў навуковую манаграфію гарвардскага прафесара пра калядныя звычаі ва ўсходніх славян, дзе якраз уся абраднасць знаходзіць трывалы падмурак, на думку прафесара, у хрысціянскай традыцыі, а не паганскай, як перакананыя амаль усе ўсходнія славяне, у тым ліку і Я. Конеў.

Аповесць А. Дзялендзіка "Эскулап і фея" больш падобная да кінасцэнарыя. Кароткія падзейныя "перабежкі", пахапкавыя характарыстыкі персанажаў, вострасюжэтнасць, урэшце, надакучваюць і да канца чытаць ужо не хочацца. Ды і здымаць фільм на такую бытавую тэматыку, дзе ўся інтрыга трымаецца на дзвюх-трох няновых трывіяльных думках і вобразах, наўрад ці хто захоча. Трэць часопіснай плошчы часопіс аддаў А. Дзялендзіку, відаць, таму, што па ягоным сцэнарыі некалі была пастаўленая "Анастасія Слуцкая". Аднак ці варта перайманца падобнымі двайнымі стандартамі?

Часопіс далучаецца да святкавання 90-годдзя Міколы Аўрамчыка і публікуе падборку класічных вершаў юбіляра.

З першага нумара 2010 года "Маладосць" распачынае публікацыю фундаментальнага даследавання Яна Длугаша (польская гісторыка XV ст.), прысвечанага бітве пад Грунвальдам, 600-годдзе якой сёлета будзе адзначаць славянскі свет. Пераклад працы (праўда, не пазначана з якой мовы і з якога выдання) здзейсніў А. Вашчанка (каментарыі — Л. Разумоўскай, Б. Казанскага і А. Вашчанкі).

Крытычны аддзел прадстаўлены артыкулам Я. Гарадніцкага пра творчасць В. Шніпа і эсэ А. Карлюкевіча "Думны настаўнік Купалы…" пра класіка польскай паэзіі Юльюша Славацкага, чыё 200-годдзе святкуецца сёлета.

Публіцыстычная частка студзенскай "Маладосці" складаецца з нарыса А. Марціновіча "На пагорках, на ста сямі горках" пра культурніцкую працу ў Капыльскім раёне і артыкулам І. Клімковіч "І тэхнічны, і… паэтычны" пра Беларускі дзяржаўны тэхнікум прамысловасці будаўнічых матэрыялаў.

Часопіс таксама працягвае публікацыю краязнаўчага даведніка "Літаратурныя мясціны Беларусі".



У. Караткевіч з аповесцю "Перадгісторыя" рызыкуе ўвайсці ў гісторыю (прабачце ненаўмысную таўталогію) літаратуры як наймалодшы з геніяльных празаікаў. Маркуючы па прадмове А. Вераб'я, Уладзіміру Сымонавічу ці было тады 20 гадоў, калі ён пісаў гэтую рэч. Аднак жа твор бездакорны, і ўжо з першай старонкі бярэ ў палон філігранным стылем, фірмовай "барочнай" пышнасцю прозы Караткевіча. Ці не наблыталі тэкстолагі? Гэта рука сталага аўтара, і толькі дзе-нідзе сустракаюцца пэўныя наіўноты стылю, просценькія канцылярытныя думкі, якія сталы Караткевіч, бясспрэчна, выкрасліў бы цвёрдай рукою. Прагалы сюжэта таксама ёсць, але заўважыць іх можна хіба па змене празаічнага рытму, чым уласна ў разрыве сюжэтнай лініі. Далейшы лёс Яна праглядае ўжо і з першай надрукаванай часткі. Дык будзем чакаць працягу. Як усё ж такі адчувальна не хапае і сёння ў бягучай перыёдыцы Караткевічавага слова, што нават юначы рускамоўны твор яго выклікае такі рэзананс і ўсеагульную цікаўнасць! А ён жа, Уладзімір Сымонавіч, мог бы яшчэ жыць…

Дэбют у паэтычным аддзеле — вершы М. Пягасіна. Як і адзначае ва ўхвальнай прадмове Ю. Сапажкоў, аўтар адразу заяўляе сябе як неардынарны і самабытны паэт. Паэтычнае выказванне М. Пягасіна супадае з катрэнам; кожны з іх — завершаны вобраз, і гэтым адсылае да лепшых традыцый рускай класікі. Наогул, паэт у пошуку, і разнастайнасць у страфіцы таму пацвярджэнне. Ёсць тут, вядома, і залішняя дэбютанцкая пафаснасць. І дай Божа, каб яна не засланіла сабою неўзабаве жывое пачуццё паэта. Адзначым як бясспрэчную ўдачу верш "В автобусе". А вось іншым рускамоўным беларускім лірыкам — В. Медунецкаму і А. Лапошыч — трэба імкнуцца да больш ёмістай вобразнасці, бо шлях, які яны абралі — шлях метафары і шлях апрошчанасці — да дабра (чытай "да сапраўднай паэзіі") не давядзе.

Апавяданне Ж. Мілановіч "Ён, Яна і Ышка" радуе нетрывіяльнай распрацоўкай старых сюжэтаў, увагай да бытавой дэталі і мастацтвам недагаворанасці. З апавяданняў у нумары твор Ж. Мілановіч — найлепшы.

У перакладзе на беларускую мову загучалі вершы вядомай паэткі Н. Кучмель, аўтара зборніка "Імгненні…" Яшчэ з перакладаў сучаснай беларускай літаратуры — раздзел з рамана "Дом" А. Глобуса, прысвечаны бацьку пісьменніка — Вячаславу Адамчыку.

Апавяданне І. Дзегцяровай "Намалюю на пяску крыж", нягледзячы на сваю "вострую" ваенную тэматыку, нечакана выявілася нудным, "снатворным" эсэ-разважаннем. Апавяданне А. Вязава "Пясчаны шлях", якое тэматычна ў нечым перагукаецца з творам І. Дзегцяровай, таксама не пазбаўлена хібаў, аднак тут "думкі з нагоды" не запоўнілі ўсю прастору, частка яе засталася і герою. Твор, скажам так, візуальны, падобны да кінанавелы. Але, фігуральна кажучы, яму не хапае своеасаблівай коды, ход твора занадта прасталінейны і ўрэшце пераходзіць на халасты...

У гэтым нумары часопіс "Нёман" адкрывае рубрыку "Адзін верш" (традыцыя гэтая, бясспрэчна, перанялася ад былой "Крыніцы" з рубрыкай "Я маю твор…"). Вельмі патрэбная рэч, бо як часта здараецца, што з дасланай аўтарам нізкі можна ўпэўнена надрукаваць толькі адзін верш. Але "адзін" — не колькасць для публікацыі, таму і адкладаецца падборка да лепшых часоў. Вось жа, няблага было б увесці такую рубрыку ва ўсіх нашых літаратурных выданнях. Бо, калі аўтар мае нават і адзін варты твор, то ён, безумоўна, ужо мае свой твар. Які не грэх паказаць людзям.

Дзялянка "Сусветнай літаратуры" ў нумары радуе перадусім пачаткам публікацыі рамана Марка Дзюгена "У Францыі шчаслівы, як бог". Твор адлюстроўвае падзеі 1930 — 40-х — часы французскага Супраціўлення і наогул даволі цікава апісвае тагачасных французаў і акупантаў, псіхалогію персанажаў. З вершаваных перакладаў публікуецца нізка класіка XIX ст. Шарля Бадлера (пераклад Н. Івановай) і сучаснага паэта Хенрыка Козака (пераклад з польскай — Г. Міхайлоўская).

У раздзеле "Дакументы. Запіскі. Успаміны" публікуецца дакументальны нарыс М. Бублеева пра аднаго з былых кіраўнікоў БССР Міхаіла Зімяніна. Нарыс збірае ў адно большасць сведчанняў пра гэтага палітыка і будзе карысным не толькі для гісторыкаў, але і для ўсіх, хто цікавіцца нядаўнім мінулым нашай краіны. Да мемуарнай рубрыкі на гэты раз прымыкае і раздзел "Да 65-годдзя Вялікай Перамогі" з успамінамі В. Кірпічэнкі пра 181-ю верталётную базу.

У крытычным аддзеле студзенскага "Нёмана" нельга не адзначыць разгорнутую рэцэнзію Г. Кісялёва на зборнік Г. Дубянецкай "Анадыямена". Выхад гэтай кнігі стаў сапраўднай падзеяй для аматараў паэзіі, але рэцэнзій было няшмат. Г. Кісялёў з любоўю аналізуе кнігу, дае сваю інтэрпрэтацыю паэзіі Г. Дубянецкай. Яшчэ з крытычных матэрыялаў нумару — кароткія рэцэнзіі А. Марціновіча і Т. Красновай-Гусачэнкі на, адпаведна, кнігі Х. Гурыновіча і Н. Голубевай, а таксама традыцыйны "Кніжны агляд".

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# Свой пісьменнік у Чыкага

Апошні раз з Цімохам Ліякумовічам я бачыўся, здаецца, у 1997 годзе. Ва ўсякім разе гэта адбылося падчас ягонага ўступлення ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Пазнаёміліся ж мы дзесьці ў пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя, калі Цімафей Барысавіч працаваў настаўнікам Цялушскай сярэдняй школы Бабруйскага раёна, завітаў у "ЛіМ", каб прапанаваць штосьці са сваіх рукапісаў. Яны тычыліся лёсаў нашчадкаў Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна на беларускай зямлі.




Такі кірунак у сваёй творчасці Ц. Ліякумовіч выбраў невыпадкова. Менавіта з навакольнымі мясцінамі звязала сваё жыццё ўнучка генія рускай дый сусветнай паэзіі Наталля Варанцова-Вельямінава. Жывучы пад Бабруйскам у маёнтку Вавулічы, які належаў яе мужу, герою руска-турэцкай вайны, Наталля Аляксандраўна займалася адукацыяй вясковых дзяцей, пабудавала царкву.

Малады на той час настаўнік Ц. Ліякумовіч устанавіў, што з прыкладна трохсот нашчадкаў Пушкіна ў свеце восемдзесят належаць да так званай бабруйскай лініі. Пра гэта ён пазней і расказаў у сваёй кнізе "Потомки Пушкина в Белоруссии", пачатак якой, несумненна, быў пакладзены тымі першымі ягонымі публікацыямі. А ўвогуле ён выбраў у сваёй даследчыцкай працы кірунак, звязаны з узаемасувязямі беларускай літаратуры з іншымі літаратурамі. Прынамсі, і кандыдацкую дысертацыю ў 1973 годзе паспяхова абараніў па тэме "Паэзія Янкі Купалы ў рускіх перакладах". А праз дваццаць гадоў гэтаксама паспяхова стаў і доктарам філалагічных навук.

Як жа здзівіўся, што пасля гэтага пра Ц. Ліякумовіча ні слыху ні дыху. Толькі пазней даведаўся, што ў 1999 годзе ён па сямейных абставінах пераехаў у ЗША, у Чыкага. Таму чарговая наша сустрэча з ім адбылася толькі год назад. Праўда, завочная. "Сустрэча" гэтая стала магчымай дзякуючы таму, што мне перадалі ягоную кнігу "Белорусские сполохи".

Нядаўна патрапіла ў рукі яшчэ адна кніга Цімафея Барысавіча — "Настальгія", выдадзеная ўжо ў Мінску. Праўда, без аўтографа, бо перадалі яе мне выдаўцы па просьбе Ц. Ліякумовіча.

Што ж уяўляе сабой сённяшні Ц. Ліякумовіч? Думаецца, лепей, чым пра гэта расказаў у прадмове "Вернік чатырох культур" Адам Мальдзіс і не скажаш:

"Ёсць такое выкананне музычнага твора — ігра на фартэпіяна ў чатыры рукі. Сам я не музыкант, але адчуваю, што гэта складана, бо патрабуе каардынацыі, узгодненых дзеянняў дзвюх асобаў. А тут адна асоба, пісьменнік і даследчык (не ведаю, што тут паставіць на першае месца, а што на другое) Цімох (Цімафей Барысавіч) Ліякумовіч адной рукой (ці дзвюма, калі працуе на камп'ютэры) "іграе" на чатырох культурах, дакладней — на карысць чатырох культур. Беларускай, рускай, яўрэйскай і амерыканскай".

Калі працягваць у гэтым жа рэчышчы, то нельга не адзначыць: "ігра" апошнім часам становіцца ўсё больш адметнай і выразнай. Ц. Ліякумовіч удалечыні ад Бацькаўшчыны не проста вядзе актыўную літаратурную дзейнасць, у тым ліку і дзейнасць журналісцкую — прынамсі, дзякуючы яму ў двухтыднёвіку "Земляки", што выходзіць у Злучаных Штатах Амерыкі, рэгулярна з'яўляецца старонка "Беларускія зарніцы". Усе творчыя намаганні Ц. Ліякумовіча — журналісцкія, бадай, у першую чаргу — скіраваны на тое, каб нашы суайчыннікі, якіх лёс закінуў за акіян, ведалі пра тое, што адбываецца ў грамадскім і культурным жыцці Рэспублікі Беларусь.

Гэтай высакароднай задачы — пракладванню свайго роду мастоў паміж двума берагамі — падначалена і кніга "Белорусские сполохи". Сваю мэту Ц. Ліякумовіч вызначыў такім чынам: "Не прэтэндуючы на аднаўленне цэласнай панарамы гісторыі беларускай мастацкай літаратуры, гэтае выданне дае магчымасць замежнаму рускамоўнаму чытачу пазнаёміцца з некаторымі яе прадстаўнікамі і ўзорамі іх творчасці ў рускім перакладзе, што дазволіць пераканацца ў высокім гуманізме, эстэтычнай насычанасці і агульначалавечай значнасці беларускай літаратуры".

Ахоп імёнаў шырокі. Пры гэтым Ц. Ліякумовіч імкнецца, наколькі гэта магчыма, быць аб'ектыўным. Таму ягонай увагай не абыдзена творчасць пісьменнікаў, якія, на жаль, не заўсёды ацэньваюцца крытыкамі належным чынам. У кнізе "Белорусские сполохи" яны "адчуваюць" сябе на роўных, бо за аснову бярэцца той крытэрый, без якога і не абысціся, калі без прадузятасці гаварыць пра сапраўдную літаратуру — мастацкасць. Таму суайчыннікі, якія жывуць за мяжой, могуць атрымаць уяўленне пра творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі, Янкі Журбы, Кузьмы Чорнага, Максіма Танка, Івана Шамякіна, Пімена Панчанкі, Васіля Быкава, Міколы Аўрамчыка, Янкі Брыля, Станіслава Шушкевіча, Уладзіміра Караткевіча і іншых пісьменнікаў — менавіта ў такім парадку прадстаўляе іх Ц. Ліякумовіч. Такая кніга, дарэчы, з'явілася ў ЗША ўпершыню, што, безумоўна, нельга не вітаць.

Назва другой кнігі сама гаворыць за сябе. "Настальгія" — гэта душэўны стан не толькі аднаго Ц. Ліякумовіча, а ці не ўсіх тых, хто развітаўся з Радзімай, але па-ранейшаму не ўяўляе сабе жыцця без яе. "Высакародны чалавек не можа заставацца абыякавым да таго, што адбываецца на пакінутай зямлі, а па магчымасці спрабуе і наведаць краіну, з якой вымушаны быў эміграваць" — гэта прызнанне самога Ц. Ліякумовіча, якое прагучала яшчэ ў адной ягонай кнізе "Прописаны в сердце", што складаецца з дзвюх частак.

У першай з іх Цімафей Барысавіч расказвае пра наведванне Ізраіля, дзеліцца сваімі ўражаннямі ад сузірання яўрэйскіх, хрысціянскіх і мусульманскіх святыняў. У другой — пра тое, што ніколі не забываецца, а, наадварот, пастаянна жывіць душу і сэрца незабыўнасцю ўражанняў, што з цягам часу становяцца яшчэ больш важным — распавед пра сённяшнюю Беларусь, напісаны яе ўдзячным сынам, які хоча, каб і іншыя пераканаліся, наколькі наша краіна прыгожая сваёй непаўторнасцю.

Голас аўтара кнігі гучыць ва унісон з развагамі журналіста Максіма Клёнава, які так і не стаў на чужыне па-сапраўднаму сваім чалавекам: "...адцурацца ад роднага краю — значыць, адцурацца ад усяго свайго жыцця. Навошта тады я нарадзіўся на белы свет? Хоць і падоўжылася тут маё жыццё, але паміраць на чужыне больш цяжка, чым на Радзіме. Ды ў чужой зямельцы адчуваць сябе чужым будзеш і на тым свеце. Горка гэта ўсведамляць".

Максім Клёнаў — герой апавядання "Настальгія". Несумненна, у гэтыя развагі Ц. Ліякумовіч уклаў і свае ўласныя думкі. Гэтаксама яму блізка і тое, што прамаўляе Рыгор Мятлін з апавядання "Сыноўская адданасць": "Усё так ясна, выразна паўстае ў памяці, быццам пракручваюцца кадры кінакарціны, быццам да ўсяго гэтага магчыма дакрануцца рукой. Значыцца, пупавіна мая не адарвалася ад Беларусі. Але ж няма ў жыцці лёгкіх дарог".

Творы, прадстаўленыя ў "Настальгіі", як няцяжка заўважыць, аўтабіяграфічныя ў сваёй аснове. Якое апавяданне ні возьмеш (апроч названых, гэта "Адуванчыкі нагадалі", "Прыпяцкі пясок", "Яе талісман"), абавязкова сутыкнешся з тым, што самім пісьменнікам прапушчана праз сэрца, сведчыць аб чуйнасці ягонай душы і высокай маральнасці. Хоць у прозе ён, можна сказаць, у пэўнай ступені і навічок, але адчувае сябе ў новым жанры ўпэўнена. Аб гэтым сведчыць і тое, што ў 2005 годзе пры падвядзенні вынікаў літаратурнага конкурсу беларусаў замежжа "Нашчадкі Скарыны", што ладзіла рэдакцыя газеты "Голас Радзімы" пераможцам у намінацыі "Проза" стаў менавіта Ц. Ліякумовіч.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# Трэцяя кніга «Беларуса»

У Нью-Йорку выйшаў з друку літаратурны альманах беларускіх пісьменнікаў замежжа "Беларус-2009". Выдаўцом альманаха з'яўляецца газета "Беларус", а рэдактарам — Марат Клакоцкі. Дэбют альманаха "Беларус" адбыўся ў 2007 годзе. Потым быў другі альманах — "Беларус-2008". І вось — трэці.




На-рознаму гэтыя выданні былі сустрэты і ацэнены чытачамі, але, калі з беларускімі выданнямі на эміграцыі з кожным годам становіцца цяжэй і цяжэй, і дзесяткі беларускіх газет і часопісаў у Германіі, Францыі, Канадзе, Аўстраліі, Бельгіі, ЗША ўжо не выдаюцца, такое выданне трэба вітаць. Такі альманах павінен быць і выдавацца, аб'ядноўваючы вакол сябе новых эмігрантаў-беларусаў, якія маюць здольнасці да "краснага пісьменства". Ды і памерам "Беларус-2009" значна пераўзыходзіць папярэднія. (Ён налічвае 280 старонак, а папярэднія складаліся з 205 і 188 старонак. Найперш аб'ём выдання павялічваецца за кошт новых аўтараў і, вядома ж, твораў.)

"Беларус-2009" адкрываецца вершамі Георгія Аскеркі. Гэта радкі-прызнанне Беларусі. Аўтар задае сабе пытанне: за што я люблю Беларусь і сам шчыра адказвае: "Люблю, бо яна ў сэрцы".

У маладога аўтара ёсць і шчымлівыя радкі пра каханне. Ён успамінае пра сваю каханую, якая засталася ў Беларусі, і жыве надзеяй, што яна па-ранейшаму яго кахае і што яны абавязкова сустрэнуцца.

Настальгія і ўспаміны пра родных і сяброў, пра каханых людзей скразной лініяй праходзяць амаль праз усе паэтычныя творы аўтараў "Беларуса-2009". Лявон Баравы ў адчаі піша: "Не чакай, не чакай ты мяне, я назад да цябе не вярнуся". Зміцер Дабыдзенка прызнаецца: "Да вачэй глыбокіх і вішнёвых вуснаў я з краёў далёкіх да цябе імкнуся". Юры Жавалікоўскі свае радкі прысвяціў Віялеце Кавалёвай, пры сустрэчы якой "будзе доўга рукі цалаваць". А Людміла Карайчэнцава ўспамінае Браслаў, Відзы й дождж, а таксама тое імгненне, калі "гарыць свяча, сядзіць адна і піша ліст каханаму" і г.д. Тая ж Віялета Кавалёва надрукавала арыгінальную падборку вершаў і песняў на матывы савецкіх песень мінулых дзесяцігоддзяў. Гэта і дзіцячыя песні, і песні з папулярных савецкіх кінафільмаў і мультфільмаў. Але іх паэтка пераказала па-свойму, у якіх выказала любоў да Беларусі, да свайго народа. І атрымалася ў яе даволі вобразна, шматфарбна, разнастайна.

Упершыню ў "Беларусе" надрукавалі свае творы Барыс Данілюк з ЗША і Алег Мінкін з Літвы. Трэці раз са сваімі творамі выступае на старонках альманаха Макс Шчур. На гэты раз ён здзівіў чытачоў не толькі сваімі філасофскімі вершамі, але і празаічным творам з такім вось доўгім назвам: "Семнаццаць імгненняў музы, альбо Бататуйская літаратура XX стагоддзя ў эміграцыі ад А да Я". І напісаў ён сваю рэч, як прызнаецца сам аўтар, пад уплывам першай кнігі чылійца Раберта Боланё "Нацы-літаратура ў Амерыцы", у якой усе імёны прыдуманыя і не маюць адпаведнікаў між рэальных творцаў, таму загадзя аўтар папярэдзіў калег ад спробаў кагосьці пазнаць. І, скажу шчыра, "імгненні" ў Макса Шчура атрымаліся смелыя, хаця разумею, што смелыя шуканні, вядома, ніколі не могуць абысціся без пэўнага элемента эксперыментальнасці — той долі рызыкі, наватарскага новаўвядзення, якія трэба творча праверыць, вынесці на суд грамадскасці, замацаваць у эстэтычнай свядомасці чытачоў. І ўсё ж творчы эксперымент Макса Шчура, а таксама празаіка Віталя Воранава, паэта Сержука Сокалава-Воюша, нельга ўяўляць як апрабацыю нечага звышскладанага, перспектыўнасць якога — пад вялікім пытальнікам. Іх творы зразумелыя, цікавыя ва ўсіх мастацкіх адносінах, філасофічна ўзмужнелыя і чытэльныя.

З годнымі творамі ў альманаху выступаюць бацька і сын Мурзёнкі: адзін з іх з паэмай "Лыжнік", другі — успамінамі пра канец 1930-х на Віцебшчыне.

Апошні раздзел штогодніка называецца "Народная сатыра і гумар". У мінулых выпусках "Беларуса" сатыра і гумар адсутнічалі. Цяпер на яе старонках з'явіліся быліцы вершам "Найноўшыя дзеі беларусаў у Нью-Йорку". Ведзьмака Брайтан-Бруклінскага. Да гэтых быліцаў Сяржук Сокалаў-Воюш напісаў уступ, у якім ён кажа, што "паэма "Найноўшыя дзеі беларусаў у Нью-Йорку" паводле стылю больш нагадвае не столькі славутыя "Тарас на Парнасе", "Энеіду навыварат" ці "Лысую гару", колькі гутаркі — ананімныя рукапісныя творы пачатку XIX стагоддзя, у якіх аўтары вялі размову з народам пра надзённыя праблемы...". Цяжка з гэтым пагадзіцца, бо асноўны грамадзянскі пафас твораў беларускай ананімнай літаратуры пазамінулага стагоддзя быў сялянска-дэмакратычны. Стыхійна-сялянскай дэмакратычнай ідэйнай накіраванасцю найперш тады вылучалася большасць беларускіх ананімных народных гутарак XIX стагоддзя, а пазней і творы выхадцаў з сялянскага асяроддзя. Параўнаць "Найноўшыя дзеі беларусаў у Нью-Йорку" з тымі творамі проста немагчыма. "Найноўшыя дзеі..." — гэта кволенькі экспромт, дзе згадваюцца ў рыфму прозвішчы беларускіх палітыкаў і літаратараў, накшталт такіх:

Ходзяць чуткі
на Брайтане й навокала:
У Амерыку перабраўся
Воюш-Сокалаў...

Новы альманах, як і мінулыя, багаты на пераклады. Ірына Варабей і Віктар Кавалеўскі пераклалі на родную мову творы Паўліны Джонсан, Томаса Кінга і іншых замежных аўтараў.

З празаічных твораў вылучаюцца таксама ўдалыя апавяданні Валянціны Якімовіч, Аляксандра Тарановіча, Віталя Зайкі, Станіслава Бабкевіча.

Сяргей ЧЫГРЫН

Паласу падрыхтавалі доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Адам Мальдзіс і кандыдат філалагічных навук Жанна Запартыка.



# Шлях яркі і надзейны

Рыдаў пад парывам восеньскага ветру Нёман, імжыла ласкава-мяккім дождж ыкам нізка навіслае над Ярэмічамі шэрае неба, плакалі артысты, сябры, землякі, сваякі… Праводзілі ў апошні шлях вядомага заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, самабытнага і цікавага празаіка, паэта Анатоля Жука. Людзі такога тэмпераменту, як у Толі, сустракаюцца даволі рэдка. З маладосці і па апошні дзень жыцця яго можна было ўгадаць па імклівасці хады: "насіўся, як тарнада".

А тут упершыню — спакойны і ўраўнаважаны, з адбіткам суровасці і скептыцызму на мармурова-халодным твары. Вось-вось, здаецца, расплюшчацца добрыя шэрыя вочы і ўсміхнуцца сваёй звычайнай цеплынёй. Абвядуць здзіўленым позіркам прысутных, запытаўшыся следам грымотна-зычным голасам:

Я думаў, што даўно ужо памёр, —
Я быў паэт, пасля я стаў акцёр —
А я жыву! І сэрца маё б'ецца.
Ці то напраўду? Ці то мне здаецца?

Так і не адбылося цуда, якое не раз адбываецца на сцэне яго ўлюбёнага Тэатра юнага гледача. Заснуў надоўга любімы ўсімі, усімі, усімі… "Ён і ў дзяцінстве быў самым любімым у класе, — у час жалобнага мітынгу распавядала яго першая настаўніца Ганна Бандарык. — Памятаю, прыйшоў у першы клас такі тоненькі, з вялікім букетам кветак. Ён умеў незвычайна сябраваць, у яго заўсёды былі сябры. Яго любілі за дабрыню і шчырасць". "Сапраўды, — падкрэсліў у сваёй прамове заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Леанід Улашчанка, — Толя быў шчырым і сапраўдным сябрам, таленавітым артыстам. Умеў і мог пастаяць за праўду. Прага справядлівасці — адна з яго самых яркіх рысаў характару. Але дзіўна, што пры сваёй моцнай натуры ён быў вельмі чуллівы, нават ранімы, што мы, яго калегі, назіралі не раз. І таму трэба было з ім быць асабліва асцярожным, каб не дай Бог не давесці яго да слязы, тым самым на пэўны час не адштурхнуць яго ад сябе".

Чытаючы яго вершы, аповесці, апавяданні, раман "Бульвар", назіраючы за ім на сцэне, у жыцці, многія пераконваліся ў нябеснай чысціні яго характару, глыбока народнай мудрасці, а ў фігуры асілка і моцнага мужыка не раз бачылі наіўна-дзіцячую безабароннасць, спрацаваную душу і хворае сэрца, якое патрабавала ўвагі і падтрымкі. Аднойчы ў час сяброўскай гутаркі прызнаваўся: "Раней спрабаваў абаперціся на чыёнебудзь сяброўскае плячо. А з часам зразумеў, што калі сам за сябе не пастаіш, для сябе не папрацуеш — нікому няма да цябе справы… Таму і хаваю сваю безабароннасць у сіле свайго "я", і таму, відаць, сэрца з гадамі баліць усё больш…"

І каб не крычаць на ўвесь белы свет, што апошнім часам мала роляў, што не столькі належнай увагі аддаецца сапраўднаму Чалавеку, яму, які мужна і цярпліва чакаў да сябе вартай павагі, нікога не прыніжаючы, не расчыняючы дзвярэй адным штуршком нагі. Заслужаны артыст Беларусі, таленавіты пісьменнік, яркі паэт, прызнаны сцэнарыст Анатоль Жук пра сябе сціпла заяўляў:

Мой агонь — дык не болей, як месяц
Можа высветліць шлях напаказ.
Вось таму не будую я лесвіц,
Каб узлезці вышэй на Парнас.

І ўсё-такі за сціпласцю радкоў хаваецца высветлены шлях надзейны і яркі, след, які пакідае пасля сябе Чалавек.

Або, нібы сам сябе хаваючы, вуснамі свайго героя аповесці "Брат" гаварыў:

"…і ўсе гэтыя гады, сустракаючы яго амаль кожны дзень, я не задумваўся: як і чым жыве гэты чалавек? Кажу вам шчыра — не задумваўся. Так, я ведаў, што ў яго ёсць дом і на стале яго дома хлеб, што ёсць сыны, якім ён даў жыццё, і што жывуць яны на зямлі яго праўдай. Я ведаў, і ведаў таму, што гэта той бок чалавечага жыцця, які звычайна бачаць усе. А вось той, нябачны бок, які ёсць у кожнага з нас – якім ён быў у яго?! Аб гэтым я не задумваўся: лічыў непатрэбным. Ды і часу не хапала. А зараз вельмі шкадую і буду адказваць усім сваім сумленнем. Таму што сёння трэба не толькі патрабаваць ад людзей, але ведаць і разумець іх душы. І без гэтага жыць нам далей — няможна. Таму сёння я пытаюся ў сябе: што шукаў гэты чалавек на зямлі? Якая радасць грэла яго сэрца? І што было тою галоўным вестуном той радасці? Якая надзея жывіла яго душу і давала сілы на новы дзень? Магчыма, на ўсе пытанні я не знайду адказ, а на некаторыя і ўвогуле ніколі. Але я буду шукаць, таму што хачу хоць крыху быць падобным да гэтага чалавека…"

"Дзесяць гадоў таму, — пачала сваю прамову намеснік дырэктара тэатра Наталля Чашэйка, — ад імя аднавяскоўцаў я выступала са словамі ўдзячнасці, казала, што мы ганарымся ім, што ён апраўдаў нашы надзеі… А цяпер адчуванне віны, што не з'явіліся раней за бяду, што ў нечым не дапамаглі, не паслухалі, не дае спакою…"

"Пачуццё віны прыходзіць са спазненнем — мо ў гэтым уся бяда чалавека? Калі ён малады і дужы, такія "дробязі" яго мала турбуюць. А вось калі чалавек пажыў, калі жыццё яго памяла, павучыла, ён робіцца разумнейшы, ды, на жаль, ужо нельга паправіць таго, што можна і што трэба было зрабіць раней", (з аповесці "Сонца паглядзець").

"Не прапусціць гэтае свае пары, не аказацца глухім да голасу сумлення, які жыве ў чалавеку, але гучыць мацней пад канец яго жыцця — у гэтым увесь сакрэт, — кажа нам сваімі аповесцямі і апавяданнямі Анатоль Жук, празаік самабытны, цікавы і глыбокі. Усё, што ён напісаў, пазначана навізной адкрыцця, таму і хвалюе, таму і абуджае думку", — падкрэсліў Уладзімір Дамашэвіч.

А ён, мудры, зразумеў гэта даўно, таму і спрабаваў да многіх дакрычацца, каб распавесці, як важна ведаць сваё "мінулае і вартым быць яго". Любіў свайго бацьку, пра якога з гордасцю паведамляў: "Закончыў Жыровіцкую семінарыю, бывала, днём — у царкве, а вечарам — у клубе на спектаклі, у "Мікітавым лапці" іграў таленавіта, заўсёды з поспехам". А пра маці ўспамінаў настолькі душэўна, як толькі можа пяшчотна адгукацца сапраўдны сын: "Ёй, беднай, у тыя пасляваенныя гады каб пракарміць сям'ю — якую фантазію трэба было мець. Бывала, да бульбы купляла лёк, каб хоць як разнастаіць тагачасную бедную кухню…" З асаблівай павагай гаварыў пра брата Мікалая, які спаць не ляжа, каб не прачытаць перад сном цікавую кнігу. Пра сына яго Сяргея — таленавітага хірурга, пляменніцу Таню. Не раз прыгадваў брата Георгія і сястру Шуру. Але не заўсёды і не да кожнага сэрца можна дайсці са сваімі думкамі.

І каб хоць як звярнуць увагу на свае разважанні, ён пачаў разматваць з намі праз кнігі — паэзію і прозу, дзе ў кожным слове і выразе яго свабодалюбівае "Я": "І не я вінаваты ў тым першабытным жывёльным дзікунстве. Я, можа, самы прыстойны з усяго чалавечага роду. Я люблю музыку і дождж, вузенькія сцяжынкі сярод жытнёвага поля і нахабныя ў сваёй прыгажосці васількі, вялікасную адзіноту радараў, пагрозлівы тупат грымотаў, маляўнічыя тэлевізійныя шоу і народныя гулянні ў глухіх вёсках. Я люблю смачна паесці і паспаць, а таксама, без уліку часу, працаваць — і губляць, працаваць — і знаходзіць. Мне падабаецца круціць кола – калейдаскоп часу — з шалёнасцю сцюжы, залевы, урагану. І не магу, не жадаю вытравіць, кастрыраваць, затаўчы, запляваць сваю неўтаймоўную кіпучасць дзікай прыроды, сваё — хачу! — пачварнай прыстойнасцю педанта, праедзенага моллю, плюшавага інтэлігента, ці імпатэнта, які хавае сваю слабасць пад знакам выхаванасці…"(з рамана "Бульвар").

Пра рускага паэта С. Ясеніна В. Сарокін сказаў: "Талент нараджаецца адзін. Расце адзін. Але талент — не адзінокая істота". Гэта пацвердзіў усім сваім жыццём, сваёй мнагаграннай і разнастайнай творчасцю Анатоль Жук. І таму, будучы часцей адзін, заставаўся не адзінокі, маючы, як рэдка хто, шмат сяброў.

Мае сябры — мне здрада і любоў.
Мае сябры — маёй крыві атрута.
І мне не будзе шчасця без сяброў,
Як не бывае шчасця без пакуты.

Сярод шматлікіх сяброў, самых дарагіх і блізкіх, у Ярэмічы – першую радзіму Анатоля Жука — прыехаў вядомы драматург, мастацкі кіраўнік Драматычнага тэатра Беларускай Арміі, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі Аляксей Дудараў. Па-сяброўску шчыра вёў жалобны мітынг, гаварыў сам — цёпла, пранікнёна, са шкадаваннем заўчаснай смерці Лепшага з Лепшых, які не паспеў ажыццявіць яшчэ многія-многія планы свае, вярнуўшыся спачыць да любімых бяроз, роднага Нёмана, дарагіх з дзяцінства краявідаў… Яны і цяпер плачуць над сваім "артыстам" (так з дзяцінства празвалі Толю аднавяскоўцы). У вачах стаіць фігура брата Мікалая, што не паспяваў сціраць слёзы, якія скочваліся з твару, нібы пасля залевы. Сястра Шура праз слёзы і рыданні гаварыла з братам, як з жывым, што абяцаўся прыехаць на яе юбілей, а сабраў людзей з іншай нагоды…

Трымаю ў руках кнігу "Туга" і не без горычы чытаю:

Пачну з таго, што буду верыць!
І ў гэтым кроплі не схлушу.
Не зачыняю ў хату дзверы,
Гасцей за стол свой запрашу.

Не схлусіў — дзверы ў хату былі расчынены ўсім. Толькі ж не за такім сталом, дарагі сябра, мы жадалі сядзець. І, магчыма, яшчэ больш цёплых слоў табе нагаварылі б. Цяжка змірыцца з такой стратай. Застаецца толькі сказаць табе вядомыя радкі:

"Не сумуй, не тужы…Вітальна
Сустракай свой час не самотны,
"Бо з табою твой май світальны,
Бо з табою нябёсаў грымоты!"

Магчыма, не адзін з нас сёння паўторыць словы з аповесці А. Жука "Брат": "Хачу хоць крыху быць падобным да гэтага чалавека, які так умеў любіць і адчуваць людзей, і нашу зямлю, і быць ім верным. І за тое дзякуй табе, чалавек. Даруй, што не паспеў сказаць табе гэта раней. Даруй… і бывай".

Вера БУЛАНДА

# Побач з марай

## Памяці Станіслава Саладоўнікава

Мінула больш за сорак дзён, як з намі няма Станіслава Саладоўнікава — таленавітага крытыка, публіцыста, пісьменніка, які пайшоў з жыцця... З цягам часу больш выразна пачынаеш разумець тое, чаго не паспеў усвядоміць у першыя гадзіны пасля жалобнай весткі: наколькі гэта вялікая страта для беларускай фантастыкі, літаратуры наогул.

У 1981 годзе ў рэспубліканскай газеце "Знамя юности" пачала рэгулярна з'яўляцца паласа "Фаэтон", прысвечаная фантастыцы. З цікавасцю прачытаў там некалькі апавяданняў, сціпла падпісаных "С. Солодовников", і парадаваўся, што ў папулярны жанр прыйшоў яшчэ адзін таленавіты аўтар. Але ён абраў для сябе больш складаны і цярністы шлях: стаў даследчыкам беларускай фантастыкі і яе нястомным прапагандыстам. Знакамітыя "фантастычныя сямёркі" часопіса "Рабочая смена" (пазней "Парус"), салідныя падборкі апавяданняў беларускіх фантастаў у часопісе "Нёман" — ніводная з іх не абыходзілася без актыўнага ўдзелу Станіслава Васільевіча.

У не такія ўжо і далёкія часы, калі беларускія выданні і выдавецтвы па звычцы "асцярожнічалі" ў дачыненні да фантастыкі, ён, быццам ледакол, літаральна прабіваўся скрозь крыгі неразумення і непрымання, "прывучаў" выдаўцоў і чытачоў да думкі пра важнасць і неабходнасць развіцця жанру. З задавальненнем прыгадваю нашу сумесную працу над серыяй "Галактика" (выдавецтва "Універсітэцкае") у той рамантычны перыяд. І сёння ў Інтэрнеце можна знайсці захопленыя водгукі пра кнігі "Обнаженное солнце", "Конец детства", "Крылья ночи", у якіх былі сабраныя лепшыя ўзоры замежнай фантастыкі.

Шэраг анталогій фантастычных твораў, у тым ліку айчынных, былі укладзены Станіславам Саладоўнікавым для выдавецтваў "Мастацкая літаратура", "Юнацтва". І ў кожнай прадмове ці пасляслоўі да гэтых ці іншых зборнікаў, як і ў сваіх кнігах і артыкулах, ён выказаў нямала арыгінальных думак і плённых ідэй. У кнізе "Люди дара", артыкулах "Три волны белорусской фантастики", "Параллельная пересякающая" Станіслаў Васільевіч падкрэсліваў, што ўяўленне, фантастыка дазваляюць смела зірнуць у твар Невядомаму, гавораць пра іх канструктыўную ролю ў жыцці грамадства.

Пісьменнікаў-фантастаў у Беларусі не сказаць, каб шмат, але яны ёсць. Ён быў адзін. І яго творчая спадчына — гэта летапіс нараджэння, станаўлення і развіцця жанру фантастыкі ў Беларусі, яго гісторыя і дзень сённяшні. Станіслаў Васільевіч апекаваўся маладымі фантастамі, даваў ім каштоўныя прафесійныя парады. Так, ён указваў на беларускую міфалогію, традыцыйную культуру як на невычэрпна багатую крыніцу сюжэтаў, раіў "прыглядзецца" да недаацэненага і цяпер беларускага вучонага Альберта Вейніка, чыя навуковая творчасць — сапраўдная скарбніца ідэй для фантаста.

Памятаю, як у тэлевізійнай перадачы "Слова пісьменніка" ён захоплена гаварыў пра эўрыстычную ролю фантастыкі ў адукацыі, выхаванні маладога пакалення. Называючы выхад у 2007 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" зборніка "Люстэрка Сусвету" выключнай з'явай у сучаснай беларускай літаратуры (гэта насамрэч першая падобная анталогія — па жанравай і стылістычнай разнастайнасці твораў, колькасці аўтараў), Станіслаў Саладоўнікаў у прадмове да кнігі адзначыў, што яна павінна прыйсці ў школы і гуманітарныя ВНУ.



Ён быў перакананы, што ў краіне, дзе створана свая "Сіліконавая даліна" — Парк высокіх тэхналогій, фантастыка не можа не быць запатрабаванай. Марыў, што яе будуць выкладаць у ВНУ, як гэта ўжо адбываецца ў некаторых краінах. Думаецца, час гэты недалёка, у тым ліку і дзякуючы намаганням Станіслава Васільевіча, які рабіў дзеля гэтага ўсё, што ад яго залежала. У прыватнасці, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай філалогіі і сусветнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў Станіслаў Саладоўнікаў вёў у гэтай ВНУ спецкурс па фантастыцы — пакуль адзіны ў нашай краіне…

Смерць напаткала Станіслава Васільевіча за працоўным сталом. Ён рыхтаваў новую кнігу, артыкул пра навінкі беларускіх выдавецтваў. На жаль, яны засталіся недапісанымі.

…Перада мной ляжыць даўні артыкул Станіслава Саладоўнікава "Поплеч з марай: пра беларускую фантастыку". У ім аўтар выказаў глыбокую перакананасць у тым, што ў Беларусі маецца сур'ёзны грунт для развіцця фантастыкі, што яна патрэбна нашай краіне. Станіслаў Васільевіч марыў пра вялікую будучыню беларускай фантастыкі. Для мяне ягонае імя заўсёды будзе стаяць побач з гэтай марай.

Генадзь АНУФРЫЕЎ



**Напісаць гэтыя нататкі мяне падштурхнула вось якая акалічнасць. Даволі ўжо працяглы час ажыццяўляецца ў сталічнай мастацкай галерэі "Універсітэт культуры" унікальны праект "Тэхна-Арт", які першы ў Беларусі актуалізаваў тэму тэхна-мастацтва, спалучыўшы ў сабе ўсе напрамкі сучаснай мастацкай творчасці, што маюць тэхнічны складнік, і стварыўшы з іх арганічную суцэльнасць. Адбылася ўжо шостая выстаўка. Яе тэма — "Тэхна-Арт. Жалеза" — сталася нагодай для мастацкіх эксперыментаў і гульняў з гэтым старажытным і адначасова маладым матэрыялам. Ёсць сэнс не толькі пагаварыць пра канкрэтную выстаўку, але і асэнсаваць фірмовы праект нашай галерэі больш глыбока, нават у "гістарычным" аспекце.**



# З выбуховым эфектам

## Не толькі пэндзлем і алоўкам ствараецца выяўленчае мастацтва

Першапачатковa праект меў на мэце абвясціць правa на існаванне тэхна-мастацтва ў культурным і мастацкім асяроддзі Беларусі. Зразумела, што дзеля прыцягнення грамадскай увагі трэба было рабіць праект-выбух. Праект-выклік тагачасным уяўленням пра тое, што можа звацца мастацтвам, а што не. І менавіта сцвярджэнне, што мастацтва ствараецца не толькі пэндзлем і алоўкам, стала асноўным пасланнем першых выставак праекта.

Натуральна, што першымі падтрымалі ідэю "Тэхна-Арта" студэнты і невялікая колькасць знаных мастакоў: Вадзім Качан, Сяргей Ждановіч. Але "Тэхна-Арт" быў задуманы не як аднаразовая дзея, а як праект, які б з цягам часу мяняўся, набываў новую мастацкую якасць. З кожным годам кола ўдзельнікаў яго выставак пашыралася, экспазіцыі ўзмацняліся творамі прызнаных майстроў, такіх, як Уладзімір Цеслер, Андрэй Шчукін, Валерый Вядрэнка, Юрый Васільеў, Віталь Раковіч, Аляксандр Некрашэвіч...

Можна вылучыць тры асноўныя напрамкі, што існуюць у "Тэхна-Арце". Работы, створаныя пры дапамозе розных тэхналогій: камп'ютэрная анімацыя, 3D-графіка, лічбавае фота і мантаж. Арт-аб'екты, створаныя з элементаў тэхнасферы, ды творы, натхнёныя тэхнагенным асяроддзем (жывапіс, графіка).



Прыгадайма арт-аб'екты, якія прыцягвалі найбольшую ўвагу гледачоў і прэсы. Парадаксальная "Газавая сімфонія" Уладзіміра Цеслера — газавыя вентылі, пакрытыя рознакаляровым гламурным аксамітам. "Тэхна-стажок" творчага аб'яднання Паўла Вайніцкага, Дар'і Іваноўскай і Сяргея Завіжэнца: ён уяўляў сабою стог сапраўднага (пахкага, толькі з пожні) сена са змешчаным у ім камп'ютэрам, манітор якога дэманстраваў аўтэнтычныя беларускія спевы, што перыядычна перабіваліся камп'ютэрнымі кодамі. Аб'екты дызайнера Сяргея Шылы "Праліць свято" і "Адзінота", створаныя з прадметаў сялянскага побыту мінулага стагоддзя, уражвалі сваёй філасофскай глыбінёй і метафарычнасцю. "Кот Разеткін", сабраны з рэштак хатняй тэхнікі Таццянай Гомзай, не пакідаў абыякавымі ніводнага наведвальніка галерэі. "Танкавая атака" — выбітная металапластыка самабытнага скульптара Андрэя Капуснікава. Вопыты маладой фотамастачкі Аляксандры Салдатавай у стварэнні арт-аб'ектаў таксама мелі плён. "Іржа" і "Каробка перадач" прываблівалі як сваёй формай, так і глыбокім унутраным зместам. Варта адзначыць "Еўрастандарт. У мэтах эканоміі энергарэсурсаў" — кіпяцільнік, выраблены ў традыцыйнай беларускай тэхніцы пляцення з саломкі Вольгай Мешчараковай, студэнткай БДУ культуры і мастацтваў.

Важным складнікам "Тэхна-Арта" ёсць відэа-арт, які дарэчы, дэманструецца на працягу ўсяго часу, пакуль працуе выстаўка, на шматлікіх экранах ды маніторах і з'яўляецца неад'емнай часткай экспазіцыі. 3D-анімацыю, флэш-анімацыю, камп'ютэрную графіку прадстаўляюць у асноўным работы Аляксандра Шчэпетава і яго вучняў, студэнтаў аддзялення "Тэлерэклама" Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Цікавыя для публікі таксама відэаработы Данілы Рыбкіна, Сяргея Ждановіча і Андрэя Рашатко, аўтара выдатнага анімацыйнага роліка "Кот і мора".

Першая выстаўка, якая не мела яшчэ свайго аблічча, асобнай канцэпцыі, была спробай, праглядам магчымасцей беларускага тэхна-мастацтва. З работамі, якія прадстаўлялі "чысты арт", суседнічалі тыпова вучэбныя планшэты студэнтаў БДАМ. Наступныя экспазіцыі праекта атрымалі ўласнае імя і канцэптуальнае абгрунтаванне. Так, другая выстаўка акрэслівала "Прастору жыцця" тэхна-мастакоў, трэцяя адшуквала "Новыя грані" мастацтва высокіх тэхналогій. Чацвёртая абвясціла мастацкі "Час гульні". А пятая сталася сапраўдным пятым элементам у канструкцыі "Тэхна-Арта", што падводзіў вынікі пяцігадовага існавання выставачнага праекта ("Пяты элемент"). І вось — "Жалеза", дзе мастакі атрымалі магчымасць паказаць уласнае бачанне месца і ролі гэтага матэрыялу ў тэхна-мастацтве, ад просталінейнага да метафарычнага.

Дык ці ёсць канфлікт паміж Тэхна і Артам? Ужо на шасці выстаўках мастакі даследавалі гэтую праблему, шукалі і знаходзілі адказ, і ў кожнага ён быў свой, асабісты. Спадзяюся, што "Тэхна-Арт" і надалей будзе выходзіць да гледача са сваімі пытаннямі ды адказваць на іх, ствараючы нагоду для нестандартнай творчасці, правакуючы на крэатыў.

Дзяніс БАРСУКОЎ,
куратар праекта "Тэхна-Арт",
дырэктар мастацкай галерэі
"Універсітэт культуры"

На здымках: работы Вольгі Мешчараковай, Таццяны Гомзы, Алеся Суровага, Вадзіма Качана і Уладзіміра Цеслера.

Фота аўтара





## У наступным нумары "ЛіМ"

Апублікаваны на зыходзе мінулага года ў часопісе "Полымя" раман "Мяжа" Андрэя Федарэнкі выклікаў шырокі чытацкі і крытычны розгалас. Ацэнкі падчас бываюць вельмі палярныя, а нярэдка і залішне катэгарычныя. Агулам, гэта няблага па сённяшнім нелітаратурным часе і, думаецца, будзе не толькі на карысць канкрэтнаму аўтару, але і надасць энергіі ўсяму сучаснаму літаратурнаму працэсу. У чарговым нумары свае крытычныя прыярытэты вызначаюць і вызначаюцца як літаратурныя асобы на фоне творчага плёну пісьменніка Андрэя Федарэнкі крытыкі Сяргей Грышкевіч і Лада Алейнік.

## З глыбінкі

# Кубак з рук француза

У кампазітара з Новалукомля Аляксандра Дзямідчыка чацвёра дзяцей. Так сталася, што любоў бацькі да музыкі азвалася і ў іх. Двое старэйшых ужо дараслыя, а музыка займае не апошняе месца ў іх жыцці. Зараз робіць свае першыя крокі на сцэне васьмігадовая дачка Яна. Наколькі паспяхова гэта атрымоўваецца, мяркуйце самі.

Юная навалукамчанка нядаўна вярнулася з Масквы. Яна прымала ўдзел у пятнаццатым міжнародным конкурсе аматарскага і прафесійнага дзіцяча-юнацкага мастацтва "Роза вятроў-2009". Праходзіў ён у рамках прыярытэтнага нацыянальнага праекта "Адукацыя" па рэалізацыі кірунку "Дзяржаўная падтрымка таленавітай моладзі". У фестывалі бралі ўдзел дзіцячыя і маладзёжныя творчыя калектывы, а таксама выканаўцы ва ўзросце да 19 гадоў з 58 рэгіёнаў Расійскай Федэрацыі і 15 замежных краін (Балгарыі, Італіі, Францыі, Эстоніі ды іншых). Па запрашэнні аргкамітэта конкурсу Беларусь прадстаўляла навалукамчанка Яна Дзямідчык — пераможца летняга фестывалю "Роза вятроў-2009" на Нарачы.

У рамках юбілейнай праграмы праходзілі конкурсы па намінацыях "Выканаўцы народнай песні", "Выканаўцы на народных інструментах", "Акадэмічны вакал", "Выканаўцы эстраднай песні", "Эстрадны танец", "Выканаўцы інструментальнай музыкі"... Запамінальнымі для Яны Дзямідчык былі творчыя сустрэчы з вядомымі дзіцячымі кампазітарамі і артыстамі, замежнымі калектывамі. Але самым яркім і хвалюючым момантам стала, безумоўна, урачыстая цырымонія ўзнагароджання і гала-канцэрт пераможцаў. Яна Дзямідчык атрымала званне дыпламанта другой ступені і кубак ад старшыні журы фестывалю Мішэля Раге з Францыі. Яна выступала ў намінацыі "Эстрадны вакал" (малодшая група) і выканала дзве песні свайго таты на беларускай мове "Капялюш" і "Прынцэса".

Для васьмігадовай дзяўчынкі ўдзел у фестывалі такога ўзроўню стаў своеасаблівым выпрабаваннем. Прычым гэта яе першы вопыт выхаду на так званую вялікую сцэну. Праўда, усяму папярэднічала сур'ёзная падрыхтоўка. Аляксандр і Анжаліка Дзямідчыкі, бацькі Яны, імкнуцца ўсебакова развіваць сваю дачку: яна вучыцца ў музычнай школе іграць на фартэпіяна, займаецца ў бальна-спартыўным ансамблі "Вясёлка", вакальнай студыі "Краіна цудаў", а яшчэ захапляецца бісерапляценнем.

Наталля СТУКАЛАВА

"ЛіМ"

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3104
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 18.02.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 760
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686